МІНІСТЭРСТВА АДУКАЦЫІ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

ВУЧЭБНАЯ ПРАГРАМА

для ўстаноў агульнай сярэдняй адукацыі
з беларускай мовай навучання

# ЗАМЕЖНЫЯ МОВЫ

## англійская, нямецкая, французская, іспанская, кітайская

## III—XI класы

*Зацверджана*
*Міністэрствам адукацыі*
*Рэспублікі Беларусь*

МІНСК
НАЦЫЯНАЛЬНЫ ІНСТЫТУТ АДУКАЦЫІ
2012

# ТЛУМАЧАЛЬНАЯ ЗАПІСКА

Вучэбны прадмет «Замежная мова» выконвае важную ролю ў фарміраванні полікультурнай асобы, здольнай выкарыстоўваць вывучаемую мову ў разнастайных сітуацыях міжкультурнай камунікацыі. Яго змест спрыяе павышэнню ўзроўню гуманітарнай адукацыі вучняў пры дапамозе далучэння да духоўнага багацця іншых народаў, фарміраванню гатоўнасці да ўзаемаразумення, выхаванню ў духу талерантнасці, развіццю здольнасці перадаваць падчас іншамоўных зносін уласныя думкі і пачуцці.

Вывучэнне замежнай мовы як сродка зносін у кантэксце дыялогу нацыянальных культур у спалучэнні з авалоданнем навыкамі і ўменнямі самаадукацыйнай і пазнавальнай дзейнасці на ёй абумоўлівае высокую акадэмічную, агульнаінтэлектуальную, культуралагічную і практычную значнасць прадмета.

Мэты і змест навучання замежным мовам арыентаваны на сумеснае вывучэнне моў і культур. Замежная мова выступае як сродак фарміравання і выхавання маральна адказнай асобы, як сродак зносін, пазнання, асэнсавання і інтэрпрэтацыі фактаў іншай культуры, усведамлення сваёй уласнай культуры і азнаямлення з ёй прадстаўнікоў іншамоўных згуртаванняў.

## Мэты навучання замежнай мове

***Стратэгічны мэтавы арыенцір*** навучання замежным мовам — фарміраванне полікультурнай асобы вучняў шляхам выкарыстання патэнцыялу вучэбнага прадмета для сацыялізацыі падрастаючага пакалення, з’яўлення ў яго гуманістычных каштоўнасных арыентацый, узбагачэння духоўнага свету падчас авалодання іншамоўнай камунікатыўнай кампетэнцыяй.

*Адукацыйныя мэты* — авалоданне асноўнымі відамі маўленчай дзейнасці (успрыманне і разуменне іншамоўнага маўлення на слых,

гаварэнне, чытанне, пісьмо і пісьмовае маўленне) і фарміраванне адпаведных моўных ведаў, маўленчых навыкаў і ўменняў; узбагачэнне моўнага, маўленчага і асобаснага вопыту вучняў пры дапамозе пашырэння кругагляду і на аснове засваення культуразнаўчых і лінгвакраіназнаўчых рэалій.

Рэалізацыя адукацыйных мэт накіравана на практычнае авалоданне замежнай мовай як сродкам зносін у адзінстве яе кагнітыўнай, камунікатыўнай і экспрэсіўнай функцый; на фарміраванне ўменняў самастойнай работы з іншамоўным матэрыялам.

*Развіваючыя мэты* — кагнітыўнае, камунікатыўнае і эмацыянальнае развіццё вучняў пры дапамозе авалодання спосабамі фарміравання і фармулявання думкі на замежнай мове, умацавання лінгвістычнага кампанента гуманітарнага мыслення, узбагачэння эмацыянальна-пачуццёвай сферы асобы, фарміравання моўнай здольнасці ў адзінстве параджэння і ўспрымання маўлення.

Развіваючыя мэты рэалізуюцца пры дапамозе развіцця і ўдасканалення маўленчых механізмаў і здольнасцей, што забяспечваюць успрыманне і перадачу інфармацыі з дапамогай моўных сродкаў вывучаемай замежнай мовы на аснове атрыманых ведаў, навыкаў і ўменняў.

*Выхаваўчыя мэты* — сацыялізацыя асобы пры дапамозе забеспячэння гатоўнасці да міжкультурнай камунікацыі, узбагачэння духоўнага свету вучняў, выхавання ў іх культуры мыслення і маўленчых паводзін; фарміраванне гуманістычных каштоўнасных арыентацый.

Рэалізацыя выхаваўчых мэт спрыяе эфектыўнай адаптацыі асобы да іншага сацыяльнага асяроддзя, забяспечваючы самакантроль і адэкватную самаацэнку.

Мэты навучання замежным мовам дасягаюцца падчас фарміравання ў вучняў іншамоўнай камунікатыўнай кампетэнцыі ў адзінстве яе складальнікаў (маўленчага, моўнага, сацыякультурнага, кампенсаторнага, вучэбна-пазнавальнага).

**Камунікатыўная кампетэнцыя** — валоданне сукупнасцю маўленчых, моўных, сацыякультурных норм вывучаемай мовы, а таксама кампенсаторнымі і вучэбна-пазнавальнымі ўменнямі, якія дазваляюць выпускніку ўстановы агульнай сярэдняй адукацыі ажыццяўляць міжкультурную камунікацыю і вырашаць камунікатыўныя, адукацыйныя, пазнавальныя і іншыя задачы.

*Маўленчая кампетэнцыя* — сукупнасць навыкаў і ўменняў маўленчай дзейнасці (гаварэнне, успрыманне і разуменне маўлення на слых, чытанне і пісьмо), веданне норм маўленчых паводзін; набыццё на гэтай аснове вопыту іх ужывання для пабудовы лагічнага і звязнага па форме і змесце ўласнага выказвання; а таксама для разумення і інтэрпрэтацыі выказвання іншых людзей.

*Моўная кампетэнцыя* — сукупнасць ведаў аб правілах функцыянавання моўных (фанетычных, арфаграфічных, лексічных і граматычных) сродкаў у маўленчай дзейнасці і навыкаў іх выкарыстання ў камунікатыўных мэтах.

*Сацыякультурная кампетэнцыя* — сукупнасць ведаў аб нацыянальна-культурнай спецыфіцы краін вывучаемай мовы, уменняў будаваць свае маўленчыя і немаўленчыя паводзіны ў адпаведнасці з гэтай спецыфікай, уменняў прадстаўляць на гэтай аснове сваю краіну і яе культуру ва ўмовах іншамоўных міжкультурных зносін.

*Кампенсаторная кампетэнцыя* — сукупнасць уменняў выкарыстоўваць дадатковыя вербальныя сродкі і невербальныя спосабы рашэння камунікатыўных задач ва ўмовах дэфіцыту наяўных моўных сродкаў.

*Вучэбна-пазнавальная кампетэнцыя* — сукупнасць агульных і спецыяльных вучэбных уменняў, неабходных для ажыццяўлення самастойнай дзейнасці па авалоданню замежнай мовай, вопыт іх выкарыстання.

Дасягненню мэт навучання павінны садзейнічаць усе формы адукацыйнага працэсу.

## Агульныя патрабаванні да зместу навучання

Змест моўнай адукацыі ўяўляе сабой адзінства прадметнага і эмацыянальна-каштоўнаснага кампанентаў. Авалоданне прадметным і эмацыянальна-каштоўнасным кампанентамі зместу адукацыі прадугледжвае набыццё вопыту, неабходнага ў міжкультурнай камунікацыі.

Эмацыянальна-каштоўнасны кампанент зместу моўнай адукацыі ўключае сукупнасць адносін асобы да сусветнай моўнай і культурнай спадчыны, а таксама да працэсу авалодання ёй у мэтах асобаснага росту. Дадзены кампанент забяспечвае набыццё вопыту іншамоўных зносін шляхам рэфлексіі, самапазнання, самавызначэння. Працэс авалодання замежнай мовай набывае для вучня асобасны сэнс.

Прадметны змест моўнай адукацыі ўключае:

- сферы зносін і прадметна-тэматычны змест маўлення;
- віды маўленчай дзейнасці і моўны матэрыял;
- сацыякультурныя веды: культуразнаўчыя, краіназнаўчыя і лінгвакраіназнаўчыя;
- кампенсаторныя і вучэбна-пазнавальныя ўменні і навыкі самастойнай работы з іншамоўным матэрыялам;
- авалоданне замежнай мовай як сродкам зносін, адукацыі і самаадукацыі.

Прадметны кампанент зместу забяспечвае валоданне замежнай мовай як сродкам міжкультурных зносін.

Змест моўнай адукацыі ў адзінстве яе лінгвістычнага і экстралінгвістычнага кампанентаў фарміруецца з улікам псіхалагічных і псіхалінгвістычных асаблівасцей працэсу авалодання замежнай мовай.

Адбор зместу вучэбнага матэрыялу, які падлягае засваенню, ажыццяўляецца на аснове наступных метадалагічных арыенціраў:

- накіраванасць педагагічнага працэсу на падрыхтоўку да міжкультурных зносін;
- усебаковы ўлік узаемасувязей: мова—мысленне—культура;
- прад'яўленне каштоўнасцей пазнавальнай культуры ў дыялогу з роднай;
- інтэграцыя моўнага, сацыякультурнага, аксіялагічнага кампанентаў зместу навучання;
- аўтэнтычнасць і каштоўнасная значнасць іншамоўных матэрыялаў;
- адпаведнасць вучэбнага матэрыялу сучасным гутарковым нормам вывучаемай мовы.

Структураванне вучэбнага матэрыялу ажыццяўляецца на аснове наступных патрабаванняў:

- бесперапыннае канцэнтрычнае прад'яўленне і назапашванне ведаў;
- паэтапнае фарміраванне навыкаў і ўменняў;
- пераемнасць этапаў працэсу авалодання замежнай мовай;
- пастаянная апора на моўны, маўленчы і асобасны суб'ектны вопыт вучняў;
- спалучанасць у авалоданні маўленнем і сістэмай мовы;

- улік магчымасцей для фарміравання ўменняў самастойнай работы з іншамоўнымі інфармацыйнымі крыніцамі ў самаадукацыйных мэтах.

Рэалізацыя зместу моўнай адукацыі прадугледжвае паслядоўны ўлік наступных асноўных палажэнняў камунікатыўна-арыентаванага навучання:

- мадэліраванне сітуацый зносін, якія стымулююць вучняў да рашэння камунікатыўных задач падчас вывучэння замежнай мовы;
- сітуатыўна абумоўленае авалоданне лексікай і граматыкай вывучаемай мовы;
- выкарыстанне камунікатыўна-арыентаваных заданняў на аснове імітацыйных, гульнявых і свабодных зносін;
- актыўнае ўцягванне вучняў у працэс зносін у якасці маўленчых партнёраў;
- ажыццяўленне адукацыйнага працэсу ва ўмовах, набліжаных да рэальных зносін;
- стварэнне матывацыйнай гатоўнасці і патрэбнасці вучняў ва ўспрыманні і засваенні вучэбнага матэрыялу ва ўмовах, набліжаных да рэальных зносін.

## Сферы зносін і іх прадметна-тэматычны змест

***Сацыяльна-бытавая сфера.*** Сям'я. Знешнасць. Характар. Міжасобасныя адносіны. Сябры. Харчаванне. Нацыянальная кухня. Здароўе. Здаровы лад жыцця. Распарадак дня. Дапамога па доме. Пакупкі. Грошы. Адзенне. Свет моды. Дом. Кватэра. Віды жылля. Горад і вёска. Жывёлы.

***Вучэбна-працоўная сфера.*** Школьныя прылады. Школа. Вучоба. Расклад урокаў. Урок замежнай мовы. Школьныя традыцыі. Адукацыя. Выбар прафесіі.

***Сацыяльна-культурная сфера.*** Святы. Вольны час. Канікулы. Выхадны дзень. Любімыя заняткі. Кнігі. Літаратура. Кіно. Кінафільмы. Тэлеперадачы. Музыка. Мастацтва. Сучасныя сродкі камунікацыі. Сродкі масавай інфармацыі. Спорт. Падарожжы. Моладзь і грамадства. Міжнароднае супрацоўніцтва. Нацыянальны характар.

***Сацыяльна-пазнавальная сфера.*** Краіны і кантыненты. Падарожжа па розных краінах. Турызм. Рэспубліка Беларусь і краіны вы-

вучаемай мовы. Прырода. Поры года. Надвор’е і клімат. Экалогія. Звычаі і традыцыі Рэспублікі Беларусь і краін вывучаемай мовы. Навука і тэхніка. Знакамітыя людзі Рэспублікі Беларусь і краін вывучаемай мовы. Сацыяльна-культурны партрэт Рэспублікі Беларусь і краін вывучаемай мовы.

## Маўленчыя ўменні

*Успрыманне і разуменне маўлення на слых* — уменні разумець іншамоўнае маўленне ў працэсе непасрэдных зносін з субяседнікам, уменні разумець разнажанравыя аўдыё- і відэатэксты з рознай паўнатой і дакладнасцю пранікнення ў іх змест.

*Гаварэнне* — уменне ажыццяўляць дыялагічныя, маналагічныя і полілагічныя зносіны ў адпаведнасці з мэтамі, задачамі і ўмовамі камунікацыі, з захаваннем норм маўленчага і немаўленчага этыкету.

*Чытанне* — уменні чытаць і разумець разнажанравыя тэксты з рознай паўнатой і дакладнасцю пранікнення ў іх змест у залежнасці ад віду чытання і далейшага выкарыстання інфармацыі.

*Пісьмовае маўленне* — уменне прадуцыраваць розныя віды пісьмовых тэкстаў у адпаведнасці з нормамі, прынятымі ў краінах вывучаемай мовы, з улікам камунікатыўных задач і адрасата.

## Моўныя веды і навыкі

Веды аб сістэме вывучаемай мовы, правілах функцыянавання моўных сродкаў (фанетычных, лексічных, граматычных) у маўленні і навыкі іх выкарыстання ў камунікатыўных мэтах.

## Сацыякультурныя веды і ўменні

Веды сацыякультурнага кантэксту сваёй краіны і краін вывучаемай мовы, уменне будаваць свае маўленчыя і немаўленчыя паводзіны ў адпаведнасці з іх спецыфікай, уменне прадстаўляць сваю краіну і яе культуру ва ўмовах іншамоўных міжкультурных зносін.

## Кампенсаторныя ўменні

Уменні выкарыстоўваць розныя вербальныя і невербальныя сродкі для кампенсацыі прабелаў у камунікацыі ва ўмовах дэфіцыту моўных сродкаў, недахопу маўленчага і сацыяльнага вопыту.

## Вучэбна-пазнавальныя ўменні

Агульныя і спецыяльныя вучэбныя ўменні, неабходныя для ажыццяўлення самастойнай пазнавальнай дзейнасці па авалоданню іншамоўным маўленнем і культурай краін вывучаемай мовы.

* * *

Змест навучання прадстаўлены ў вучэбнай праграме праз прадметна-тэматычны змест зносін, патрабаванні да практычнага валодання відамі маўленчай дзейнасці, моўны матэрыял (фанетыка, лексіка, граматыка) для кожнага класа.

У прадметна-тэматычным змесце абазначаны асноўныя камунікатыўныя задачы. Курсівам адзначаны камунікатыўныя задачы для гімназій і ліцэяў.

Патрабаванні да практычнага валодання відамі маўленчай дзейнасці — працягласць гучання тэксту, колькасць рэплік на кожнага субяседніка ў дыялагічным маўленні, аб'ём выказвання ў маналагічным маўленні, аб'ём тэксту для чытання, аб'ём тэксту для пісьмовага маўлення — задаюць асноўныя параметры для ўсіх відаў маўленчай дзейнасці. Пачынаючы з V класа, лічбавае абазначэнне дадзеных параметраў, а таксама прадуктыўны і рэцэптыўны лексічны мінімум неабходна разумець так: першая лічба абазначае патрабаванні для ўстаноў агульнай сярэдняй адукацыі (акрамя гімназій, ліцэяў), другая — для гімназій, ліцэяў. Напрыклад, працягласць гучання тэксту — 1—1,5 мін; прадуктыўны мінімум: 210—250 лексічных адзінак; рэцэптыўны мінімум: 120—180 лексічных адзінак; агульны аб'ём прадуктыўнай лексікі: 610—650 лексічных адзінак; агульны аб'ём рэцэптыўнай лексікі: 240—300 лексічных адзінак.

Граматычны матэрыял, які падлягае вывучэнню, аднолькавы для ўсіх відаў устаноў агульнай сярэдняй адукацыі. Патрабаванні да валодання граматычным матэрыялам адрозніваюцца аб'ёмам яго прадуктыўнага засваення. Граматычныя з'явы для рэцэптыўнага засваення, адзначаныя зорачкай (*), у гімназіях і ліцэях павінны быць засвоены на прадуктыўным узроўні.

Факультатыўныя заняткі ва ўстановах агульнай сярэдняй адукацыі рэкамендуецца праводзіць у адпаведнасці з вучэбнымі праграмамі, зацверджанымі ва ўстаноўленым парадку.

# III КЛАС

**105 гадзін**

## ПРАДМЕТНА-ТЭМАТЫЧНЫ ЗМЕСТ ЗНОСІН

| Сфера зносін | Прадметна-тэматычны змест | Камунікатыўныя задачы |
|---|---|---|
| | | У канцы года вучань павінен умець |
| Сацыяльна-бытавая | Мая сям'я | • Даць інфармацыю аб сабе (імя, узрост, месцажыхарства)<br>• Расказаць і распытаць аб бліжэйшых сваяках<br>• Знаёміцца, вітацца, развітвацца<br>• Выказаць удзячнасць |
| | Знешнасць | • Апісаць сваю знешнасць (асноўныя часткі цела, колер валасоў, вачэй)<br>• Апісаць членаў сям'і |
| | Прадукты харчавання | • Назваць прадукты харчавання<br>• Расказаць аб сваіх густах і распытаць аб густах субяседніка<br>• Прапанаваць пачастунак |
| | Мой пакой / класны пакой | • Запытаць і даць інфармацыю аб асноўных прадметах мэблі ў пакоі/класе |
| | Жывёлы | • Назваць і апісаць жывёл (колер, велічыня, харчаванне)<br>• Расказаць, што жывёла ўмее рабіць |
| Вучэбна-працоўная | Школьныя прылады | • Паведаміць аб наяўнасці/адсутнасці школьных прылад, іх месцазнаходжанні<br>• Назваць асноўныя віды дзейнасці на ўроку<br>• Ветліва папрасіць/прапанаваць ручку, аловак<br>• Папрасіць прабачэння за спазненне<br>• Папрасіць дазволу ўвайсці і выйсці |
| Сацыяльна-пазнавальная | Поры года | • Назваць поры года і апісаць іх<br>• Расказаць пра любімую пару года |

## ПАТРАБАВАННІ ДА ПРАКТЫЧНАГА ВАЛОДАННЯ ВІДАМІ МАЎЛЕНЧАЙ ДЗЕЙНАСЦІ

### Успрыманне і разуменне маўлення на слых

Вучні павінны разумець на слых указанні настаўніка, якія звязаны з вядзеннем урока, іншамоўныя тэксты маналагічнага і дыялагічнага характару, пабудаваныя на вывучаным моўным матэрыяле, у прад'яўленні настаўніка, у гуказапісе, у тэмпе, набліжаным да натуральнага, з візуальнай апорай.

Віды тэкстаў: казка, апавяданне, рыфмоўка, верш, дзіцячая песня.

Працягласць гучання тэксту — 0,5 мінуты.

### Гаварэнне

***Дыялагічнае маўленне***

Вучні павінны ўмець запытваць і паведамляць інфармацыю асабістага характару з захаваннем элементарных норм маўленчага этыкету.

Віды дыялогу: этыкетны дыялог, дыялог-распытванне.

Колькасць рэплік на кожнага субяседніка — 3.

***Маналагічнае маўленне***

Вучні павінны ўмець:

- паведамляць інфармацыю ў межах вывучанага моўнага матэрыялу;
- апісваць прадметы.

Віды маналагічнага выказвання: паведамленне, апісанне.

Аб'ём выказвання — не менш за 4 фразы.

### Чытанне

Вучні павінны:

- ведаць літары алфавіта і іх асноўныя гука-літарныя адпаведнасці;
- умець чытаць услых і самому сабе кароткія тэксты дыялагічнага і маналагічнага характару, якія пабудаваны на вывучаным моўным матэрыяле.

Віды тэкстаў: казка, апавяданне, рыфмоўка, верш.

Аб'ём тэксту — прыкладна 750 друкаваных знакаў з прабеламі.

### Пісьмо

Вучні п а в і н н ы ў м е ц ь:

- пісаць усе літары алфавіта;
- пісаць словы і сказы з апорай на ўзор;
- правільна пісаць сваё імя, дату.

## МОЎНЫ МАТЭРЫЯЛ

### АНГЛІЙСКАЯ МОВА

**Фанетыка**

Гукі англійскай мовы, працягласць і кароткасць галосных гукаў. Адсутнасць аглушэння звонкіх зычных. Рэдукцыя гукаў у ненаціскных складах. Інтанацыя формул маўленчага этыкету.

**Лексіка**

*Прадуктыўны мінімум:* 200 лексічных адзінак.

*Рэцэптыўны мінімум:* 50 лексічных адзінак.

*Словаўтварэнне:* суфікс лічэбнікаў *-teen.*

**Граматыка**

***Граматычны матэрыял для прадуктыўнага засваення***

***М а р ф а л о г і я***

*Назоўнік:* утварэнне множнага ліку назоўнікаў з дапамогай *-s, -es.*

*Артыкль:* формы неазначальнага артыкля *a/an*, азначальны артыкль *the*.

*Прыметнік:* месца прыметніка ў сказе.

*Займеннік:* асабовыя, прыналежныя займеннікі.

*Лічэбнік:* колькасныя лічэбнікі 1—20.

*Дзеяслоў:* сцвярджальная і адмоўная формы дзеясловаў *to be, to have* ў *Present Simple*. Загадны лад.

*М а д а л ь н ы д з е я с л о ў: can* для выражэння дазволу, магчымасці, здольнасці выконваць дзеянні.

*Прыназоўнік:* прыназоўнікі месца *in, on, under*.

*Злучнік: and*.

***С і н т а к с і с***

Простыя апавядальныя і пытальныя сказы з дзеясловамі *to be, to have* ў *Present Simple*. Сказы з аднароднымі членамі. Безасабовыя сказы з фармальным дзейнікам *it (It's warm. It's spring)*.

## НЯМЕЦКАЯ МОВА

**Фанетыка**

Гукі нямецкай мовы, іх адпаведнасць літарам; працягласць і кароткасць галосных, палаталізацыя і прыдыханне. Цвёрды прыступ. Націск у словах. Фразавы націск. Інтанацыя простага апавядальнага сказа. Інтанацыя пытальнага сказа з пытальным словам і без пытальнага слова.

**Лексіка**

*Прадуктыўны мінімум:* 200 лексічных адзінак.

*Рэцэптыўны мінімум:* 50 лексічных адзінак.

*Словаўтварэнне:* суфіксы назоўнікаў *-chen, -lein*; лічэбнікаў *-zig*; словаскладанне: назоўнік + назоўнік; лічэбнік + лічэбнік.

**Граматыка**

***Граматычны матэрыял для прадуктыўнага засваення***

***М а р ф а л о г і я***

*Назоўнік:* біялагічны род назоўнікаў. Адзіночны і множны лік назоўнікаў.

*Артыкль:* азначальны і неазначальны; скланенне артыкля; неазначальны артыкль перад назоўнікам у простым сказе з дзеясловам-звязкай *sein*; адсутнасць артыкля перад назоўнікам, які мае іншыя суправаджальныя словы (лічэбнікі, прыналежныя займеннікі), перад прозвішчамі і імёнамі; артыкль перад назвамі пор года, месяцаў.

*Займеннік:* асабовыя займеннікі ў назоўным склоне. Прыналежныя займеннікі ў назоўным склоне. Безасабовы займеннік *es* у маўленчых узорах тыпу *Es ist kalt. Es regnet*.

*Лічэбнік:* колькасныя лічэбнікі 1—20; да 100 (лічэнне дзясяткамі).

*Дзеяслоў:* знамянальныя дзеясловы; дзеяслоў *sein* у цяперашнім часе *(Präsens Aktiv).*

*М а д а л ь н ы  д з е я с л о ў: können* для выражэння здольнасці, умення, магчымасці; *wollen* для выражэння намеру, волі, гатоўнасці.

***С і н т а к с і с***

Просты сказ. Прамы і адваротны парадак слоў. Парадак слоў у сказе з выказнікам, які выражаны дзеясловам *sein* і назоўнікам у назоўным склоне або прыметнікам у кароткай форме. Парадак слоў з састаўным дзеяслоўным выказнікам, выражаным мадальным дзеясловам і інфінітывам.

Пытальныя сказы з пытальным словам і без пытальнага слова. Адмаўленне *nicht* перад прыметнікамі, нязменнай часткай састаўнога дзеяслоўнага выказніка. Злучнік *und* для аб'яднання аднародных членаў сказа. Безасабовыя сказы.

## ФРАНЦУЗСКАЯ МОВА

**Фанетыка**

Адрозненне на слых і дакладнае вымаўленне ўсіх гукаў французскай мовы. Націск у асобным слове і рытмічнай групе. Асноўныя выпадкі счаплення і звязвання. Інтанацыя апавядальнага (сцвярджальнага і адмоўнага), пытальнага (з пытальнымі словамі і пытальным зваротам *est-ce que*) і пабуджальнага сказаў.

**Лексіка**

*Прадуктыўны мінімум:* 200 лексічных адзінак.

*Рэцэптыўны мінімум:* 50 лексічных адзінак.

**Граматыка**

***Граматычны матэрыял для прадуктыўнага засваення***

***М а р ф а л о г і я***

*Назоўнік:* назоўнікі мужчынскага і жаночага роду; адзіночны і множны лік.

*Артыкль:* азначальны, неазначальны, частковы.

*Прыметнік:* якасныя прыметнікі мужчынскага і жаночага роду, адзіночны і множны лік; прыналежныя прыметнікі *mon/ma, mes, ton/ta, tes, son/sa, ses, notre, nos*; пытальныя прыметнікі *quel, quelle.*

*Займеннік:* асабовыя займеннікі адзіночнага і множнага ліку; пытальныя займеннікі *qui, que, qu'est-ce que, qu'est-ce qui*; націскныя займеннікі *moi*, *toi*.

*Лічэбнік:* колькасныя лічэбнікі да 20.

*Дзеяслоў: le présent*; маўленчыя структуры з найбольш частотнымі дзеясловамі.

*Прыслоўе:* пытальныя прыслоўі *comment, quand, combine, où.*

*Прыназоўнік: à, de, avec, sur, sous, dans.*

***С і н т а к с і с***

Парадак слоў у апавядальным і пабуджальным сказах. Канструкцыі *c'est … / ce sont …* . Безасабовыя звароты *il y a, il fait*. Парадак

слоў у пытальным сказе, які пабудаваны з дапамогай інтанацыі, пытальнага звароту *est-ce que*.

Адмоўная форма апавядальнага сказа.

## ІСПАНСКАЯ МОВА

**Фанетыка**

Гукі іспанскай мовы. Пастаноўка націску ў слове. Адсутнасць змякчэння цвёрдых зычных перад *e, i.* Інтанацыя апавядальных, адмоўных і пытальных сказаў з пытальным словам і без пытальнага слова.

**Лексіка**

*Прадуктыўны мінімум:* 200 лексічных адзінак.

*Рэцэптыўны мінімум:* 50 лексічных адзінак.

*Словаўтварэнне:* суфікс назоўнікаў *-ito(a).*

**Граматыка**

***Граматычны матэрыял для прадуктыўнага засваення***

***М а р ф а л о г і я***

*Назоўнік:* род і лік назоўнікаў.

*Артыкль:* неазначальны артыкль мужчынскага і жаночага роду, нулявы артыкль, зліццё артыкля з прыназоўнікам *del*.

*Прыметнік:* звычайная ступень; род і лік прыметнікаў; дапасаванне прыметнікаў да назоўнікаў.

*Займеннік:* асабовыя займеннікі ў ролі дзейніка; прыналежныя займеннікі (кароткая форма); пытальныя займеннікі *¿qué?, ¿quién?, ¿quiénes?, ¿cuánto(s), ¿cuánta(s)?*.

*Лічэбнік:* колькасныя лічэбнікі 1—50.

*Прыслоўе: mucho, poco, muy, bien, mal*; пытальныя прыслоўі *¿dónde?, ¿cómo?.*

*Дзеяслоў:* спражэнне правільных і няправільных дзеясловаў *(estar, ser, ir, tener, saber)* у *Presente de Indicativo*. Дзеяслоўныя канструкцыі *saber + Infinitivo, poder + Infinitivo, querer + Infinitivo.* Дзеяслоў *gustar (me gusta, te gusta...).*

Безасабовая канструкцыя *hay* + назоўнік.

*Прыназоўнік: de, con, sin, para, en;* прыназоўнікі і прыназоўныя звароты месца *en, entre, sobre, bajo / debajo de, delante de, detrás de, cerca de, lejos de*.

*Злучнік: y.*

***С і н т а к с і с***

Безасабовыя сказы тыпу *nieva, llueva, hace frío (calor), hace mal (buen) tiempo.*

## КІТАЙСКАЯ МОВА

### ПАТРАБАВАННІ ДА ПРАКТЫЧНАГА ВАЛОДАННЯ ВІДАМІ МАЎЛЕНЧАЙ ДЗЕЙНАСЦІ

#### Успрыманне і разуменне маўлення на слых

Вучні п а в і н н ы р а з у м е ц ь на слых указанні настаўніка, якія звязаны з вядзеннем урока, іншамоўныя тэксты маналагічнага і дыялагічнага характару, пабудаваныя на вывучаным моўным матэрыяле, у прад’яўленні настаўніка, у гуказапісе, у тэмпе, набліжаным да натуральнага, з візуальнай апорай.

Віды тэкстаў: апавяданне, рыфмоўка, скорагаворка, верш, дзіцячая песня.

Працягласць гучання тэксту — 0,5 мінуты.

#### Гаварэнне

***Дыялагічнае маўленне***

Вучні п а в і н н ы ў м е ц ь запытваць і паведамляць інфармацыю асабістага характару з захаваннем норм маўленчага этыкету.

Віды дыялогу: этыкетны дыялог, дыялог-распытванне.

Колькасць рэплік на кожнага субяседніка — 3.

***Маналагічнае маўленне***

Вучні п а в і н н ы ў м е ц ь:

- паведамляць інфармацыю ў межах вывучанага моўнага матэрыялу;
- апісваць прадметы.

Віды маналагічнага выказвання: паведамленне, апісанне.

Аб’ём выказвання — не менш за 4 фразы.

#### Чытанне

Вучні п а в і н н ы:

- ведаць знакі транскрыпцыі;

- умець суадносіць іерогліф з транскрыпцыйным знакам і рысункам, які абазначае канкрэтныя прадметы і дзеянні;
- умець чытаць услых і самому сабе кароткія тэксты дыялагічнага і маналагічнага характару (4—5 сказаў), якія пабудаваны на вывучаным моўным матэрыяле і напісаны з дапамогай транскрыпцыйных знакаў.

Віды тэкстаў: апавяданне, рыфмоўка, загадка, скорагаворка, верш, песня.

### Пісьмо

Вучні п а в і н н ы ў м е ц ь:

- пісаць усе транскрыпцыйныя знакі, выкарыстоўваючы паўдрукаваны шрыфт;
- пісаць словы і сказы ў транскрыпцыі з апорай на ўзор;
- пісаць найпрасцейшыя элементы іерогліфа (рысы) і іерогліфы па ўзоры (20 адзінак);
- пісаць рысы ў правільным парадку.

## МОЎНЫ МАТЭРЫЯЛ

**Фанетыка**

Гукі і тоны кітайскай мовы.

**Лексіка**

*Прадуктыўны мінімум:* 200 лексічных адзінак.

*Рэцэптыўны мінімум:* 50 лексічных адзінак.

**Граматыка**

***Граматычны матэрыял для прадуктыўнага засваення***

***М а р ф а л о г і я***

*Назоўнік:* адзіночны і множны лік.

*Лічыльнае слова:* 个, 只, 本, 岁, 块, 支, 把.

*Займеннік:* асабовыя займеннікі 我, 你, 他, 她, 我们, 你们, 他们; указальны займеннік 这.

*Лічэбнік:* колькасныя лічэбнікі да 20.

*Дзеяслоў:* маўленчыя структуры з найбольш частотнымі дзеясловамі; загадны лад.

*Паслялог:* паслялогі месца 里面, 上面, 下面, 前面, 后面.

***Сінтаксіс***

Злучальны злучнік 和. Пытальная часціца 吗. Простыя апавядальныя сказы з дзеясловамі 是，有.

* * *

Вучні павінны валодаць **сацыякультурнымі ведамі і ўменнямі:**

- ведаць на памяць асобныя рыфмаваныя творы дзіцячага фальклору краіны вывучаемай мовы, даступныя па змесце і форме;
- умець удзельнічаць у элементарным этыкетным дыялогу (знаёмства, вітанне, развітанне, падзяка, прабачэнне);
- умець коратка расказаць пра сябе, сваіх бліжэйшых сваякоў і распытаць аб гэтым замежнага равесніка;
- умець напісаць сваё імя і прозвішча на вывучаемай мове.

Вучні павінны валодаць **кампенсаторнымі ўменнямі** ва ўсіх відах маўленчай дзейнасці:

***успрыманне і разуменне маўлення на слых***

- прагназаваць змест аўдыётэксту па загалоўку;
- абапірацца на сродкі зрокавай нагляднасці (малюнкі, фатаграфіі);

***чытанне***

- прагназаваць змест тэксту па загалоўку;
- абапірацца на сродкі зрокавай нагляднасці (малюнкі, фатаграфіі);

***гаварэнне***

- удакладняць змест выказвання з дапамогай мімікі і жэстаў;

***пісьмо і пісьмовае маўленне***

- выкарыстоўваць узор (літары, словы, сказы) у якасці апоры.

Вучні павінны валодаць **вучэбна-пазнавальнымі ўменнямі:**

- дзейнічаць па аналогіі (па ўзоры) пры вырашэнні вучэбна-камунікатыўных задач.

Вучні павінны выкарыстоўваць набыты **моўны, маўленчы і сацыякультурны вопыт** для:

- псіхалагічнай адаптацыі да новай мовы і культуры;
- выкарыстання вывучаемай мовы ў якасці сродку зносін.

# IV КЛАС

**105 гадзін**

## ПРАДМЕТНА-ТЭМАТЫЧНЫ ЗМЕСТ ЗНОСІН

| Сфера зносін | Прадметна-тэматычны змест | Камунікатыўныя задачы |
|---|---|---|
| | | У канцы года вучань павінен умець |
| Сацыяльна-бытавая | Сям'я і сябры | • Расказаць і распытаць аб сваяцкіх адносінах у сям'і<br>• Выказаць адносіны да членаў сям'і<br>• Расказаць і распытаць аб прафесіях, інтарэсах і любімых занятках членаў сям'і / сябра<br>• Апісаць члена сям'і / сябра (знешнасць, якасці) |
| | Дом і кватэра | • Апісаць кватэру, дом (назва і колькасць пакояў)<br>• Расказаць і распытаць аб пакоі (асноўныя прадметы мэблі і іх месцазнаходжанне) |
| | Распарадак дня | • Расказаць і распытаць аб распарадку дня<br>• Спытаць і назваць час |
| | Адзенне | • Апісаць прадметы адзення<br>• Расказаць аб адзенні, якое носяць у розныя поры года<br>• Запытаць і назваць кошт прадметаў адзення |
| Вучэбна-працоўная | Расклад урокаў | • Расказаць і распытаць аб школьным раскладзе<br>• Расказаць аб сваіх уроках у школе<br>• Выказаць адносіны да школьных прадметаў |
| Сацыяльна-культурная | Святы | • Спытаць дату нараджэння і назваць дату нараджэння<br>• Павіншаваць са святам / днём нараджэння / Новым годам<br>• Падарыць / ветліва прыняць падарунак<br>• Расказаць і распытаць аб святкаванні дня нараджэння |
| | Выхадны дзень | • Расказаць і распытаць аб занятках у выхадны дзень<br>• Прапанаваць правесці вольны час разам |

## ПАТРАБАВАННІ ДА ПРАКТЫЧНАГА ВАЛОДАННЯ ВІДАМІ МАЎЛЕНЧАЙ ДЗЕЙНАСЦІ

### Успрыманне і разуменне маўлення на слых

Вучні павінны разумець на слых указанні настаўніка, якія звязаны з вядзеннем урока, іншамоўныя тэксты маналагічнага і дыялагічнага характару, якія пабудаваны на вывучаным моўным матэрыяле, у прад'яўленні настаўніка, у гуказапісе, у тэмпе, набліжаным да натуральнага, з візуальнай апорай.

Віды тэкстаў: казка, апавяданне, рыфмоўка, верш, дзіцячая песня.

Працягласць гучання тэксту — 1 мін.

### Гаварэнне

***Дыялагічнае маўленне***

Вучні павінны ўмець запытваць і паведамляць інфармацыю асабістага характару.

Віды дыялогу: этыкетны дыялог, дыялог-распытванне, дыялог — пабуджэнне да дзеяння.

Колькасць рэплік на кожнага субяседніка — 4.

***Маналагічнае маўленне***

Вучні павінны ўмець:

- паведамляць інфармацыю ў межах раней вывучанага моўнага матэрыялу;
- апісваць людзей і прадметы;
- расказваць аб паслядоўнасці дзеянняў, падзей.

Віды маналагічнага выказвання: паведамленне, апісанне, расказ.

Аб'ём выказвання — не менш за 5 фраз.

### Чытанне

Вучні павінны чытаць услых і самому сабе з поўным разуменнем, з правільным дзяленнем на сэнсавыя групы тэксты, якія пабудаваны на вывучаным матэрыяле.

Віды тэкстаў: казка, апавяданне, дыялог, верш, песня, рыфмоўка.

Аб'ём тэксту — прыкладна 900 друкаваных знакаў з прабеламі.

### Пісьмо і пісьмовае маўленне

Вучні павінны аваладаць арфаграфіяй слоў, якія ўваходзяць у лексічны мінімум для дадзенага класа, і ўмець:

- правільна пісаць свой адрас;
- падпісваць віншавальную паштоўку;
- пісаць тэкст з апорай на ўзор.

Аб'ём тэксту — не менш за 20 слоў.

## МОЎНЫ МАТЭРЫЯЛ

### АНГЛІЙСКАЯ МОВА

**Фанетыка**

Сістэма транскрыпцыйных знакаў.

Націск у словах. Рытм англійскай мовы. Інтанацыя сцвярджальных, адмоўных і пытальных сказаў. Інтанацыя формул маўленчага этыкету.

**Лексіка**

*Прадуктыўны мінімум:* 200 лексічных адзінак.

*Рэцэптыўны мінімум:* 70 лексічных адзінак.

*Агульны аб'ём прадуктыўнай лексікі:* 400 лексічных адзінак.

*Агульны аб'ём рэцэптыўнай лексікі:* 120 лексічных адзінак.

*Словаўтварэнне:* суфіксы назоўнікаў *-er, -or*; лічэбнікаў *-th, -ty.*

*Паказальнікі часу: every day, in the morning, in the afternoon, in the evening.*

**Граматыка**

***Граматычны матэрыял для прадуктыўнага засваення***

***Марфалогія***

*Назоўнік:* прыналежны склон назоўнікаў у адзіночным і множным ліку.

*Артыкль:* неазначальны артыкль перад назоўнікам у функцыі дапаўнення, перад назоўнікам пасля дзеяслова *to be*. Азначальны артыкль перад парадкавымі лічэбнікамі. Адсутнасць артыкля перад назвамі школьных прадметаў. Адсутнасць артыкля перад прыметнікамі ва ўстойлівых словазлучэннях *(go to bed, have dinner)*.

*Прыметнік:* утварэнне вышэйшай і найвышэйшай ступеней параўнання з дапамогай суфіксаў *-er, -est* і прыслоўяў *more, the most*.

*Займеннік:* указальныя займеннікі.

*Лічэбнік:* колькасныя лічэбнікі 21—100; парадкавыя лічэбнікі.

*Дзеяслоў:* сцвярджальная, адмоўная і пытальная формы дзеясловаў у *Present Simple, Present Continuous*.

*Мадальны дзеяслоў: can* для выказвання просьбы; *may* для выказвання дазволу.

*Прыслоўе: usually, tomorrow, tonight, then, upstairs, downstairs.*

*Прыназоўнік: with, for (breakfast)*; прыназоўнікі часу *at (one o'clock), on (the first of January)*; прыназоўнік месца *near.*

*Злучнік: but.*

***Сінтаксіс***

Сцвярджальныя, адмоўныя і пытальныя сказы са зваротамі *there is / there are, to be going to*.

## НЯМЕЦКАЯ МОВА

**Фанетыка**

Аглушэнне зычных у канцы склада, слова. Націск у складаных словах. Адсутнасць націску ў службовых словах. Інтанацыя простых развітых сказаў.

**Лексіка**

*Прадуктыўны мінімум:* 200 лексічных адзінак.

*Рэцэптыўны мінімум:* 70 лексічных адзінак.

*Агульны аб'ём прадуктыўнай лексікі:* 400 лексічных адзінак.

*Агульны аб'ём рэцэптыўнай лексікі:* 120 лексічных адзінак.

*Словаўтварэнне:* суфіксы назоўнікаў, якія абазначаюць назвы прафесій, *-er, -in*; прыметнікаў *-ig, -lich*; лічэбнікаў *-t, -st*; словаскладанне: назоўнік + назоўнік; назоўнік + прыметнік; лічэбнік + лічэбнік.

**Граматыка**

***Граматычны матэрыял для прадуктыўнага засваення***

***Марфалогія***

*Назоўнік:* назоўнікі жаночага, ніякага і мужчынскага роду ў давальным і вінавальным склонах. Множны лік назоўнікаў.

*Артыкль:* неазначальны артыкль перад назоўнікам пры першым згадванні невядомага прадмета або асобы; перад назоўнікам пасля дзеясловаў *haben, brauchen.* Азначальны артыкль перад назоўнікам, які раней узгадваўся ў кантэксце; перад парадкавым лічэбнікам. Адсутнасць артыкля перад назоўнікам, які абазначае назву прафесіі; пры абазначэнні прафесіі і роду заняткаў з дзеясловамі *sein* і *werden*; перад назоўнікамі ў множным ліку пасля дзеяслова *sein*; перад назоўнікам у множным ліку, калі ён у адзіночным ліку ўжываецца з неазначальным артыклем.

*Займеннік:* асабовыя і прыналежныя займеннікі ў давальным і вінавальным склонах; адмоўны займеннік *kein/keine* перад назоўнікам.

*Лічэбнік:* колькасныя лічэбнікі 21—100; парадкавыя лічэбнікі.

*Прыназоўнік:* прыназоўнікі месца *in, an, auf,* якія патрабуюць вінавальнага і давальнага склонаў; прыназоўнікі часу *in, an,* якія патрабуюць давальнага склону.

*Дзеяслоў:* спражэнне моцных дзеясловаў ў цяперашнім часе *(e-i, ie; a-ä; au-äu)*; дзеяслоў *haben* у цяперашнім часе *(Präsens Aktiv)*.

*Мадальны дзеяслоў:* *müssen* у цяперашнім часе *(Präsens Aktiv)* для выражэння неабходнасці, якая выклікана знешнімі прычынамі або ўнутраным пабуджэннем; *mögen* у цяперашнім часе *(Präsens Aktiv)* для выражэння жадання.

***Сінтаксіс***

Ужыванне *doch* у сцвярджальным сказе.

Парадак слоў у сказах з акалічнасцямі месца і часу; у сказах з мадальнымі дзеясловамі (рамачная канструкцыя).

***Граматычны матэрыял для рэцэптыўнага засваення***

*Артыкль:* ужыванне артыкля перад назвай літары.

*Займеннік:* неазначальна-асабовы займеннік *man*.

*Дзеяслоў:* дзеясловы з аддзяляемай прыстаўкай.

## ФРАНЦУЗСКАЯ МОВА

### Фанетыка

Адрозненне на слых і дакладнае вымаўленне ўсіх гукаў французскай мовы. Счапленне і звязванне. Інтанацыйная мадэль апавя-

дальнага (сцвярджальнага і адмоўнага), пабуджальнага і пытальнага сказаў. Інтанацыя формул маўленчага этыкету.

**Лексіка**

*Прадуктыўны мінімум:* 200 лексічных адзінак.

*Рэцэптыўны мінімум:* 70 лексічных адзінак.

*Агульны аб'ём прадуктыўнай лексікі:* 400 лексічных адзінак.

*Агульны аб'ём рэцэптыўнай лексікі:* 120 лексічных адзінак.

*Словаўтварэнне:* суфіксы назоўнікаў *-ier, -ière, -et, -ette*, *-ne*; прыметнікаў *-e, -ne, -eur, -euse, -ette*; лічэбнікаў *-ier, -ière, -ième.*

**Граматыка**

***Граматычны матэрыял для прадуктыўнага засваення***

***М а р ф а л о г і я***

*Назоўнік:* адзіночны і множны лік назоўнікаў; назоўнікі мужчынскага і жаночага роду, якія абазначаюць назву прафесіі.

*Артыкль:* азначальны і неазначальны артыклі *le, l', la, les/un, une, des*; злітны артыкль: *au, aux, du, des*; ужыванне азначальнага артыкля перад парадкавымі лічэбнікамі.

*Прыметнік:* якасныя прыметнікі ў звычайнай ступені; прыналежныя прыметнікі *notre, nos, votre, vous, leur, leurs*; указальныя прыметнікі *ce, cet, cette, ces*; пытальныя прыметнікі *quels, quelles.*

*Займеннік:* націскныя займеннікі *lui, elle, nous, vos, eux, ells.*

*Лічэбнік:* колькасныя лічэбнікі да 100; парадкавыя лічэбнікі да 20.

*Дзеяслоў:* маўленчыя структуры са зваротнымі дзеясловамі *se réveiller, se lever, se laver, se coucher, se reposer* в *présent*; прошлы складаны час *le passé composé* з дзеясловам *avoir.*

*Прыслоўе:* прыслоўі часу *maintenant, hier, souvent, parfois, toujours.*

*Прыназоўнік: entre, devant, derrière, à droite, à gauche, au milieu de, en face de, près de.*

***С і н т а к с і с***

Агульнае пытанне да апавядальнага сказа. Безасабовыя сказы. Безасабовы зварот *il est.*

***Граматычны матэрыял для рэцэптыўнага засваення***

Прошлы незакончаны час *l'imparfait.*

## ІСПАНСКАЯ МОВА

**Фанетыка**

Інтанацыя сказаў з аднароднымі членамі, складаназлучаных сказаў са злучнікам *pero*. Інтанацыя альтэрнатыўнага пытання.

**Лексіка**

*Прадуктыўны мінімум:* 200 лексічных адзінак.

*Рэцэптыўны мінімум:* 70 лексічных адзінак.

*Агульны аб'ём прадуктыўнай лексікі:* 400 лексічных адзінак.

*Агульны аб'ём рэцэптыўнай лексікі:* 120 лексічных адзінак.

*Словаўтварэнне:* суфіксы назоўнікаў *-ero(a), -dor(a), -tor(a), -ista.*

**Граматыка**

***Граматычны матэрыял для прадуктыўнага засваення***

***Марфалогія***

*Артыкль:* зліццё артыкля з прыназоўнікам *al*; адсутнасць артыкля перад назоўнікамі, якія абазначаюць назву прафесіі.

*Прыметнік:* дапасаванне прыметнікаў да назоўнікаў; ступені параўнання прыметнікаў і прыслоўяў *grado comparativo*, *grado superlativo.*

*Займеннік:* указальныя займеннікі-прыметнікі *este/esta, ese/esa, aquel/aquella; estos/-as, esos/-as, aquellos/-as.*

*Лічэбнік:* колькасныя лічэбнікі 50—100; парадкавыя лічэбнікі да 12.

*Дзеяслоў:* пранамінальныя (займеннікавыя) дзеясловы; сістэма спражэння правільных і няправільных дзеясловаў у *Presente de Indicativo.*

*Futuro Inmediato.*

Канструкцыі неабходнасці *tener que + Inf., deber + Inf., hay que + + Inf.*

Канструкцыі *antes de + Inf., después de + Inf.*

*Прыслоўе: también, tampoco, cerca, lejos, rápido*; ступені параўнання прыслоўяў; прыслоўе месца *¿a dónde?* у пытальным сказе.

*Прыназоўнік:* прыназоўнікі часу *a, en* і напрамку *a*.

Прыназоўнік *a* з назоўнікамі ў ролі дапаўнення (для перадачы адносін, якія адпавядаюць вінавальнаму і давальнаму склонам) і з дзеясловамі для абазначэння напрамку руху.

***Сінтаксіс***

Складаназлучаныя сказы са злучнікам *pero.*

## КІТАЙСКАЯ МОВА

### ПАТРАБАВАННІ ДА ПРАКТЫЧНАГА ВАЛОДАННЯ ВІДАМІ МАЎЛЕНЧАЙ ДЗЕЙНАСЦІ

#### Успрыманне і разуменне маўлення на слых

Вучні павінны разумець на слых указанні настаўніка, якія звязаны з вядзеннем урока, іншамоўныя тэксты маналагічнага і дыялагічнага характару, якія пабудаваны на вывучаным моўным матэрыяле, у прад'яўленні настаўніка, у гуказапісе, у тэмпе, набліжаным да натуральнага, з візуальнай апорай.

Віды тэкстаў: апавяданне, рыфмоўка, скорагаворка, загадка, верш, дзіцячая песня.

Працягласць гучання тэксту — 1 мін.

#### Гаварэнне

***Дыялагічнае маўленне***

Вучні павінны ўмець запытваць і паведамляць інфармацыю асабістага характару з захаваннем норм маўленчага этыкету.

Віды дыялогу: этыкетны дыялог, дыялог-распытванне, дыялог — пабуджэнне да дзеяння.

Колькасць рэплік на кожнага субяседніка — 4.

***Маналагічнае маўленне***

Вучні павінны ўмець:

- паведамляць інфармацыю ў межах раней вывучанага моўнага матэрыялу;
- апісваць людзей і прадметы.

Віды маналагічнага выказвання: паведамленне, апісанне, расказ.

Аб'ём выказвання — не менш за 5 фраз.

#### Чытанне

Вучні павінны ўмець:

- чытаць услых і самому сабе з поўным разуменнем, з правільным дзяленнем на сэнсавыя групы тэксты, якія пабудаваны на вы-

вучаным матэрыяле і напісаны з дапамогай транскрыпцыйных знакаў;

- чытаць іерогліфы, якія ўваходзяць у актыўны мінімум; суадносіць іерогліф з транскрыпцыйным знакам і рысункам, які абазначае канкрэтныя прадметы і дзеянні.

Віды тэкстаў: апавяданне, дыялог, загадка, рыфмоўка, верш, песня, коміксы, меню.

Аб'ём тэксту — 0,25 старонкі.

### Пісьмо і пісьмовае маўленне

Вучні павінны ўмець:

- авалодваць арфаграфіяй слоў, якія напісаны ў транскрыпцыі і ўваходзяць у лексічны мінімум для дадзенага класа;
- пісаць іерогліфы з апорай на ўзор (60—80).

#### МОЎНЫ МАТЭРЫЯЛ

**Фанетыка**

Славесны націск.

Дысіміляцыя трэцяга тону.

Інтанацыя апавядальных сказаў.

Інтанацыя агульных і спецыяльных пытанняў.

Інтанацыя формул маўленчага этыкету.

**Лексіка**

*Прадуктыўны мінімум:* 200 лексічных адзінак.

*Рэцэптыўны мінімум:* 70 лексічных адзінак.

*Агульны аб'ём прадуктыўнай лексікі:* 400 лексічных адзінак.

*Агульны аб'ём рэцэптыўнай лексікі:* 120 лексічных адзінак.

**Граматыка**

***Граматычны матэрыял для прадуктыўнага засваення***

***Марфалогія***

*Лічыльнае слова:* 盘, 碗, 杯, 瓶, 盒.

*Прыметнік:* ступені параўнання прыметнікаў ……比……好; 她最高.

*Займеннік:* прыналежныя займеннікі 我的, 你的, 他的, 她的, 它的, 我们的, 你们的, 他们的, 她们的; указальныя займеннікі 这, 那.

*Лічэбнік:* колькасныя лічэбнікі да 50.

*Дзеяслоў:* прошлы час (了) 昨天……打球了; будучы час 明天 ……放风筝.

*Прыслоўе:* 也.

*Паслялог:* 中间, 左边, 右边, 旁.

***Сінтаксіс***

Парадак слоў у простым сказе. Агульныя і спецыяльныя пытанні. Пабуджальная часціца 吧 （……一起……吧！） 我们一起玩儿吧！—— 好！（太好了！）吃点儿蛋糕吧！Загадная канструкцыя 走吧！

* * *

Вучні павінны валодаць **сацыякультурнымі ведамі і ўменнямі:**

- ведаць назвы асноўных краін вывучаемай мовы;
- умець каратка расказаць замежнаму равесніку аб святкаванні дня нараджэння (Новага года) і распытаць яго аб гэтым;
- умець падпісаць віншавальную паштоўку (з днём нараджэння, з Новым годам), правільна напісаць адрас.

Вучні павінны валодаць **кампенсаторнымі ўменнямі** ва ўсіх відах маўленчай дзейнасці:

***успрыманне і разуменне маўлення на слых***

- прагназаваць змест аўдыётэксту па загалоўку;
- абапірацца на сродкі зрокавай нагляднасці (малюнкі, фатаграфіі);

***чытанне***

- прагназаваць змест тэксту па загалоўку;
- абапірацца на сродкі зрокавай нагляднасці (малюнкі, фатаграфіі);

***гаварэнне***

- удакладняць змест выказвання з дапамогай мімікі і жэстаў;

***пісьмо і пісьмовае маўленне***

- выкарыстоўваць тэкст-узор у якасці апоры.

Вучні павінны валодаць **вучэбна-пазнавальнымі ўменнямі:**

- дзейнічаць па аналогіі (па ўзоры) пры рашэнні вучэбна-камунікатыўных задач.

Вучні павінны выкарыстоўваць набыты **моўны, маўленчы і сацыякультурны вопыт** для:

- пераадолення псіхалагічных бар'ераў у працэсе вусных зносін на замежнай мове;
- азнаямлення з даступнымі ўзорамі дзіцячага замежнага фальклору на вывучаемай замежнай мове;
- развіцця добразычлівых адносін да прадстаўнікоў іншых краін.

# V КЛАС

**105/175[1] гадзін**

## ПРАДМЕТНА-ТЭМАТЫЧНЫ ЗМЕСТ ЗНОСІН

| Сфера зносін | Прадметна-тэматычны змест | Камунікатыўныя задачы<br>У канцы года вучань павінен умець |
|---|---|---|
| Сацыяльна-бытавая | Здаровы лад жыцця | • Расказаць і распытаць аб сняданку, абедзе, вячэры ў сям'і<br>• Расказаць і распытаць аб здаровым харчаванні<br>• Расказаць і распытаць аб асноўных недамаганнях<br>• *Даць параду аб здаровым ладзе жыцця (гігіена, харчаванне, зарадка)* |
| | Горад/вёска | • Расказаць і растлумачыць, як прайсці куды-небудзь<br>• Запытаць і даць інфармацыю аб месцы пражывання (адрас, тэлефон)<br>• Назваць правілы бяспечных паводзін на вуліцах горада, вёскі<br>• Апісаць родны горад/вёску<br>• *Расказаць і распытаць аб жыцці ў горадзе / сельскай мясцовасці* |
| Сацыяльна-культурная | Канікулы | • Расказаць і распытаць аб занятках на канікулах<br>• Расказаць аб летнім адпачынку<br>• *Расказаць аб самым яркім уражанні ў час канікулаў* |
| | Святы | • Расказаць і распытаць аб асноўных святах Рэспублікі Беларусь і краіны вывучаемай мовы<br>• Павіншаваць са святам і адказаць на віншаванне |

[1] Колькасць вучэбных гадзін для гімназій.

| Сфера зносін | Прадметна-тэматычны змест | Камунікатыўныя задачы<br>У канцы года вучань павінен умець |
|---|---|---|
| | | • Назваць традыцыйныя святочныя стравы ў сваёй краіне і краіне вывучаемай мовы<br>• *Параўнаць святкаванне Новага года / Каляд у сваёй краіне і краіне вывучаемай мовы* |
| | Тэлеперадачы | • Назваць любімыя тэлеперадачы<br>• Распытаць аб любімых тэлеперадачах<br>• Выказаць меркаванне аб тэлеперадачы<br>• *Параіць паглядзець тэлеперадачу і аргументаваць сваё меркаванне* |
| | Падарожжы | • Расказаць і распытаць аб падарожжы (месца, час, транспарт, уражанні)<br>• Прыняць або адхіліць прапанову аб падарожжы<br>• *Расказаць аб падарожжы, якое запомнілася па кнізе/фільме* |
| Сацыяльна-пазнавальная | Краіны і кантыненты | • Назваць кантыненты і апісаць іх прыродныя асаблівасці<br>• Назваць краіны, у якіх гавораць на вывучаемай замежнай мове<br>• *Распытаць і расказаць аб цікавых нацыянальных святах краін свету* |

## ПАТРАБАВАННІ ДА ПРАКТЫЧНАГА ВАЛОДАННЯ ВІДАМІ МАЎЛЕНЧАЙ ДЗЕЙНАСЦІ

### Успрыманне і разуменне маўлення на слых

Вучні павінны разумець на слых указанні настаўніка, якія звязаны з вядзеннем урока, іншамоўныя тэксты маналагічнага і дыялагічнага характару, якія пабудаваны на вывучаным моўным матэрыяле, у прад'яўленні настаўніка, у гуказапісе, у тэмпе, набліжаным да натуральнага, з візуальнай або вербальнай апорай.

Віды тэкстаў: казка, апавяданне, рыфмоўка, дзіцячая песня.

Працягласць гучання тэксту — 1—1,5 мін.

## Гаварэнне

***Дыялагічнае маўленне***

Вучні павінны ўмець:

- запытваць і паведамляць інфармацыю, якая вызначана прадметна-тэматычным зместам зносін;
- прымаць або адмаўляцца ад прапановы.

Віды дыялогу: дыялог-распытванне, дыялог-віншаванне, дыялог — пабуджэнне да дзеяння.

Колькасць рэплік на кожнага субяседніка — 4—5.

***Маналагічнае маўленне***

Вучні павінны ўмець:

- паведамляць інфармацыю;
- апісваць прадметы і з’явы;
- коратка пераказваць змест праслуханага/прачытанага тэксту з выкарыстаннем візуальных апор.

Віды маналагічнага выказвання: паведамленне, расказ, апісанне.

Аб’ём выказвання — не менш за 6—8 фраз.

## Чытанне

Вучні павінны ўмець чытаць самому сабе і поўна разумець тэксты, якія змяшчаюць 1—2 % незнаёмых слоў, няведанне якіх не ўплывае на разуменне.

Аб’ём тэксту — прыкладна 1300—2000 друкаваных знакаў з прабеламі.

Віды тэкстаў: казка, апавяданне, рыфмоўка, песня.

## Пісьмо і пісьмовае маўленне

Вучні павінны ўмець прадуцыраваць нескладаныя віды тэкстаў у адпаведнасці з нормамі, прынятымі ў краіне вывучаемай мовы:

- падпісваць віншавальную паштоўку, запрашэнне;
- пісаць асабістае пісьмо ў межах вывучанай тэматыкі.

Аб’ём тэксту — не менш за 30—40 слоў.

## МОЎНЫ МАТЭРЫЯЛ

### АНГЛІЙСКАЯ МОВА

**Фанетыка**

Рытм англійскага маўлення. Інтанацыя пералічэння. Інтанацыя пабуджальных і клічных сказаў. Інтанацыя формул маўленчага этыкету.

**Лексіка**

*Прадуктыўны мінімум:* 210—250 лексічных адзінак.

*Рэцэптыўны мінімум:* 120—180 лексічных адзінак.

*Агульны аб'ём прадуктыўнай лексікі:* 610—650 лексічных адзінак.

*Агульны аб'ём рэцэптыўнай лексікі:* 240—300 лексічных адзінак.

*Словаўтварэнне:* суфіксы прыметнікаў *-(i)an*; прыслоўяў *-ly*; дзеясловаў *-ate*.

*Паказальнікі часу: this (week), last (year), next (summer)*.

**Граматыка**

***Граматычны матэрыял для прадуктыўнага засваення***

***Марфалогія***

*Назоўнік:* асобыя выпадкі ўтварэння множнага ліку *(man—men, woman—women, child—children, tooth—teeth, foot—feet, goose—geese, sheep—sheep, mouse—mice)*. Вылічальныя і невылічальныя назоўнікі.

*Артыкль: a/an, the* (асноўныя значэнні), значная адсутнасць артыкля. Артыкль перад геаграфічнымі назвамі (вуліцы, гарады, краіны, кантыненты).

*Прыметнік:* асобыя выпадкі ўтварэння ступеней параўнання прыметнікаў *(good, bad)*.

*Займеннік:* неазначальныя займеннікі *some, any, no, much, many*. Аб'ектны склон асабовых займеннікаў.

*Дзеяслоў:* сцвярджальная, адмоўная і пытальная формы дзеясловаў у *Past Simple, Future Simple*.

*Мадальны дзеяслоў: should/shouldn't* для выказвання парады, рэкамендацыі; *must/mustn't* для выражэння неабходнасці і забароны.

*Прыслоўе: yesterday, ago, next, tomorrow, today, always, often, sometimes, rarely, never, well, fast*.

*Прыназоўнік:* прыназоўнікі напрамку руху *to, along, past, over*; прыназоўнікі месца *at (home)*, *behind, in front of, between, opposite, next to*; прыназоўнікі часу *in (November), to (quarter to two), past (half past two), at (Easter), on (New Year's Day)*; *by (plane)*.

*Злучнік: because*.

***С і н т а к с і с***

Парадак слоў у сказе. Складаназлучаны сказ са злучнікамі *and, but*.

## НЯМЕЦКАЯ МОВА

**Фанетыка**

Націск у складаных прыметніках. Лагічны націск у фразе. Інтанацыя пабуджальных сказаў. Інтанацыя сказаў з састаўным дзеяслоўным выказнікам, які выражаны дзеясловамі ў часавай форме *Perfekt Aktiv* (рамачная канструкцыя).

**Лексіка**

*Прадуктыўны мінімум:* 210—250 лексічных адзінак.

*Рэцэптыўны мінімум:* 120—180 лексічных адзінак.

*Агульны аб'ём прадуктыўнай лексікі:* 610—650 лексічных адзінак.

*Агульны аб'ём рэцэптыўнай лексікі:* 240—300 лексічных адзінак.

*Словаўтварэнне:* суфіксы назоўнікаў *-er, -in* для абазначэння нацыянальнасцей, жыхароў дзяржаў, гарадоў, населеных пунктаў; словаскладанне: аснова або корань дзеяслова + назоўнік.

**Граматыка**

***Граматычны матэрыял для прадуктыўнага засваення***

***М а р ф а л о г і я***

*Назоўнік:* скланенне назоўнікаў множнага ліку ў давальным склоне. Вылічальныя і невылічальныя назоўнікі.

*Артыкль:* артыкль перад геаграфічнымі назвамі (вуліцы, гарады, краіны, кантыненты). Азначальны артыкль перад уласным імем, калі перад ім стаіць азначэнне. Неазначальны артыкль перад назоўнікам пасля дзеясловаў *suchen, sich wünschen* і безасабовага звароту *es gibt.*

*Займеннік:* зваротны займеннік *sich*, пытальныя займеннікі *welcher, welche, welches.*

*Дзеяслоў:* зваротныя дзеясловы; дзеяслоў *sein* у простым прошлым часе *(Präteritum Aktiv).* Састаўны дзеяслоўны выказнік, які выражаны формай прошлага часу *(Perfekt Aktiv)*. Загадны лад.

*Прыназоўнік:* прыназоўнікі *durch, für, um, bis, entlang,* якія патрабуюць вінавальнага склону; прыназоўнікі *zu, mit*, якія патрабуюць давальнага склону.

***С і н т а к с і с***

Апавядальны сказ (просты і развіты). Парадак слоў у развітых сказах з дапаўненнем у вінавальным і давальным склонах; з састаўным дзеяслоўным выказнікам, які выражаны дзеясловамі ў часавай форме *Perfekt Aktiv* (рамачная канструкцыя); з простым дзеяслоўным выказнікам, які выражаны зваротнымі дзеясловамі.

***Граматычны матэрыял для рэцэптыўнага засваення***

*Артыкль:* неазначальны артыкль, калі перад уласным імем стаіць азначэнне.

*Прыметнік:* скланенне прыметнікаў пасля неазначальнага артыкля, прыналежных займеннікаў і займенніка *kein/keine.*

## ФРАНЦУЗСКАЯ МОВА

**Фанетыка**

Адрозненне на слых і дакладнае вымаўленне ўсіх гукаў французскай мовы. Лагічны націск. Інтанацыйная мадэль апавядальнага і пытальнага сказаў (з простай і складанай інверсіяй).

**Лексіка**

*Прадуктыўны мінімум:* 210—250 лексічных адзінак.

*Рэцэптыўны мінімум:* 120—180 лексічных адзінак.

*Агульны аб'ём прадуктыўнай лексікі:* 610—650 лексічных адзінак.

*Агульны аб'ём рэцэптыўнай лексікі:* 240—300 лексічных адзінак.

*Словаўтварэнне:* суфіксы назоўнікаў *-ien, -ienne; -ais, -aise; -ain, -aine; -ois, -oise*; прыметнікаў *-ais, -aise*; прыстаўка дзеясловаў *re-*.

**Граматыка**

***Граматычны матэрыял для прадуктыўнага засваення***

***М а р ф а л о г і я***

*Назоўнік:* мужчынскі і жаночы род назоўнікаў, якія абазначаюць нацыянальнасць.

*Артыкль:* частковыя артыклі *du, de l’, de la*; артыкль перад геаграфічнымі назвамі (краіны, кантыненты); адсутнасць артыкля перад назвамі гарадоў.

*Прыметнік:* ступені параўнання якасных прыметнікаў.

*Займеннік:* неазначальна-асабовы займеннік *on*; пытальныя займеннікі *qui, qu’est-ce qui.*

*Лічэбнік:* колькасныя лічэбнікі да 1000; парадкавыя лічэбнікі да 100.

*Дзеяслоў: le présent* дзеясловаў I, II і III груп; прошлы складаны час *le passé composé* з дзеясловам *être*; прошлы незавершаны час *l’imparfait.*

*Прыслоўе: quelquefois, avant, autrefois.*

***С і н т а к с і с***

Парадак слоў у пытальным сказе з простай і складанай інверсіяй.

***Граматычны матэрыял для рэцэптыўнага засваення***

Будучы просты час *le futur simple* дзеясловаў I і II груп. Бліжэйшы будучы час *le futur proche* і бліжэйшы прошлы час *le passé récent.*

## ІСПАНСКАЯ МОВА

### Фанетыка

Інтанацыя пабуджальных і клічных сказаў.

### Лексіка

*Прадуктыўны мінімум:* 210—250 лексічных адзінак.

*Рэцэптыўны мінімум:* 120—180 лексічных адзінак.

*Агульны аб’ём прадуктыўнай лексікі:* 610—650 лексічных адзінак.

*Агульны аб’ём рэцэптыўнай лексікі:* 240—300 лексічных адзінак.

*Словаўтварэнне:* прыстаўкі *re-, in- (im-), des-.*

### Граматыка

***М а р ф а л о г і я***

*Дзеяслоў:* структуры са знамянальнымі дзеясловамі ў *Presente de Indicativo. Pretérito Perfecto, Pretérito Imperfecto, Pretérito Indefinido, Modo Imperativo* (сцвярджальная форма на *tú, vosotros*).

*Прыслоўе: ya, todavía, jamás, nunca, siempre, a veces.*

***С і н т а к с і с***

Клічныя і пабуджальныя сказы.

## КІТАЙСКАЯ МОВА

### ПАТРАБАВАННІ ДА ПРАКТЫЧНАГА ВАЛОДАННЯ ВІДАМІ МАЎЛЕНЧАЙ ДЗЕЙНАСЦІ

### Успрыманне і разуменне маўлення на слых

Вучні павінны разумець на слых указанні настаўніка, якія звязаны з вядзеннем урока, і іншамоўныя тэксты маналагічнага і дыялагічнага характару, якія пабудаваны на вывучаным моўным матэрыяле, у прад’яўленні настаўніка, у гуказапісе, у тэмпе, набліжаным да натуральнага, з візуальнай або вербальнай апорай.

Віды тэкстаў: апавяданне, рыфмоўка, дзіцячая песня, верш, скорагаворка.

Працягласць гучання тэксту — 1—1,5 мін.

### Гаварэнне

***Дыялагічнае маўленне***

Вучні павінны ўмець запытваць і паведамляць інфармацыю, якая вызначана прадметна-тэматычным зместам зносін.

Віды дыялогу: дыялог-распытванне, дыялог-віншаванне, дыялог — пабуджэнне да дзеяння.

Колькасць рэплік на кожнага субяседніка — 4—5.

***Маналагічнае маўленне***

Вучні павінны ўмець:

- паведамляць інфармацыю;
- апісваць прадметы і з’явы;
- коратка пераказваць змест праслуханага/прачытанага тэксту з выкарыстаннем візуальнай апоры.

Віды маналагічнага выказвання: паведамленне, расказ, апісанне.

Аб’ём выказвання — 6—8 фраз.

### Чытанне

Вучні п а в і н н ы ў м е ц ь чытаць самому сабе тэксты, якія напісаны з дапамогай іерогліфаў, разумець асноўны змест і вызначаць асобныя дэталі прачытанага.

Аб’ём тэксту — 0,3 старонкі.

Вучні п а в і н н ы ў м е ц ь чытаць іерогліфы (100—200) і простыя сказы, якія напісаны іерогліфамі.

Віды тэкстаў: апавяданне, скорагаворка, рыфмоўка, дзіцячая песня, коміксы, верш, песня, школьны расклад.

### Пісьмо і пісьмовае маўленне

Вучні п а в і н н ы ў м е ц ь прадуцыраваць нескладаныя віды тэкстаў, якія напісаны з дапамогай транскрыпцыйных знакаў, у адпаведнасці з нормамі, прынятымі ў краіне вывучаемай мовы:

- падпісваць віншавальную паштоўку, запрашэнне;
- пісаць асабістае пісьмо ў межах вывучанай тэматыкі.

Аб’ём тэксту — 30—40 слоў.

Вучні п а в і н н ы ў м е ц ь пісаць іерогліфы (80—160) і простыя сказы, якія напісаны іерогліфамі.

## МОЎНЫ МАТЭРЫЯЛ

**Фанетыка**

Вымаўленне запар наступных складоў трэцяга тону. Змяненне тону лічэбніка. Інтанацыя пералічэння. Інтанацыя пабуджальных і клічных сказаў. Інтанацыя формул маўленчага этыкету.

**Лексіка**

*Прадуктыўны мінімум:* 210—250 лексічных адзінак.

*Рэцэптыўны мінімум:* 120—180 лексічных адзінак.

*Агульны аб’ём прадуктыўнай лексікі:* 610—650 лексічных адзінак.

*Агульны аб’ём рэцэптыўнай лексікі:* 240—300 лексічных адзінак.

**Граматыка**

***Граматычны матэрыял для прадуктыўнага засваення***

***М а р ф а л о г і я***

*Лічыльнае слова:* 个, 把, 节, 张, 件, 条, 双.

*Прыметнік:* 多, 少.

*Займеннік:* указальныя займеннікі 这 і 那 у спалучэнні з лічыльнымі словамі.

*Лічэбнік:* колькасныя лічэбнікі 50—100; лічэбнікі 两 і 二.

*Дзеяслоў:* паказальнік цяперашняга часу 在.

*Прыслоўе:* 太, 很, 不, 真, 很多, 很少, 不多, 不少, 附近, 只.

*Паслялог:* 外边.

*Дапаўненне стану:* …得… (1).

***С і н т а к с і с***

Альтэрнатыўнае пытанне са злучнікам 还是.

Сказы, якія абазначаюць размяшчэнне ў прасторы (在)…上有/是…; …在…上.

Спецыяльныя пытанні з пытальным словам 为什么, 怎么.

Пабуджальныя сказы тыпу …吧; 让...吧; …, 好吗?; ...怎么样?.

Сказы з дзеясловам 有.

Прыназоўнікавыя канструкцыі з 在 і 给.

Канструкцыі 除了…以外; 快一点儿…; 先…然后… .

* * *

Вучні п а в і н н ы в а л о д а ц ь **сацыякультурнымі ведамі і ўменнямі**:

- ведаць назвы кантынентаў і асноўных краін вывучаемай мовы;
- ведаць асобныя творы дзіцячага фальклору, паэзіі і інш.;
- ведаць папулярныя святы Рэспублікі Беларусь і краіны вывучаемай мовы;
- умець ветліва звярнуцца за дапамогай да каго-небудзь у краіне вывучаемай мовы (распытаць, як прайсці куды-небудзь);
- умець апісаць замежнаму равесніку свой родны горад/вёску.

Вучні п а в і н н ы в а л о д а ц ь **кампенсаторнымі ўменнямі** ва ўсіх відах маўленчай дзейнасці:

***ўспрыманне і разуменне маўлення на слых***

- прагназаваць змест аўдыётэксту па загалоўку;
- абапірацца на сітуацыю, прадстаўленую настаўнікам перад праслухоўваннем аўдыётэксту;
- выкарыстоўваць моўную здагадку (па падабенстве са словамі роднай мовы);

- абапірацца на сродкі зрокавай нагляднасці (малюнкі, фатаграфіі, табліцы);

***чытанне***

- прагназаваць змест тэксту па загалоўку;
- абапірацца на сродкі зрокавай нагляднасці (малюнкі, фатаграфіі, табліцы);
- выкарыстоўваць моўную здагадку (па падабенстве са словамі роднай мовы);
- выкарыстоўваць двухмоўныя слоўнікі;

***гаварэнне***

- звяртацца за дапамогай да субяседніка, ужываючы перапытванне;
- удакладняць змест выказвання з дапамогай мімікі і жэстаў;

***пісьмо і пісьмовае маўленне***

- выкарыстоўваць тэкст-узор у якасці апоры.

Вучні павінны валодаць **вучэбна-пазнавальнымі ўменнямі:**

- складаць план прачытанага/праслуханага тэксту;
- выконваць самастойныя заданні рэпрадуктыўнага характару з выкарыстаннем друкаваных матэрыялаў (раздатачны матэрыял, нагляднасць);
- выкарыстоўваць двухмоўныя слоўнікі.

Вучні павінны выкарыстоўваць набыты **моўны, маўленчы і сацыякультурны вопыт** для:

- пераадолення псіхалагічных бар’ераў у працэсе вусных зносін на замежнай мове;
- азнаямлення з дзіцячым замежным фальклорам;
- развіцця добразычлівых адносін да прадстаўнікоў іншых краін.

# VI КЛАС

## 105/175 гадзін

## ПРАДМЕТНА-ТЭМАТЫЧНЫ ЗМЕСТ ЗНОСІН

| Сфера зносін | Прадметна-тэматычны змест | Камунікатыўныя задачы |
|---|---|---|
| | | У канцы года вучань павінен умець |
| Сацыяльна-бытавая | Ежа | • Запытаць і даць інфармацыю аб прадуктах у магазіне / на рынку (кошт, вага, колькасць)<br>• Заказаць ежу ў кафэ<br>• Прапанаваць рэцэпт любімай стравы<br>• *Расказаць і распытаць аб нацыянальных стравах Рэспублікі Беларусь і краіны вывучаемай мовы* |
| | Дапамога па доме | • Расказаць і распытаць аб хатніх абавязках<br>• Назваць бытавую тэхніку і растлумачыць яе прызначэнне<br>• Апісаць пакой/кватэру і выказаць аб ёй сваё меркаванне<br>• *Расказаць аб перавазе выкарыстання бытавой тэхнікі* |
| Вучэбна-працоўная | Школа | • Апісаць школу (будынак, кабінеты, пляцоўкі і г. д.)<br>• Расказаць і распытаць аб распарадку работы школы<br>• *Параўнаць школу ў Рэспубліцы Беларусь і краіны вывучаемай мовы* |
| Сацыяльна-культурная | Фільмы/кнігі | • Прапанаваць сябру пайсці ў кіно, пагадзіцца або адмовіцца<br>• Распытаць аб прачытанай кнізе / прагледжаным фільме<br>• Выказаць сваё меркаванне аб кнізе/фільме<br>• *Выказаць сваё меркаванне аб персанажы кнігі/фільма і абгрунтаваць яго* |

| Сфера зносін | Прадметна-тэматычны змест | Камунікатыўныя задачы |
|---|---|---|
| | | У канцы года вучань павінен умець |
| | Любімыя заняткі | • Расказаць і распытаць аб розных хобі<br>• Выказаць і аргументаваць свае адносіны да розных хобі<br>• *Расказаць і распытаць аб любімых занятках членаў сям'і* |
| Сацыяльна-пазнавальныя | Рэспубліка Беларусь і краіны вывучаемай мовы | • Расказаць і распытаць аб геаграфічным становішчы Рэспублікі Беларусь і краіны вывучаемай мовы<br>• Расказаць і распытаць аб нацыянальных сімвалах Рэспублікі Беларусь і краіны вывучаемай мовы<br>• *Параўнаць прыродныя асаблівасці Рэспублікі Беларусь і краін вывучаемай мовы* |
| | Прырода | • Растлумачыць неабходнасць аховы жывёл<br>• Апісаць жывёл, якіх неабходна ахоўваць (знешні выгляд, асяроддзе пражывання, паводзіны)<br>• Расказаць аб прыродзе Рэспублікі Беларусь<br>• *Параўнаць жывёльны свет Рэспублікі Беларусь і краіны вывучаемай мовы* |

## ПАТРАБАВАННІ ДА ПРАКТЫЧНАГА ВАЛОДАННЯ ВІДАМІ МАЎЛЕНЧАЙ ДЗЕЙНАСЦІ

### Успрыманне і разуменне маўлення на слых

Вучні п а в і н н ы р а з у м е ц ь на слых іншамоўныя тэксты маналагічнага і дыялагічнага характару ў прад'яўленні настаўніка, у гуказапісе, у натуральным тэмпе, з вербальнай апорай, з рознай паўнатой і дакладнасцю пранікнення ў іх змест:

- выдзяляць асноўную інфармацыю ў тэкстах, якія змяшчаюць 1 % незнаёмых слоў, няведанне якіх не ўплывае на разуменне тэксту;

- адносна поўна разумець тэксты, якія пабудаваны на вывучаным моўным матэрыяле;
- выбарачна разумець неабходную/цікавую інфармацыю.

Віды тэкстаў: верш, песня, казка, апавяданне, легенда.

Працягласць гучання тэксту — 1—1,5 мін.

## Гаварэнне

***Дыялагічнае маўленне***

Вучні павінны ўмець:

- запытваць і паведамляць інфармацыю, якая вызначана прадметна-тэматычным зместам зносін;
- прынімаць або адхіляць прапанову.

Віды дыялогу: дыялог-распытванне, дыялог — абмен думкамі, дыялог — пабуджэнне да дзеяння.

Колькасць рэплік на кожнага субяседніка — 5—6.

***Маналагічнае маўленне***

Вучні павінны ўмець:

- апісваць прадметы і з'явы, уключаючы элементы параўнання;
- паведамляць інфармацыю, уключаючы апісанне і параўнанне;
- коратка пераказваць змест прачытанага/праслуханага тэксту.

Віды маналагічнага выказвання: апісанне, паведамленне, расказ.

Аб'ём выказвання — не менш за 6—9 фраз.

## Чытанне

Вучні павінны разумець тэксты з рознай паўнатой і дакладнасцю пранікнення ў іх змест у залежнасці ад віду чытання:

- разумець асноўны змест адаптаваных мастацкіх і навукова-папулярных тэкстаў (азнаямленчае чытанне);
- поўнасцю разумець змест адаптаваных мастацкіх і навукова-папулярных тэкстаў (вывучальнае чытанне);
- знаходзіць у тэкстах неабходную/цікавую інфармацыю.

Тэксты для разумення асноўнага зместу могуць уключаць да 2—3 % незнаёмых слоў, якія не перашкаджаюць разуменню тэксту. Аб'ём тэксту — прыкладна 1700—2500 друкаваных знакаў з прабеламі.

Тэксты, арыентаваныя на поўнае разуменне зместу, могуць уключаць да 1—2 % незнаёмых слоў, раскрыццё значэння якіх магчыма з дапамогай двухмоўнага слоўніка. Аб'ём тэксту — прыкладна 1300—2000 друкаваных знакаў з прабеламі.

Віды тэкстаў: апавяданне, пісьмо, артыкул з дзіцячага часопіса, меню, школьны расклад, кінаафіша.

### Пісьмо і пісьмовае маўленне

Вучні п а в і н н ы ў м е ц ь прадуцыраваць нескладаныя віды пісьмовых тэкстаў у адпаведнасці з нормамі, прынятымі ў краіне вывучаемай мовы:

- падпісваць паштоўку;
- пісаць асабістае пісьмо ў межах вывучанай тэматыкі;
- паведамляць у анкеце асноўныя звесткі асабістага характару.

Аб'ём тэксту — не менш за 45—60 слоў.

## МОЎНЫ МАТЭРЫЯЛ

### АНГЛІЙСКАЯ МОВА

**Фанетыка**

Асіміляцыя гукаў. Інтанацыя агульных, спецыяльных, альтэрнатыўных і раздзяляльных пытанняў.

**Лексіка**

*Прадуктыўны мінімум:* 210—250 лексічных адзінак.

*Рэцэптыўны мінімум:* 150—250 лексічных адзінак.

*Агульны аб'ём прадуктыўнай лексікі:* 820—900 лексічных адзінак.

*Агульны аб'ём рэцэптыўнай лексікі:* 390—550 лексічных адзінак.

*Словаўтварэнне:* суфіксы прыметнікаў *-y, -ful, -ous, -al*.

**Граматыка**

***Граматычны матэрыял для прадуктыўнага засваення***

***М а р ф а л о г і я***

*Назоўнік:* асаблівыя выпадкі ўтварэння множнага ліку *(deer, fish, sheep, species, life—lives, leaf—leaves, wolf—wolves)*.

*Артыкль:* артыкль перад назвамі прадуктаў харчавання, страў. Артыкль перад геаграфічнымі назвамі (рэкі, азёры, моры, акіяны, горы).

*Займеннік:* неазначальныя займеннікі *few, little*. Вытворныя неазначальных займеннікаў *some, any, no*. Пытальныя займеннікі *what, who, where, when, why, how.*

*Лічэбнік: hundred, thousand, million*.

*Дзеяслоў:* сцвярджальная, адмоўная і пытальная формы дзеясловаў у *Present Perfect, Past Continuous*. Параўнанне ўжывання часоў *Present Perfect* і *Past Simple*.

*М а д а л ь н ы д з е я с л о ў: to have to* для выражэння прымусовай неабходнасці.

*Прыслоўе: ever, never, just, already, yet, so, such.*

*Прыназоўнік: from…to.*

*Злучнік: than, while.*

***С і н т а к с і с***

Структура агульнага, альтэрнатыўнага і спецыяльнага пытанняў. Параўнальныя сказы са злучнікам *than*. Складаназалежныя сказы з даданымі прычыны *(because).*

***Граматычны матэрыял для рэцэптыўнага засваення***

Сцвярджальная, адмоўная і пытальная формы дзеясловаў у *Present Simple Passive*.

## НЯМЕЦКАЯ МОВА

**Фанетыка**

Націск у вытворных словах з суфіксамі. Інтанацыя складаназлучаных сказаў. Націск у дзеясловах з аддзяляемымі і неаддзяляемымі прыстаўкамі. Інтанацыя простых развітых сказаў з аддзяляемай прыстаўкай. Інтанацыя альтэрнатыўнага пытання.

**Лексіка**

*Прадуктыўны мінімум:* 210—250 лексічных адзінак.

*Рэцэптыўны мінімум:* 150—250 лексічных адзінак.

*Агульны аб'ём прадуктыўнай лексікі:* 820—900 лексічных адзінак.

*Агульны аб'ём рэцэптыўнай лексікі:* 390—550 лексічных адзінак.

*Словаўтварэнне:* суфіксы назоўнікаў жаночага роду *-e, -ie, -ei, -ung, -heit, -keit, -ik, -schaft, -ur, -tät, -tion*; суфіксы ўтварэння множнага ліку назоўнікаў жаночага роду; аддзяляемыя прыстаўкі дзеясловаў *ab-, auf-, aus-, ein-, mit-, vor-, zu-, zurück-*; неаддзяляемыя прыстаўкі дзеясловаў *be-, ge-, er-, ver-*.

**Граматыка**

***Граматычны матэрыял для прадуктыўнага засваення***

***Марфалогія***

*Назоўнік:* род назоўнікаў (вызначэнне па фармальных прыметах); жаночы род — асобы жаночага полу і іх прафесіі на *-in*, назоўнікі, якія ўтвораны ад дзеясловаў з суфіксам *-t*, назвы дрэў і кветак (выключэнне *der Ahorn*); назоўнікі з другімі суфіксамі жаночага роду (гл. раздзел «Лексіка»). Скланенне назоўнікаў жаночага роду. Множны лік назоўнікаў жаночага роду.

*Артыкль:* адсутнасць артыкля перад назоўнікам, які абазначае рэчыва, без указання канкрэтнай колькасці; перад абстрактным або рэчыўным назоўнікам, які абазначае адзінку вымярэння.

*Дзеяслоў:* дзеясловы з аддзяляемымі і неаддзяляемымі прыстаўкамі. Часавая форма простага прошлага часу *(Präteritum Aktiv)*. Часавая форма будучага часу *(Futurum I Aktiv)*. *Partizip II* дзеясловаў з аддзяляемай прыстаўкай.

*Мадальны дзеяслоў: dürfen* для выражэння дазволу, ветлівай просьбы, забароны.

*Прыназоўнік:* прыназоўнікі месца *vor, hinter, über, unter, neben, zwischen,* якія патрабуюць давальнага або вінавальнага склону; прыназоўнікі *aus, nach*, якія патрабуюць давальнага склону.

***Сінтаксіс***

Апавядальны сказ (просты і развіты) з простым дзеяслоўным выказнікам, які выражаны дзеясловам з аддзяляемай прыстаўкай. Парадак слоў у сказе з дапаўненнямі, якія выражаны назоўнікам у давальным і вінавальным склонах. Складаназлучаныя сказы са злучнікамі *und, aber, oder.* Парадак слоў у складаназлучаных сказах.

***Граматычны матэрыял для рэцэптыўнага засваення***

*Мадальны дзеяслоў: sollen* для выражэння абавязку, адказнасці.

## ФРАНЦУЗСКАЯ МОВА

**Фанетыка**

Інтанацыя складаназлучаных сказаў. Інтанацыя складаназалежных сказаў.

**Лексіка**

*Прадуктыўны мінімум:* 210—250 лексічных адзінак.

*Рэцэптыўны мінімум:* 150—250 лексічных адзінак.

*Агульны аб'ём прадуктыўнай лексікі:* 820—900 лексічных адзінак.

*Агульны аб'ём рэцэптыўнай лексікі:* 390—550 лексічных адзінак.

*Словаўтварэнне:* прыстаўкі дзеясловаў *dé-, dés-, pré-*.

**Граматыка**

***Граматычны матэрыял для прадуктыўнага засваення***

***М а р ф а л о г і я***

*Назоўнік:* назоўнікі мужчынскага і жаночага роду ў адзіночным і множным ліку.

*Артыкль:* розныя выпадкі ўжывання азначальнага і неазначальнага артыкля; частковы артыкль *(du, de l', de la)* перад невылічальнымі назоўнікамі; замена артыкля прыназоўнікам *de* пасля назоўнікаў, якія абазначаюць колькасць, у адмоўным сказе.

*Прыметнік:* ступені параўнання прыметніка *bon*; жаночы род прыметнікаў *vielle, nouvelle*.

*Займеннік:* адносныя займеннікі *qui, que, dont, où*; займеннік *en* у канструкцыях *il y en a (deux), nous en avons (deux)*.

*Лічэбнік:* колькасныя лічэбнікі звыш 1000.

*Дзеяслоў:* будучы просты час *le futur simple* дзеясловаў I, II і III груп; бліжэйшы будучы час *le futur proche* і бліжэйшы прошлы час *le passé récent*, залежны стан у *présent*, *imparfait.*

*Прыслоўе: même, seulement, vraiment.*

***С і н т а к с і с***

Складаназлучаныя сказы са злучнікамі *et, ou, mais.* Сладаназалежныя сказы з даданымі азначальнымі.

***Граматычны матэрыял для рэцэптыўнага засваення***

Ужыванне займенніка *en* у канструкцыі *il m'en faut deux*.

Адрозненне ва ўжыванні сцвярджальных часціц *oui, si*.

## ІСПАНСКАЯ МОВА

**Фанетыка**

Інтанацыя складаназалежных сказаў.

Націск у патоку маўлення (у сказе).

**Лексіка**

*Прадуктыўны мінімум:* 210—250 лексічных адзінак.

*Рэцэптыўны мінімум:* 150—250 лексічных адзінак.

*Агульны аб'ём прадуктыўнай лексікі:* 820—900 лексічных адзінак.

*Агульны аб'ём рэцэптыўнай лексікі:* 390—550 лексічных адзінак.

*Словаўтварэнне:* суфіксы назоўнікаў *-ismo, -dad, -tad, -eza, -ura*; прыметнікаў *-able, -ible*.

**Граматыка**

***Граматычны матэрыял для прадуктыўнага засваення***

***М а р ф а л о г і я***

*Займеннік:* формы асабовых займеннікаў у якасці прамога і ўскоснага дапаўнення.

*Лічэбнік:* колькасныя лічэбнікі звыш 100.

*Дзеяслоў:* знамянальныя дзеясловы ў *Pretérito Indefinido, Pretérito Imperfecto. Pluscuamperfecto, Futuro Simple.*

Канструкцыі *al + Inf., empezar a + Inf., terminar de + Inf.*

Знамянальныя дзеясловы ў *Modo Imperativo (afirmativo; tú, vosotros).*

*Г е р у н д ы й: Gerundio Simple*. Канструкцыі з *Gerundio Simple*.

Структуры ў пасіўнай форме *Voz pasiva*.

*Злучнік: que, si.*

***С і н т а к с і с***

Складаназалежныя сказы з дапаўняльнымі і ўмоўнымі даданымі І тыпу.

## КІТАЙСКАЯ МОВА

### ПАТРАБАВАННІ ДА ПРАКТЫЧНАГА ВАЛОДАННЯ ВІДАМІ МАЎЛЕНЧАЙ ДЗЕЙНАСЦІ

#### Успрыманне і разуменне маўлення на слых

Вучні п а в і н н ы р а з у м е ц ь на слых іншамоўныя тэксты маналагічнага і дыялагічнага характару ў прад'яўленні настаўніка,

у гуказапісе, у натуральным тэмпе, з вербальнай апорай, з рознай паўнатой і дакладнасцю пранікнення ў іх змест:

- выдзяляць асноўную інфармацыю ў тэкстах, якія змяшчаюць 1 % незнаёмых слоў, няведанне якіх не ўплывае на разуменне тэксту;
- адносна поўна разумець тэксты, якія пабудаваны на вывучаным моўным матэрыяле;
- выбарачна разумець неабходную/цікавую інфармацыю.

Віды тэкстаў: верш, песня, скорагаворка, рыфмоўка, апавяданне, легенда.

Працягласць гучання тэксту — 1—1,5 мін.

## Гаварэнне

***Дыялагічнае маўленне***

Вучні павінны ўмець запытаць і паведаміць інфармацыю, якая вызначана прадметна-тэматычным зместам зносін.

Віды дыялогу: дыялог-распытванне, дыялог — абмен думкамі, дыялог — пабуджэнне да дзеяння.

Колькасць рэплік на кожнага субяседніка — 5—6.

***Маналагічнае маўленне***

Вучні павінны ўмець:

- апісваць прадметы і з’явы, уключаючы элементы параўнання;
- паведамляць інфармацыю, уключаючы апісанне і параўнанне;
- коратка пераказваць змест прачытанага/праслуханага тэксту.

Віды маналагічнага выказвання: апісанне, паведамленне, расказ.

Аб’ём выказвання — 6—9 фраз.

## Чытанне

Вучні павінны:

- разумець тэксты, якія напісаны з дапамогай транскрыпцыйных знакаў, з рознай паўнатой і дакладнасцю пранікнення ў іх змест у залежнасці ад віду чытання;
- разумець асноўны змест тэкстаў (азнаямленчае чытанне);
- адносна разумець змест тэкстаў (вывучальнае чытанне);
- знаходзіць у тэкстах неабходную/цікавую інфармацыю.

Аб’ём тэксту для разумення асноўнага зместу — 0,5 старонкі.

Аб’ём тэксту, які арыентаваны на адносна поўнае разуменне, — 0,3—0,5 старонкі.

Вучні павінны ўмець чытаць іерогліфы (150—350), сказы і тэксты (аб’ём да 0,2 старонкі), якія напісаны іерогліфамі.

Віды тэкстаў: апавяданне, пісьмо, скорагаворка, рыфмоўка, верш, песня, артыкул з дзіцячага часопіса, меню, кінаафіша.

### Пісьмо і пісьмовае маўленне

Вучні павінны ўмець прадуцыраваць нескладаныя віды пісьмовых тэкстаў, якія напісаны з дапамогай транскрыпцыйных знакаў, у адпаведнасці з нормамі, прынятымі ў краіне вывучаемай мовы:

- падпісваць паштоўку;
- пісаць асабістае пісьмо ў межах вывучанай тэматыкі;
- паведамляць у анкеце асноўныя звесткі асабістага характару.

Аб’ём тэксту — 45—60 слоў.

Вучні павінны ўмець пісаць іерогліфы (100—260), сказы і тэксты (аб’ём да 0,2 старонкі), якія напісаны іерогліфамі.

### МОЎНЫ МАТЭРЫЯЛ

**Фанетыка**

Інтанацыя агульнага пытання ў сцвярджальна-адмоўнай форме.

Інтанацыя спецыяльных пытанняў.

Інтанацыя пытання з часціцай 呢.

**Лексіка**

*Прадуктыўны мінімум:* 210—250 лексічных адзінак.

*Рэцэптыўны мінімум:* 150—250 лексічных адзінак.

*Агульны аб’ём прадуктыўнай лексікі:* 820—900 лексічных адзінак.

*Агульны аб’ём рэцэптыўнай лексікі:* 390—550 лексічных адзінак.

**Граматыка**

***Граматычны матэрыял для прадуктыўнага засваення***

***Марфалогія***

*Лічыльнае слова:* 部, 片, 座, 套, 首, 部, 头, 群, 匹.

*Прыметнік:* параўнальныя канструкцыі 跟…一样, 像…一样.

*Займеннік:* указальныя займеннікі 这些, 那些.

*Лічэбнік:* лічэбнікі 100—1000; прэфікс парадкавых лічэбнікаў 第.

*Дзеяслоў:* дапаможныя словы 过 і 了; адмоўная і пытальная формы прошлага часу.

*Мадальны дзеяслоў:* 应该, 能, 可以, 要, 愿意; 要 для выражэння будучага часу.

*Прыслоўе:* ужыванне прыслоўяў 都, 也; прыслоўі частотнасці 总是, 经常, 有时, 很少, 从来(不), 还; ужыванне прыслоўяў 非常, 挺, 最, 更, 又 і 再.

*Дапаўненне колькасці:* у параўнальных канструкцыях з 比.

*Дапаўненне меры і ступені:* у параўнальных канструкцыях з 比 (一点儿, 多了, 得多). Параўнальныя канструкцыі з 比 у сказах з дзеяслоўным выказнікам (1).

*Дапаўненне кратнасці:* 遍, 次.

*Паслялог:* 北边, 南边, 西边, 东边.

*Злучнік:* 或者, 但是, 可是.

***Сінтаксіс***

Сказы з іменным выказнікам без злучэння 是.

Сказы з дзеяслоўным выказнікам.

Сказы з дзеясловам-злучэннем 是.

Сказы з 有.

Сказы з адным дапаўненнем.

Сказы з мадальным дзеясловам і дзеясловам 喜欢.

Многадзеяслоўныя сказы (мэты).

Сказы з якасным выказнікам.

Пытанне з часціцай 呢.

Спецыяльнае пытанне з 几, 几个, 多少.

Сказы, якія абазначаюць размяшчэнне ў прасторы (在)…上有一个…/是… (2).

Структура сказа з дапаўненнем працягласці (1).

Агульнае пытанне ў сцвярджальна-адмоўнай форме.

Спецыяльныя пытанні з пытальнымі словамі 哪儿, 多少, 多长时间, 怎么, 怎么样.

Кароткія адказы на агульныя пытанні.

Канструкцыі 一边…一边; 用…做…; …对…有/没有好处; 坐/骑…去/走; 往/向…走/拐; …离…远/近; 每天都…; 跟…一起…; 从…回/到/去/来; …极了; 因为…所以; 一点儿; 有一点儿; 一些; 有的…有的… .

* * *

Вучні павінны валодаць **сацыякультурнымі ведамі і ўменнямі**:

- ведаць геаграфічнае становішча, прыродныя асаблівасці, нацыянальныя сімвалы Рэспублікі Беларусь і краін вывучаемай мовы;
- ведаць імёны найбольш вядомых персанажаў дзіцячых літаратурных твораў краіны вывучаемай мовы;
- умець запрасіць замежнага равесніка правесці вольны час разам;
- умець напісаць пісьмо сябру па перапісцы, захоўваючы сацыякультурныя нормы.

Вучні павінны валодаць **кампенсаторнымі ўменнямі** ва ўсіх відах маўленчай дзейнасці:

***успрыманне і разуменне маўлення на слых***

- прагназаваць змест аўдыётэксту па загалоўку, пачатку тэксту;
- абапірацца на сродкі зрокавай нагляднасці (малюнкі, фатаграфіі, табліцы);
- выкарыстоўваць моўную здагадку (па падабенстве са словамі роднай мовы);
- удакладняць змест выказвання субяседніка з дапамогай мімікі і жэстаў;

***чытанне***

- прагназаваць змест тэксту па загалоўку, пачатку тэксту;
- абапірацца на сродкі зрокавай нагляднасці (малюнкі, фатаграфіі, табліцы);
- выкарыстоўваць моўную здагадку (па падабенстве са словамі роднай мовы, па словаўтваральных элементах);
- выкарыстоўваць двухмоўныя слоўнікі;

***гаварэнне***

- звяртацца за дапамогай да субяседніка, ужываючы перапытванне;
- удакладняць змест выказвання з дапамогай мімікі і жэстаў;

***пісьмовае маўленне***

- выкарыстоўваць тэкст-узор у якасці апоры.

Вучні павінны валодаць **вучэбна-пазнавальнымі ўменнямі:**

- складаць план выказвання прачытанага/праслуханага тэксту;
- выконваць самастойныя заданні рэпрадуктыўнага характару з выкарыстаннем друкаваных матэрыялаў (раздатачны матэрыял, нагляднасць);
- выкарыстоўваць двухмоўныя слоўнікі.

Вучні павінны выкарыстоўваць набыты **моўны, маўленчы і сацыякультурны вопыт** для:

- пераадолення псіхалагічных бар'ераў у працэсе вусных зносін на замежнай мове;
- азнаямлення з дзіцячым замежным фальклорам і даступнымі ўзорамі дзіцячай мастацкай літаратуры на замежнай мове;
- драматызацыі нескладаных казак, баек, п'ес на замежнай мове;
- развіцця добразычлівых адносін да прадстаўнікоў іншых краін.

# VII КЛАС

## 105/175 гадзін

## ПРАДМЕТНА-ТЭМАТЫЧНЫ ЗМЕСТ ЗНОСІН

| Сфера зносін | Прадметна-тэматычны змест | Камунікатыўныя задачы<br>У канцы года вучань павінен умець |
|---|---|---|
| Сацыяльна-бытавая | Знешнасць і характар | • Апісаць знешнасць чалавека і яго характар<br>• Выказаць і абгрунтаваць меркаванне наконт характару чалавека<br>• Выказаць камплімент наконт знешнасці<br>• *Абмеркаваць характар героя фільма/кнігі* |
| | Пакупкі | • Расказаць і распытаць аб розных магазінах у Рэспубліцы Беларусь і краіне вывучаемай мовы<br>• Запытаць і атрымаць інфармацыю пры пакупцы прадметаў адзення / прадуктаў харчавання ў магазіне/супермаркеце<br>• *Параўнаць розныя магазіны ў Рэспубліцы Беларусь і краіне вывучаемай мовы* |
| | Сябры | • Расказаць гісторыю знаёмства з сябрам<br>• Апісаць знешнасць, характар і любімыя заняткі сябра<br>• *Расказаць аб сапраўдным сябры, аргументаваць свой пункт гледжання* |
| | Жыццё ў горадзе і вёсцы | • Расказаць і распытаць аб перавагах/недахопах жыцця ў горадзе/вёсцы<br>• *Правесці экскурсію па горадзе/вёсцы* |
| Вучэбна-працоўная | Урок замежнай мовы | • Расказаць аб уроку замежнай мовы<br>• Выказаць свае адносіны да урока замежнай мовы<br>• *Абгрунтаваць важнасць вывучэння замежнай мовы* |

| Сфера зносін | Прадметна-тэматычны змест | Камунікатыўныя задачы |
|---|---|---|
| | | У канцы года вучань павінен умець |
| Сацыяльна-культурная | Спорт | • Расказаць аб папулярных відах спорту ў сваёй краіне<br>• Параўнаць папулярныя віды спорту ў Рэспубліцы Беларусь і краіне вывучаемай мовы<br>• Расказаць і распытаць аб індывідуальных занятках спортам<br>• *Выказаць свае адносіны да спорту і аргументаваць іх*<br>• *Даць парады па падтрымцы фізічнай формы*<br>• *Расказаць аб гісторыі Алімпійскіх гульняў* |
| Сацыяльна-пазнавальная | Падарожжа па розных краінах | • Запытаць і даць інфармацыю аб асноўных славутых мясцінах Рэспублікі Беларусь і краіны вывучаемай мовы<br>• Расказаць і распытаць аб славутых мясцінах сталіцы Рэспублікі Беларусь і краіны вывучаемай мовы<br>• *Расказаць аб рэальным/уяўным падарожжы па краінах/гарадах* |

## ПАТРАБАВАННІ ДА ПРАКТЫЧНАГА ВАЛОДАННЯ ВІДАМІ МАЎЛЕНЧАЙ ДЗЕЙНАСЦІ

### Успрыманне і разуменне маўлення на слых

Вучні павінны разумець на слых іншамоўныя тэксты маналагічнага і дыялагічнага характару ў прад'яўленні настаўніка, у гука- або відэазапісе, у натуральным тэмпе, з вербальнай апорай, з рознай паўнатой і дакладнасцю пранікнення ў іх змест:

- выдзяляць асноўную інфармацыю ў тэкстах, якія змяшчаюць 1—2 % незнаёмых слоў, няведанне якіх не ўплывае на разуменне тэксту;
- адносна поўна разумець тэксты, якія змяшчаюць 1 % незнаёмых слоў, значэнне якіх можна зразумець з дапамогай моўнай або кантэкстуальнай здагадкі;

- выбарачна разумець неабходную/цікавую інфармацыю.

Віды тэкстаў: верш, песня, апавяданне, легенда, аб’ява, фрагмент відэафільма.

Працягласць гучання тэксту — 1,5—2 мін.

### Гаварэнне

***Дыялагічнае маўленне***

Вучні п а в і н н ы ў м е ц ь:

- запытваць і паведамляць інфармацыю, якая вызначана прадметна-тэматычным зместам зносін;
- выказваць сваё меркаванне і даведвацца пра адносіны субяседніка да атрыманай інфармацыі;
- даваць эмацыянальную ацэнку.

Віды дыялогу: дыялог-распытванне, дыялог — абмен думкамі, дыялог — пабуджэнне да дзеяння.

Колькасць рэплік на кожнага субяседніка — 5—6.

***Маналагічнае маўленне***

Вучні п а в і н н ы ў м е ц ь:

- апісваць і параўноўваць прадметы і з’явы;
- расказваць аб пачутым/прачытаным/убачаным;
- паведамляць інфармацыю, спалучаючы апісанне, апавяданне і параўнанне.

Віды маналагічнага выказвання: апісанне, паведамленне, расказ, параўнанне.

Аб’ём выказвання — не менш за 8—10 фраз.

### Чытанне

Вучні п а в і н н ы р а з у м е ц ь тэксты з рознай паўнатой і дакладнасцю пранікнення ў іх змест у залежнасці ад віду чытання:

- разумець асноўны змест часткова адаптаваных мастацкіх і навукова-папулярных тэкстаў (азнаямленчае чытанне);
- адносна поўна разумець змест часткова адаптаваных мастацкіх і навукова-папулярных тэкстаў (вывучальнае чытанне);
- знаходзіць у тэкстах неабходную/цікавую інфармацыю;

- устанаўліваць прычынна-выніковыя сувязі паміж фактамі тэксту і падзеямі.

Тэксты, прызначаныя для разумення асноўнага зместу, могуць уключаць да 2—3 % незнаёмых слоў, якія не перашкаджаюць разуменню тэксту. Аб'ём тэксту — прыкладна 2200—3000 друкаваных знакаў з прабеламі.

Тэксты, арыентаваныя на адносна поўнае разуменне зместу, могуць уключаць 1—2 % незнаёмых слоў, раскрыццё значэння якіх магчыма з дапамогай двухмоўнага слоўніка. Аб'ём тэксту — прыкладна 1700—2500 друкаваных знакаў з прабеламі.

Віды тэкстаў: біяграфія, артыкул, запрашэнне, спіс пакупак, электроннае паведамленне, турыстычная брашура, пісьмо ў часопіс.

### Пісьмовае маўленне

Вучні павінны ўмець прадуцыраваць нескладаныя віды пісьмовых тэкстаў у адпаведнасці з нормамі, прынятымі ў краіне вывучаемай мовы:

- пісаць віншаванне, запрашэнне;
- пісаць асабістае пісьмо ў межах вывучанай тэматыкі;
- пераказваць змест прачытанага тэксту.

Аб'ём тэксту — не менш за 60—80 слоў.

## МОЎНЫ МАТЭРЫЯЛ

### АНГЛІЙСКАЯ МОВА

**Фанетыка**

Націск у сказе (самастойныя і службовыя часціны мовы).

Націск у шматскладовых словах.

**Лексіка**

*Прадуктыўны мінімум:* 230—280 лексічных адзінак.

*Рэцэптыўны мінімум:* 150—260 лексічных адзінак.

*Агульны аб'ём прадуктыўнай лексікі:* 1050—1180 лексічных адзінак.

*Агульны аб'ём рэцэптыўнай лексікі:* 540—810 лексічных адзінак.

*Словаўтварэнне:* суфіксы назоўнікаў *-ness*; прыметнікаў *-less, -ly*; прыстаўка дзеясловаў *re-*; састаўныя прыметнікі *(kind-hearted)*.

**Граматыка**

***Граматычны матэрыял для прадуктыўнага засваення***

***М а р ф а л о г і я***

*Назоўнік:* назоўнікі, якія ўжываюцца толькі ў адзіночным *(advice, money, knowledge)* або множным *(trousers, outskirts, cattle, clothes)* ліку; назоўнікі ў адзіночным ліку, якія маюць форму множнага ліку *(gymnastics, athletics).*

*Артыкль:* артыкль перад назвамі відаў спорту і спартыўных спаборніцтваў, перад назвамі славутых мясцін (тэатраў, кінатэатраў, музеяў, гасцініц, аэрапортаў, паркаў, плошчаў).

*Прыметнік:* узмацненне ступеней параўнання прыметнікаў *a lot, far, much (longer), slightly, a bit, a little (faster).*

*Займеннік:* неазначальныя займеннікі *neither, either, none.*

*Лічэбнік:* субстантываваны лічэбнік *hundreds of (books).*

*Дзеяслоў:* сцвярджальная, адмоўная і пытальная формы дзеясловаў у *Present Perfect Continuous*; дзеясловы ў *Present Simple, Present Continuous* для выражэння будучых дзеянняў; выражэнне звычайных дзеянняў у мінулым з дапамогай *used to.*

*М а д а л ь н ы д з е я с л о ў:* параўнанне ўжывання *to have to — must*; ужыванне *could, to be able to* для выражэння магчымасці/здольнасці выканаць дзеянні ў мінулым.

*Г е р у н д ы й:* герундый у функцыі дзейніка, дапаўнення і часткі выказніка.

*Прыслоўе: too* + прыметнік, прыметнік + *enough.*

*Прыназоўнік: for (two years), since, before, after, till, untill.*

*Злучнік: if, in case, when.*

***С і н т а к с і с***

Складаназалежныя сказы з даданымі ўмовы і часу. Кароткія структуры згоды/нязгоды *(So do I / Neither do I).*

***Граматычны матэрыял для рэцэптыўнага засваення***

Сцвярджальная, адмоўная і пытальная формы дзеясловаў у *Past Simple Passive, Future Simple Passive.*

## НЯМЕЦКАЯ МОВА

**Фанетыка**

Націск у запазычаных словах. Лагічны націск у складаных сказах. Інтанацыйнае афармленне даданых сказаў.

**Лексіка**

*Прадуктыўны мінімум:* 230—280 лексічных адзінак.

*Рэцэптыўны мінімум:* 150—260 лексічных адзінак.

*Агульны аб'ём прадуктыўнай лексікі:* 1050—1180 лексічных адзінак.

*Агульны аб'ём рэцэптыўнай лексікі:* 540—810 лексічных адзінак.

*Словаўтварэнне:* суфіксы назоўнікаў мужчынскага роду *-er, -ler, -ist, -ing, -ant, -ent, -at*; суфіксы для ўтварэння множнага ліку назоўнікаў мужчынскага роду.

**Граматыка**

***Граматычны матэрыял для прадуктыўнага засваення***

***Марфалогія***

*Назоўнік:* род назоўнікаў (вызначэнне па фармальных прыметах): мужчынскі род — назоўнікі, якія ўтвораны ад дзеясловаў; назоўнікі з суфіксамі мужчынскага роду (гл. раздзел «Лексіка»). Скланенне назоўнікаў мужчынскага роду. Множны лік назоўнікаў мужчынскага роду.

*Артыкль:* артыкль перад назоўнікам у функцыі параўнання. Азначальны артыкль, калі перад назоўнікам стаіць парадкавы лічэбнік або прыметнік у найвышэйшай ступені. Неазначальны артыкль, калі перад назоўнікам стаіць азначэнне ў вышэйшай ступені.

*Прыметнік:* скланенне прыметнікаў пасля неазначальнага артыкля, прыналежных займеннікаў і адмоўнага займенніка *kein.* Ступені параўнання прыметнікаў. Асобыя выпадкі ўтварэння ступеней параўнання прыметнікаў *gut, hoch, nah*.

*Займеннік:* указальныя займеннікі *dieser, diese, dieses; jener, jene, jenes.*

*Лічэбнік:* колькасныя лічэбнікі звыш 100.

*Мадальны дзеяслоў: sollen* для выказвання даручэння, сумнення ў пытальных сказах.

*Прыслоўе:* асобыя выпадкі ўтварэння ступеней параўнання прыслоўяў *gern, oft, viel.*

*Прыназоўнік:* прыназоўнікі *gegen, ohne,* якія патрабуюць вінавальнага склону (сістэматызацыя).

***Сінтаксіс***

Складаназалежныя сказы. Даданыя дапаўняльныя сказы са злучнікамі *dass, ob.* Парадак слоў у даданых сказах. Складаназлучаныя

сказы са злучнікам *denn*; з прыслоўямі, якія выступаюць у ролі злучальных злучнікаў *dann, danach, darum, deshalb*. Парадак слоў у складаназлучаных сказах (сістэматызацыя).

***Граматычны матэрыял для рэцэптыўнага засваення***

Складаназлучаны сказ з састаўным злучнікам *nicht nur…sondern auch*. Складаназалежныя сказы: даданыя дапаўняльныя сказы са злучнікамі (злучнікавымі словамі) *wer, was, woher, wann, wohin, wo*.

## ФРАНЦУЗСКАЯ МОВА

**Фанетыка**

Інтанацыя складаназалежных сказаў.

**Лексіка**

*Прадуктыўны мінімум:* 230—280 лексічных адзінак.
*Рэцэптыўны мінімум:* 150—260 лексічных адзінак.
*Агульны аб'ём прадуктыўнай лексікі:* 1050—1180 лексічных адзінак.
*Агульны аб'ём рэцэптыўнай лексікі:* 540—810 лексічных адзінак.
*Словаўтварэнне:* суфіксы назоўнікаў *-té, -iste, -ment, -ssion, -tion*.

**Граматыка**

***Граматычны матэрыял для прадуктыўнага засваення***

***М а р ф а л о г і я***

*Назоўнік:* мужчынскі і жаночы род назоўнікаў.

*Артыкль:* частковы артыкль у словазлучэннях *faire du sport*; выпадкі адсутнасці артыкля.

*Прыметнік:* асобыя формы прыметнікаў жаночага роду.

*Займеннік:* асабовыя займеннікі ў функцыі прамога *(me, te, le, la, nous, vous, les)* і ўскоснага *(me, te, nous, vous, leur)* дапаўненняў; складаныя формы пытальных займеннікаў *lequel, laquelle*; складаныя формы указальных займеннікаў *celui-ci, celui-là, celle-ci, celle-là*.

*Дзеяслоў:* розныя спосабы выражэння будучага часу *le futur simple*, *le futur proche.*

*Прыслоўе:* ступені параўнання прыслоўяў; прыслоўі месца *en*, *y, au bout de, loin de / non loin de, parmi.*

*Прыназоўнік:* прыназоўнікі, якія выражаюць месцазнаходжанне ў прасторы і часе.

***С і н т а к с і с***

Складаназалежныя сказы з даданымі акалічнаснымі.

***Граматычны матэрыял для рэцэптыўнага засваення***

Ускосная мова ў плане цяперашняга часу.

*Неазначальныя прыметнікі *chaque, tout(-e), quelques, plusieurs, certains(-es), certain(-e).*

## ІСПАНСКАЯ МОВА

**Фанетыка**

Інтанацыя складаназлучаных, складаназалежных, пытальных і клічных сказаў.

**Лексіка**

*Прадуктыўны мінімум:* 230—280 лексічных адзінак.

*Рэцэптыўны мінімум:* 150—260 лексічных адзінак.

*Агульны аб'ём прадуктыўнай лексікі:* 1050—1180 лексічных адзінак.

*Агульны аб'ём рэцэптыўнай лексікі:* 540—810 лексічных адзінак.

*Словаўтварэнне:* суфіксы назоўнікаў *-ción (-sión, -ión)*; прыстаўка *anti-*.

**Граматыка**

***Граматычны матэрыял для прадуктыўнага засваення***

***М а р ф а л о г і я***

*Займеннік:* адмоўныя і неазначальныя.

*Дзеяслоў:* сістэматызацыя групы цяперашніх і прошлых часоў дзеяслова.

*Presente de Subjuntivo; Modo Imperativo (Imperativo afirmativo, Imperativo negativo). Modo Potencial (Condicional) Simple.*

***С і н т а к с і с***

Складаназалежныя сказы з даданымі сказамі (дапаўняльнымі, дзейнікавымі, часу і мэты).

## КІТАЙСКАЯ МОВА

### ПАТРАБАВАННІ ДА ПРАКТЫЧНАГА ВАЛОДАННЯ ВІДАМІ МАЎЛЕНЧАЙ ДЗЕЙНАСЦІ

#### Успрыманне і разуменне маўлення на слых

Вучні павінны разумець на слых іншамоўныя тэксты маналагічнага і дыялагічнага характару ў прад'яўленні настаўніка, у гука- або відэазапісе, у натуральным тэмпе, з вербальнай апорай, з рознай паўнатой і дакладнасцю пранікнення ў іх змест:

- выдзяляць асноўную інфармацыю ў тэкстах, якія змяшчаюць 1—2 % незнаёмых слоў, няведанне якіх не ўплывае на разуменне тэксту;
- адносна поўна разумець тэксты, якія змяшчаюць 1 % незнаёмых слоў, значэнне якіх можна зразумець з дапамогай моўнай або кантэкстуальнай здагадкі.

Віды тэкстаў: верш, песня, апавяданне, легенда, радыёпраграма.

Працягласць гучання тэксту — 1,5—2 мін.

#### Гаварэнне

***Дыялагічнае маўленне***

Вучні павінны ўмець:

- запытваць і паведамляць інфармацыю, якая вызначана прадметна-тэматычным зместам зносін;
- выказваць сваё меркаванне і даведвацца пра адносіны субяседніка да атрыманай інфармацыі;
- даваць эмацыянальную ацэнку атрыманай інфармацыі.

Віды дыялогу: дыялог-распытванне, дыялог — абмен думкамі, дыялог — пабуджэнне да дзеяння.

Колькасць рэплік на кожнага субяседніка — 5—6.

***Маналагічнае маўленне***

Вучні павінны ўмець:

- апісваць і параўноўваць прадметы і з'явы;
- расказваць аб пачутым/прачытаным/убачаным;
- паведамляць інфармацыю, спалучаючы апісанне, апавяданне і параўнанне.

Віды маналагічнага выказвання: апісанне, паведамленне, расказ, параўнанне.

Аб'ём выказвання — 8—10 фраз.

### Чытанне

Вучні павінны разумець тэксты, якія напісаны з дапамогай транскрыпцыйных знакаў, з рознай паўнатой і дакладнасцю пранікнення ў іх змест у залежнасці ад віду чытання:

- разумець асноўны змест адаптаваных мастацкіх і навукова-папулярных тэкстаў (азнаямленчае чытанне);
- адносна поўна разумець змест адаптаваных мастацкіх і навукова-папулярных тэкстаў (вывучальнае чытанне);
- знаходзіць у тэкстах неабходную/цікавую інфармацыю;
- устанаўліваць прычынна-выніковыя сувязі паміж фактамі тэксту і падзеямі.

Тэксты, прызначаныя для разумення асноўнага зместу, могуць уключаць да 2—3 % незнаёмых слоў, якія не перашкаджаюць разуменню тэксту. Аб'ём тэксту — 0,5—0,75 старонкі.

Тэксты, арыентаваныя на адносна поўнае разуменне зместу, могуць уключаць 1—2 % незнаёмых слоў, раскрыццё значэння якіх магчыма з дапамогай двухмоўнага слоўніка. Аб'ём тэксту — 0,3—0,5 старонкі.

Вучні павінны ўмець чытаць іерогліфы (200—550) і тэксты (аб'ём да 0,3 старонкі), якія напісаны іерогліфамі.

Віды тэкстаў: біяграфія, артыкул, запрашэнне, спіс пакупак, электроннае паведамленне, турыстычная брашура, пісьмо ў часопіс.

### Пісьмовае маўленне

Вучні павінны ўмець прадуцыраваць нескладаныя віды пісьмовых тэкстаў, якія напісаны з дапамогай транскрыпцыйных знакаў, у адпаведнасці з нормамі, прынятымі ў краіне вывучаемай мовы:

- пісаць віншаванне, запрашэнне;
- пісаць асабістае пісьмо ў межах вывучанай тэматыкі;
- коратка пераказваць змест прачытанага тэксту.

Аб'ём тэксту — 60—80 слоў.

Вучні **павінны ўмець** пісаць ключавыя элементы іерогліфаў (графемы) — 64 адзінкі; іерогліфы (140—400) і тэксты, якія напісаны іерогліфамі.

### МОЎНЫ МАТЭРЫЯЛ

**Фанетыка**

Інтанацыя пытальных сказаў з канчаткамі 是不是, 是吗, 对吗.

**Лексіка**

*Прадуктыўны мінімум:* 230—280 лексічных адзінак.

*Рэцэптыўны мінімум:* 150—260 лексічных адзінак.

*Агульны аб'ём прадуктыўнай лексікі:* 1050—1180 лексічных адзінак.

*Агульны аб'ём рэцэптыўнай лексікі:* 540—810 лексічных адзінак.

**Граматыка**

***Граматычны матэрыял для прадуктыўнага засваення***

***Марфалогія***

*Прыметнік:* параўнальныя канструкцыі з 有/没有; параўнальныя канструкцыі з 比 у сказах з дзеяслоўным выказнікам (2).

*Лічэбнік:* колькасныя лічэбнікі 1000—10 000. Выражэнне прыблізнай колькасці: 几 + лічыльнае слова + назоўнік; 几 + «十/百/千/万/亿» + лічыльнае слова + назоўнік; «十» + 几 + лічыльнае слова + назоўнік; «十/百/千/万» + 多 + лічыльнае слова + назоўнік/прыметнік; 一两个, 二三十.

Канструкцыя «лічэбнік + 多 + лічыльнае слова».

*Дзеяслоў:* працяглы час; рэдуплікацыя дзеясловаў; выкарыстанне 让, 请, 不让 для выражэння пабуджэння, запрашэння, просьбы.

*Прыслоўе:* … 一会儿, 以前, 以后, 从来, 终于, 已经.

*Дапаўненне стану:* …得… (2).

*Выніковае дапаўненне:* 好, 对, 错.

*Простае дапаўненне напрамку:* 来, 去.

*Часціца:* 的 (的-фразы); 地; 吧 у сказах, якія выражаюць меркаванне.

***Сінтаксіс***

Пытальныя сказы з канчаткамі 是不是, 是吗, 对吗.

Структура сказа з дапаўненнем працягласці (2).

Сказы з двайным аб'ектам.

Сказы з прыназоўнікам 把 (1).

Пабуджальны сказ тыпу 别…了.

Парадак размяшчэння азначэнняў, акалічнасцей.

Канструкцыі 又…又…; 有时…有时…; 如果…就; 虽然…但是…; 要…了; …的时候.

* * *

Вучні павінны валодаць **сацыякультурнымі ведамі і ўменнямі**:

- ведаць асноўныя славутыя мясціны Рэспублікі Беларусь і краін вывучаемай мовы;
- ведаць найбольш папулярныя віды спорту ў сваёй краіне і краіне вывучаемай мовы;
- ведаць, як зрабіць пакупкі ў магазіне/супермаркеце ў краіне вывучаемай мовы;
- умець расказаць свайму замежнаму равесніку аб славутых мясцінах сталіцы Рэспублікі Беларусь.

Вучні павінны валодаць **кампенсаторнымі ўменнямі** ва ўсіх відах маўленчай дзейнасці:

***успрыманне і разуменне маўлення на слых***

- прагназаваць змест аўдыётэксту па загалоўку, пачатку тэксту;
- абапірацца на сродкі зрокавай нагляднасці (малюнкі, фатаграфіі, табліцы);
- выкарыстоўваць моўную здагадку (па падабенстве са словамі роднай мовы, па кантэксце);
- удакладняць змест выказвання субяседніка з дапамогай мімікі і жэстаў;

***чытанне***

- прагназаваць змест тэксту па загалоўку, падзагалоўку, пачатку тэксту;
- абапірацца на сродкі зрокавай нагляднасці (малюнкі, фатаграфіі, табліцы);

- выкарыстоўваць моўную здагадку (па падабенстве са словамі роднай мовы, па словаўтваральных элементах, па кантэксце);
- выкарыстоўваць двухмоўныя слоўнікі;

***гаварэнне***

- звяртацца за дапамогай да субяседніка, ужываючы перапытванне і сродкі зрокавай нагляднасці (карта, схема, рас клад і г. д.);
- удакладняць змест выказвання з дапамогай мімікі і жэстаў;

***пісьмовае маўленне***

- выкарыстоўваць элементы тэксту ў якасці зместавых і моўных апор.

Вучні павінны валодаць **вучэбна-пазнавальнымі ўменнямі**:

- складаць план выказвання прачытанага/праслуханага тэксту;
- выконваць самастойныя заданні рэпрадуктыўна-прадуктыўнага характару з выкарыстаннем друкаваных матэрыялаў;
- выкарыстоўваць даведачны апарат вучэбнага дапаможніка і двухмоўных слоўнікаў.

Вучні павінны выкарыстоўваць набыты **моўны, маўленчы і сацыякультурны вопыт** для:

- вусных зносін з прадстаўнікамі краін вывучаемай мовы;
- азнаямлення з даступнымі ўзорамі мастацкай літаратуры на замежнай мове;
- развіцця добразычлівых і паважлівых адносін да прадстаўнікоў іншых краін;
- драматызацыі казак, баек, п’ес на замежнай мове.

# VIII КЛАС

**105/175 гадзін**

## ПРАДМЕТНА-ТЭМАТЫЧНЫ ЗМЕСТ МОЎНЫХ ЗНОСІН

| Сфера зносін | Прадметна-тэматычны змест | Камунікатыўныя задачы<br>У канцы года вучань павінен умець |
|---|---|---|
| Сацыяльна-бытавая | Нацыянальная кухня | • Расказаць і распытаць аб нацыянальнай кухні Рэспублікі Беларусь і краіны вывучаемай мовы<br>• Параўнаць традыцыйны сняданак, абед і вячэру ў Рэспубліцы Беларусь і краіне вывучаемай мовы<br>• Расказаць аб вядомых стравах розных краін<br>• *Параўнаць дамашняе харчаванне і фастфуд* |
| | Грошы | • Паказаць і распытаць аб адносінах да кішэнных грошай<br>• Расказаць аб сваіх расходах і аргументаваць іх<br>• *Выказаць меркаванне наконт неапраўданых расходаў* |
| Вучэбна-працоўная | Школьныя традыцыі | • Расказаць і распытаць аб школьных традыцыях<br>• Парэкамендаваць клуб, гурток, спартыўную секцыю ў школе<br>• *Параўнаць традыцыі сваёй школы і школы замежнага равесніка* |
| Сацыяльна-культурная | Літаратура | • Расказаць і распытаць аб перавагах у літаратуры<br>• Расказаць аб любімым беларускім і замежным пісьменніках<br>• Расказаць аб кнізе і выказаць свае адносіны да яе<br>• *Абгрунтаваць важнасць чытання ў жыцці чалавека* |

| Сфера зносін | Прадметна-тэматычны змест | Камунікатыўныя задачы<br>У канцы года вучань павінен умець |
|---|---|---|
| | Кіно | • Расказаць і распытаць аб фільмах розных жанраў і сваіх перавагах<br>• Расказаць аб любімым беларускім і замежным акцёрах<br>• Расказаць аб фільме і даць яму ацэнку<br>• *Расказаць аб цікавых фактах з гісторыі кінематографа* |
| | Музыка | • Расказаць і распытаць аб перавагах ў музыцы<br>• Запытаць і атрымаць інфармацыю аб канцэрце / музычным спектаклі<br>• Выказаць сваё меркаванне аб канцэрце / оперы / музычным спектаклі<br>• Падтрымаць або не падтрымаць меркаванне субяседніка аб канцэрце / оперы / музычным спектаклі<br>• *Параўнаць розныя музычныя стылі* |
| Сацыяльна-пазнавальная | Звычаі і традыцыі Рэспублікі Беларусь і краін вывучаемай мовы | • Расказаць і распытаць аб памятных датах і традыцыях Рэспублікі Беларусь і краін вывучаемай мовы<br>• Апісаць народнае свята<br>• *Параўнаць звычаі і традыцыі краін вывучаемай мовы* |

## ПАТРАБАВАННІ ДА ПРАКТЫЧНАГА ВАЛОДАННЯ ВІДАМІ МАЎЛЕНЧАЙ ДЗЕЙНАСЦІ

### Успрыманне і разуменне маўлення на слых

Вучні павінны разумець на слых іншамоўныя тэксты дыялагічнага і маналагічнага характару ў прад’яўленні настаўніка, у гука- або відэазапісе, у тэмпе, набліжаным да натуральнага, з рознай паўнатой і дакладнасцю пранікнення ў іх змест:

- выдзяляць асноўную інфармацыю ў тэкстах, якія змяшчаюць 2—3 % незнаёмых слоў, няведанне якіх не ўплывае на разуменне;

- адносна поўна разумець тэксты, якія змяшчаюць 1—2 % незнаёмых слоў, значэнне якіх можна зразумець з дапамогай моўнай або кантэкстуальнай здагадкі;
- выбарачна разумець неабходную/цікавую інфармацыю.

Віды тэкстаў: верш, песня, апавяданне, біяграфія, размова па тэлефоне, фрагмент радыёпраграмы, відэафільма.

Працягласць гучання тэксту — 1,5—2 мін.

### Гаварэнне

***Дыялагічнае маўленне***

Вучні п а в і н н ы ў м е ц ь:

- запытваць і паведамляць інфармацыю, вызначаную прадметна-тэматычным зместам зносін;
- выказваць сваё меркаванне і даведвацца пра адносіны субяседніка да атрыманай інфармацыі;
- падтрымліваць або абвяргаць меркаванне субяседніка;
- даваць эмацыянальную ацэнку.

Віды дыялогу: дыялог-распытванне, дыялог — абмен думкамі, дыялог — пабуджэнне да дзеяння.

Колькасць рэплік на кожнага субяседніка — 6—7.

***Маналагічнае маўленне***

Вучні п а в і н н ы ў м е ц ь:

- апісваць прадметы і з’явы з элементамі ацэнкі і выказвання меркавання;
- спалучаць апісанне і апавяданне з элементамі разважання;
- расказваць аб пачутым/прачытаным/убачаным.

Віды маналагічнага выказвання: апісанне, расказ, разважанне, ацэначнае меркаванне.

Аб’ём выказвання — не менш за 8—12 фраз.

### Чытанне

Вучні п а в і н н ы р а з у м е ц ь тэксты з рознай паўнатой і дакладнасцю пранікнення ў іх змест у залежнасці ад віду чытання:

- разумець асноўны змест нескладаных аўтэнтычных мастацкіх і навукова-папулярных тэкстаў (азнаямленчае чытанне);

- поўна і дакладна разумець змест нескладаных аўтэнтычных мастацкіх і навукова-папулярных тэкстаў (вывучальнае чытанне);
- знаходзіць у тэкстах неабходную/цікавую інфармацыю;
- устанаўліваць прычынна-выніковыя сувязі паміж фактамі і падзеямі;
- ацэньваць важнасць і навізну выбранай інфармацыі.

Тэксты, прызначаныя для разумення асноўнага зместу, могуць уключаць да 3—4 % незнаёмых слоў, значэнне якіх можна зразумець з дапамогай моўнай або кантэкстуальнай здагадкі. Аб'ём тэксту — прыкладна 2600—3500 друкаваных знакаў з прабеламі.

Тэксты, якія арыентаваны на адносна поўнае разуменне, могуць уключаць да 2—3 % незнаёмых слоў, раскрыццё значэння якіх магчыма пры выкарыстанні двухмоўнага слоўніка. Аб'ём тэксту — прыкладна 2100—3000 друкаваных знакаў з прабеламі.

Віды тэкстаў: апавяданне, біяграфія, пісьмо, артыкул, меню, афіша, праграма свята.

### Пісьмовае маўленне

Вучні павінны ўмець прадуцыраваць нескладаныя віды пісьмовых тэкстаў у адпаведнасці з нормамі, якія прыняты ў краіне вывучаемай мовы:

- пісаць віншаванні, запрашэнні, асабістыя пісьмы (пісьмо-падзяку, пісьмо — запыт інфармацыі, пісьмо-адказ);
- коратка выкладаць змест прачытанага/убачанага.

Аб'ём тэксту — не менш за 80—100 слоў.

## МОЎНЫ МАТЭРЫЯЛ

### АНГЛІЙСКАЯ МОВА

**Фанетыка**

Лагічны націск. Сэнсавае дзяленне тэксту з дапамогай інтанацыйных сродкаў.

Інтанацыя ўводных слоў.

**Лексіка**

*Прадуктыўны мінімум:* 230—280 лексічных адзінак.

*Рэцэптыўны мінімум:* 170—270 лексічных адзінак.

*Агульны аб'ём прадуктыўнай лексікі:* 1280—1460 лексічных адзінак.

*Агульны аб'ём рэцэптыўнай лексікі:* 710—1080 лексічных адзінак.

*Словаўтварэнне:* суфіксы назоўнікаў *-ion (-tion, -sion, -ssion)*; прыметнікаў *-able (-ible)*; дзеясловаў *-ize (-ise)*; прыстаўкі *un-, in-*.

**Граматыка**

***Граматычны матэрыял для прадуктыўнага засваення***

***Марфалогія***

*Назоўнік:* множны лік назоўнікаў, якія заканчваюцца на *-f, -fe (loaf — loaves, knife — knives).*

*Артыкль:* артыкль перад назвамі прыёмаў ежы, назвамі музычных інструментаў; азначальны артыкль перад субстантываванымі прыметнікамі; ужыванне неазначальнага артыкля ва ўстойлівых словазлучэннях.

*Прыметнік:* парадак прыметнікаў перад назоўнікам (памер, узрост, колер).

*Займеннік:* зваротныя займеннікі, якія заканчваюцца на *-self, -selves*; адносныя займеннікі *who, whose, whom, which.*

*Дзеяслоў:* сцвярджальная, адмоўная і пытальная формы дзеясловаў у *Past Perfect*; параўнанне *Present Perfect — Present Perfect Continuous*; сцвярджальная, адмоўная і пытальная формы дзеясловаў у *Past Simple Passive.*

*Мадальны дзеяслоў: ought to* для выказвання парады, рэкамендацыі; *need/needn't* для выражэння неабходнасці / адсутнасці неабходнасці выканання дзеяння.

*Герундый:* ужыванне пасля дзеясловаў *like, love, enjoy, be good at, hate, dislike*.

*Інфінітыў:* ужыванне інфінітыва з часціцай *to* і без яе.

*Дзеепрыметнік:* залежны і незалежны дзеепрыметнікі ў функцыі азначэння *-ing, -ed.*

*Прыназоўнік: by (4 o'clock)*; прыназоўнікі з прыметнікамі.

*Злучнік: that.*

***Сінтаксіс***

Параўнальныя сказы *as…as*. Складаназалежныя сказы з даданымі дапаўняльнымі сказамі.

***Граматычны матэрыял для рэцэптыўнага засваення***

Суфіксы прыметнікаў *-ent, -ant.*

*Сцвярджальная, адмоўная і пытальная формы дзеясловаў у *Future-in-the-Past.*

*Дапасаванне часоў.

## НЯМЕЦКАЯ МОВА

**Фанетыка**

Націск у займеннікавых прыслоўях. Рытм у сказе (націскныя і ненаціскныя словы ў складаных сказах). Інтанацыя сказаў з інфінітыўнай групай з *um…zu + Infinitiv*.

**Лексіка**

*Прадуктыўны мінімум:* 230—280 лексічных адзінак.

*Рэцэптыўны мінімум:* 170—270 лексічных адзінак.

*Агульны аб'ём прадуктыўнай лексікі:* 1280—1460 лексічных адзінак.

*Агульны аб'ём рэцэптыўнай лексікі:* 710—1080 лексічных адзінак.

*Словаўтварэнне:* суфіксы назоўнікаў ніякага роду *-chen, -lein, -tum*; прыстаўка назоўнікаў ніякага роду *ge-*; субстантывацыя: субстантываваныя інфінітывы і прыметнікі.

**Граматыка**

***Граматычны матэрыял для прадуктыўнага засваення***

***М а р ф а л о г і я***

*Назоўнік:* род назоўнікаў (вызначэнне па фармальных прыметах): ніякі род — субстантываваныя інфінітывы і прыметнікі; назоўнікі з суфіксамі ніякага роду (гл. раздзел «Лексіка»); большасць назоўнікаў з прыстаўкай *ge-*. Множны лік назоўнікаў ніякага роду.

*Прыметнік:* скланенне прыметнікаў пасля азначальнага артыкля; указальных займеннікаў *dieser, diese, dieses*; *jener, jene, jenes*; пытальных займеннікаў *welcher, welche, welches*; неазначальных займеннікаў *jeder, jede, jedes.*

*Займеннік:* неазначальныя займеннікі *jemand; niemand; jeder, jede, jedes; viele; einige;* неазначальна-асабовы займеннік *man.*

*Дзеяслоў:* часавая форма дзеяслова *Plusquamperfekt Aktiv* для выражэння даўно прошлага часу.

*М а д а л ь н ы  д з е я с л о ў:* сістэматызацыя.

*Прыслоўе:* пытальныя займеннікавыя прыслоўі; указальныя займеннікавыя прыслоўі ў кароткіх адказах.

*Прыназоўнік:* прыназоўнікі *von, bei, seit, außer*, якія патрабуюць давальнага склону; прыназоўнік *während*, які патрабуе роднага склону.

***С і н т а к с і с***

*І н ф і н і т ы ў:* інфінітыўная група *um…zu* + *Infinitiv*. Парадак слоў.

Складаназалежны сказ. Даданыя прычыны са злучнікамі *weil, da*; даданыя ўмовы са злучнікам *wenn*.

***Граматычны матэрыял для рэцэптыўнага засваення***

*Лічэбнік:* дробавыя лічэбнікі, утварэнне і ўжыванне.

*Дзеяслоў:* зваротныя дзеясловы з *sich* у *Dativ: sich (Dat.) etwas anhören; sich (Dat.) etwas ansehen; sich (Dat.) etwas anziehen; sich (Dat.) etwas ausdenken; sich (Dat.) etwas merken; sich (Dat.) etwas vorstellen; sich (Dat.) etwas wünschen.*

*Прыслоўе:* указальныя займеннікавыя прыслоўі як карэлят да даданага сказа або інфінітыўнай групы.

## ФРАНЦУЗСКАЯ МОВА

**Фанетыка**

Фразавы націск.

**Лексіка**

*Прадуктыўны мінімум:* 230—280 лексічных адзінак.

*Рэцэптыўны мінімум:* 170—270 лексічных адзінак.

*Агульны аб'ём прадуктыўнай лексікі:* 1280—1460 лексічных адзінак.

*Агульны аб'ём рэцэптыўнай лексікі:* 710—1080 лексічных адзінак.

*Словаўтварэнне:* суфікс прыслоўяў *-ment*.

**Граматыка**

***Граматычны матэрыял для прадуктыўнага засваення***

***М а р ф а л о г і я***

*Артыкль:* абугульняючае значэнне азначальнага артыкля, выпадкі адсутнасці артыкля.

*Прыметнік:* прыметнікі ў функцыі прыслоўяў.

*Займеннік:* указальныя займеннікі *ça, ce, celui, celle, ceux, celles, cela, ceci*; прыналежныя займеннікі *le mien (les miens), la mienne (les miennes), le tien (les tien), la tienne (les tiennes).*

*Лічэбнік:* колькасныя і парадкавыя.

*Дзеяслоў:* розныя спосабы выражэння закончанага прошлага часу *(le passé composé*, *le passé récent).* Ужыванне *le présent* у даданым умовы пасля *si.*

*Прыслоўе:* простыя і складаныя прыслоўі; утварэнне вытворных прыслоўяў на *-ment*; складанае адмаўленне *ne…jamais, ne…personne.*

***С і н т а к с і с***

Складаназалежныя сказы з даданымі ўмовы.

***Граматычны матэрыял для рэцэптыўнага засваення***

Прошлы просты час *le passé simple.*

## ІСПАНСКАЯ МОВА

**Фанетыка**

Удасканаленне слыха-вымаўленчых навыкаў вучняў на аснове вывучаемага лексіка-граматычнага матэрыялу.

**Лексіка**

*Прадуктыўны мінімум:* 250—280 лексічных адзінак.

*Рэцэптыўны мінімум:* 170—270 лексічных адзінак.

*Агульны аб'ём прадуктыўнай лексікі:* 1280—1460 лексічных адзінак.

*Агульны аб'ём рэцэптыўнай лексікі:* 710—1080 лексічных адзінак.

*Словаўтварэнне:* суфіксы прыметнікаў *-ico(a), -ano(a), -ense, -eño(a), -és(a), -ino(a), -esco(a)*.

**Граматыка**

***Граматычны матэрыял для прадуктыўнага засваення***

***М а р ф а л о г і я***

*Дзеяслоў:* структуры ў *Presente de Subjuntivo, Modo Imperativo (Imperativo afirmativo*, *Imperativo negativo).*

Структуры са знамянальнымі дзеясловамі ў *Potencial Simple*.

Інфінітыўныя звароты *acabar de + Inf., dejar de + Inf.*

***С і н т а к с і с***

Складаназалежныя сказы з даданымі (дапаўняльнымі, дзейнікавымі, часу і мэты).

## КІТАЙСКАЯ МОВА

### ПАТРАБАВАННІ ДА ПРАКТЫЧНАГА ВАЛОДАННЯ ВІДАМІ МАЎЛЕНЧАЙ ДЗЕЙНАСЦІ

#### Успрыманне і разуменне маўлення на слых

Вучні павінны разумець на слых іншамоўныя тэксты дыялагічнага і маналагічнага характару ў прад'яўленні настаўніка, у гука- або відэазапісе, у тэмпе, набліжаным да натуральнага, з рознай паўнатой і дакладнасцю пранікнення ў іх змест:

- выдзяляць асноўную інфармацыю ў тэкстах, якія змяшчаюць 2—3 % незнаёмых слоў, няведанне якіх не ўплывае на разуменне;
- адносна поўна разумець тэксты, якія змяшчаюць 1—2 % незнаёмых слоў, значэнне якіх можна зразумець з дапамогай моўнай або кантэкстуальнай здагадкі;
- выбарачна разумець неабходную/цікавую інфармацыю.

Віды тэкстаў: верш, песня, апавяданне, біяграфія, размова па тэлефоне, радыёпраграма, фрагмент відэафільма.

Працягласць гучання тэксту — 1,5—2 мін.

#### Гаварэнне

***Дыялагічнае маўленне***

Вучні павінны ўмець:

- запытваць і паведамляць інфармацыю, вызначаную прадметна-тэматычным зместам зносін;
- выказваць сваё меркаванне і даведвацца пра адносіны субяседніка да атрыманай інфармацыі;
- падтрымліваць або абвяргаць меркаванне субяседніка;
- даваць эмацыянальную ацэнку атрыманай інфармацыі.

Віды дыялогу: дыялог-распытванне, дыялог — абмен думкамі, дыялог — пабуджэнне да дзеяння.

Колькасць рэплік на кожнага субяседніка — 6—7.

***Маналагічнае маўленне***

Вучні павінны ўмець:

- апісваць прадметы і з'явы з элементамі ацэнкі і выказвання меркавання;

- спалучаць апісанне і апавяданне з элементамі разважання;
- расказваць аб пачутым/прачытаным/убачаным.

Віды маналагічнага выказвання: апісанне, расказ, разважанне, ацэначнае меркаванне.

Аб'ём выказвання — 8—12 фраз.

**Чытанне**

Вучні павінны разумець тэксты, якія напісаны з дапамогай транскрыпцыйных знакаў, з рознай паўнатой і дакладнасцю пранікнення ў іх змест у залежнасці ад віду чытання:

- разумець асноўны змест адаптаваных мастацкіх і навукова-папулярных тэкстаў (азнаямленчае чытанне);
- поўна і дакладна разумець змест адаптаваных мастацкіх і навукова-папулярных тэкстаў (вывучальнае чытанне);
- знаходзіць у тэкстах неабходную/цікавую інфармацыю;
- устанаўліваць прычынна-выніковыя сувязі паміж фактамі і падзеямі;
- ацэньваць важнасць і навізну выбранай інфармацыі.

Тэксты, прызначаныя для разумення асноўнага зместу, могуць уключаць да 3—4 % незнаёмых слоў, значэнне якіх можна зразумець з дапамогай моўнай або кантэкстуальнай здагадкі. Аб'ём тэксту — 0,75—1 старонка.

Тэксты, якія арыентаваны на адносна поўнае разуменне, могуць уключаць да 2—3 % незнаёмых слоў, раскрыццё значэння якіх магчыма пры выкарыстанні двухмоўнага слоўніка. Аб'ём тэксту — 0,5—0,75 старонкі.

Вучні павінны ўмець чытаць іерогліфы (200—750) і тэксты (аб'ём да 0,5 старонкі), якія напісаны іерогліфамі.

Віды тэкстаў: біяграфія, пісьмо, артыкул, запрашэнне, меню, электроннае паведамленне, турыстычная брашура, афіша, праграма свята.

**Пісьмовае маўленне**

Вучні павінны ўмець прадуцыраваць нескладаныя віды пісьмовых тэкстаў, у адпаведнасці з нормамі, якія прыняты ў краіне вывучаемай мовы:

- пісаць віншаванні, запрашэнні, асабістыя пісьмы (пісьмо-падзяку, пісьмо-запыт, пісьмо-адказ);
- коратка выкладаць змест прачытанага/убачанага.

Аб’ём тэксту — да 100 слоў.

Вучні павінны ўмець пісаць ключавыя элементы іерогліфаў (графемы) — 60 адзінак; іерогліфы (150—550) і тэксты (аб’ём да 0,5 старонкі), якія напісаны іерогліфамі.

## МОЎНЫ МАТЭРЫЯЛ

**Фанетыка**

Інтанацыя рытарычнага пытання.

**Лексіка**

*Прадуктыўны мінімум*: 230—280 лексічных адзінак.

*Рэцэптыўны мінімум:* 170—270 лексічных адзінак.

*Агульны аб’ём прадуктыўнай лексікі:* 1280—1460 лексічных адзінак.

*Агульны аб’ём рэцэптыўнай лексікі:* 710—1080 лексічных адзінак.

**Граматыка**

***Граматычны матэрыял для прадуктыўнага засваення***

***Марфалогія***

*Прыметнік:* рэдуплікацыя прыметнікаў.

*Дзеяслоў:* дзеясловы тыпу 好学, 游泳.

*Прыслоўе:*后来, 以后, 要不, 比如, 刚(才), 马上, 几乎, 稍, 过于, 尤其, 一向, 就, 才.

*Часціца:* 着 для выражэння працягласці дзеяння; мадальная часціца 了.

*Прыназоўнік:* ужыванне 对 у розных канструкцыях (对…感兴趣, 对…来说).

*Выніковае дапаўненне:* 来, 去, 好, 完, 懂, 上, 见, 到, 在.

***Сінтаксіс***

Рытарычнае пытанне.

Сказы з часціцай 把 (2).

Сказы з часціцай 把 (3).

Даданыя сказы мэты са злучнікам 为了.

Канструкцыі 先…再…; 不但…而且…; 了… 就…(了); 只要…就…; 要是…就…; 越来越…; 到…来/去.

* * *

Вучні павінны валодаць **сацыякультурнымі ведамі і ўменнямі:**

- ведаць асноўныя традыцыі і звычаі Рэспублікі Беларусь і краін вывучаемай мовы;
- ведаць папулярных пісьменнікаў, акцёраў, музыкантаў Рэспублікі Беларусь і краін вывучаемай мовы;
- ведаць школьныя традыцыі Рэспублікі Беларусь і краін вывучаемай мовы;
- ведаць асаблівасці нацыянальнай кухні Рэспублікі Беларусь і краін вывучаемай мовы;
- умець расказаць замежнаму равесніку аб нацыянальным свяце, традыцыі Рэспублікі Беларусь.

Вучні павінны валодаць **кампенсаторнымі ўменнямі** ва ўсіх відах маўленчай дзейнасці:

***успрыманне і разуменне маўлення на слых***

- прагназаваць змест аўдыётэксту па загалоўку, пачатку тэксту, па апорных словах;
- абапірацца на сродкі зрокавай нагляднасці (малюнкі, фатаграфіі, табліцы);
- выкарыстоўваць моўную здагадку (па падабенстве са словамі роднай мовы, па кантэксце);
- удакладняць змест выказвання субяседніка з дапамогай мімікі і жэстаў, пытанняў, перапытвання;

***чытанне***

- прагназаваць змест па загалоўку, падзагалоўку тэксту, апорных словах, сродках зрокавай нагляднасці;
- выкарыстоўваць тэкставыя апоры розных відаў (табліцы, графікі, шрыфтавыя выдзяленні);
- выкарыстоўваць моўную і кантэкстуальную здагадку;
- выкарыстоўваць двухмоўныя слоўнікі;
- выкарыстоўваць розныя каментарыі;

***гаварэнне***

- звяртацца за дапамогай да субяседніка, выкарыстоўваючы перапытванне і сродкі зрокавай нагляднасці (карта, схема, расклад і інш.);

- удакладняць змест выказвання з дапамогай мімікі і жэстаў;

***пісьмовае маўленне***

- выкарыстоўваць элементы тэксту ў якасці зместавых і моўных апор.

Вучні павінны валодаць **вучэбна-пазнавальнымі ўменнямі:**

- складаць план выказвання прачытанага/праслуханага тэксту;
- знаходзіць і абагульняць неабходную інфармацыю на замежнай мове;
- выконваць самастойныя заданні рэпрадуктыўна-прадуктыўнага характару з выкарыстаннем друкаваных матэрыялаў і тэхнічных сродкаў навучання;
- выкарыстоўваць даведачны апарат вучэбнага дапаможніка, двухмоўных слоўнікаў і іншых даведачных матэрыялаў;
- ажыццяўляць узаемакантроль у працэсе ўзаемадзеяння.

Вучні павінны выкарыстоўваць набыты **моўны, маўленчы і сацыякультурны вопыт** для:

- вусных зносін з прадстаўнікамі краін вывучаемай мовы;
- азнаямлення з даступнымі ўзорамі мастацкай літаратуры на замежнай мове;
- развіцця добразычлівых і паважлівых адносін да прадстаўнікоў іншых краін;
- больш глыбокага ўсведамлення некаторых асаблівасцей роднай мовы ў параўнанні з вывучаемай замежнай мовай;
- удзелу ў вучэбных праектах, у тым ліку з прадстаўнікамі іншых краін.

# IX КЛАС

**105/175 гадзін**

## ПРАДМЕТНА-ТЭМАТЫЧНЫ ЗМЕСТ ЗНОСІН

| Сфера зносін | Прадметна-тэматычны змест | Камунікатыўныя задачы<br>У канцы года вучань павінен умець |
|---|---|---|
| Сацыяльна-бытавая | Міжасобасныя адносіны | • Расказаць і распытаць аб міжасобасных адносінах (каханне, павага, сяброўства, адказнасць, клопат)<br>• Расказаць аб сваіх адносінах са сваякамі, сябрамі<br>• *Абмеркаваць праблему адносін паміж пакаленнямі*<br>• *Параіць, як вырашыць праблему* |
| | Здаровы лад жыцця | • Абмеркаваць карысныя і шкодныя звычкі<br>• Расказаць аб прынцыпах здаровага харчавання і выказаць свае адносіны да яго<br>• Даць рэкамендацыі па вядзенні здаровага ладу жыцця<br>• *Расказаць аб недамаганні і звярнуцца за парадай*<br>• *Пераканаць субяседніка ў неабходнасці здаровага ладу жыцця* |
| | Свет моды | • Расказаць і распытаць аб перавагах у адзенні<br>• Выказаць свае адносіны да маладзёжнай моды<br>• *Абмеркаваць сучасныя тэндэнцыі ў модзе* |
| Вучэбна-працоўная | Вучоба | • Расказаць і распытаць аб праблемах, звязаных з вучобай<br>• Даць парады/рэкамендацыі для павышэння эфектыўнасці вучобы<br>• Абмеркаваць планы на будучыню<br>• *Растлумачыць, як лепш падрыхтавацца да экзамену*<br>• *Прааналізаваць свой стыль вучэбнай дзейнасці* |

| | | |
|---|---|---|
| Сацыяльна-культурная | Сучасныя сродкі камунікацыі | • Расказаць аб найбольш значных навуковых вынаходніцтвах у сферы камунікацый (тэлебачанне, камп'ютар, мабільны тэлефон)<br>• Абмеркаваць ролю камп'ютара/інтэрнэта ў сучасным жыцці<br>• Абмеркаваць праблемы, абумоўленыя распаўсюджаннем камп'ютарных тэлекамунікацый<br>• *Даказаць перавагу выкарыстання сучасных сродкаў камунікацыі* |
| | Вольны час | • Расказаць і распытаць аб перавагах у сферы вольнага часу<br>• Расказаць і распытаць аб наведванні музея/тэатра/кінатэатра<br>• *Аргументаваць сваё меркаванне наконт перавагі ў сферы вольнага часу* |
| Сацыяльна-пазнавальная | Надвор'е і клімат | • Расказаць і распытаць аб кліматычных асаблівасцях Рэспублікі Беларусь і краін вывучаемай мовы<br>• Абмеркаваць прагноз надвор'я<br>• Расказаць аб стыхійных бедствах у розных рэгіёнах свету<br>• *Абмеркаваць узаемасувязь надвор'я, клімату, здароўя і дзейнасці чалавека* |

## ПАТРАБАВАННІ ДА ПРАКТЫЧНАГА ВАЛОДАННЯ ВІДАМІ МАЎЛЕНЧАЙ ДЗЕЙНАСЦІ

### Успрыманне і разуменне маўлення на слых

Вучні павінны разумець на слых іншамоўныя тэксты дыялагічнага і маналагічнага характару ў прад'яўленні настаўніка, у гука- або відэазапісе, у тэмпе, набліжаным да натуральнага, з рознай паўнатой і дакладнасцю пранікнення ў іх змест:

- вылучаць асноўную інфармацыю ў тэкстах, якія змяшчаюць 2—3 % незнаёмых слоў, значэнне якіх можна зразумець з дапамогай моўнай або кантэкстуальнай здагадкі;

- адносна поўна разумець тэксты, якія змяшчаюць 1—2 % незнаёмых слоў, аб значэнні якіх можна здагадацца.

Віды тэкстаў: апавяданне, інтэрв'ю, аб'ява, размова па тэлефоне, фрагмент радыёпраграмы, відэафільма, песня.

Працягласць гучання тэксту — 2—2,5 мін.

### Гаварэнне

***Дыялагічнае маўленне***

Вучні п а в і н н ы ў м е ц ь:

- запытваць і паведамляць інфармацыю, вызначаную прадметна-тэматычным зместам зносін;
- выказваць сваё меркаванне і даведвацца пра адносіны субяседніка да атрыманай інфармацыі;
- падтрымліваць або абвяргаць меркаванне субяседніка і аргументаваць свой пункт гледжання.

Віды дыялогу: дыялог-распытванне, дыялог — абмен думкамі, інтэрв'ю, дыялог — пабуджэнне да дзеяння, дыялог-разважанне.

Колькасць рэплік на кожнага субяседніка — 6—7.

***Маналагічнае маўленне***

Вучні п а в і н н ы ў м е ц ь:

- рабіць падрыхтаваныя і невялікія непадрыхтаваныя паведамленні па тэме/праблеме/сітуацыі;
- апісваць і параўноўваць прадметы, факты і з'явы;
- расказваць пра пачутае/прачытанае/убачанае;
- спалучаць апісанне і апавяданне з элементамі разважання і выказваннем уласнай ацэнкі.

Віды маналагічнага выказвання: апісанне, расказ, разважанне, ацэначнае меркаванне.

Аб'ём выказвання — не менш за 10—14 фраз.

### Чытанне

Вучні п а в і н н ы р а з у м е ц ь тэксты з рознай паўнатой і дакладнасцю пранікнення ў іх змест у залежнасці ад віду чытання:

- разумець асноўны змест нескладаных аўтэнтычных мастацкіх і навукова-папулярных тэкстаў (азнаямленчае чытанне);

- поўна і дакладна разумець змест нескладаных аўтэнтычных мастацкіх і навукова-папулярных тэкстаў (вывучальнае чытанне);
- знаходзіць неабходную/цікавую інфармацыю ў тэкстах публіцыстычнага і прагматычнага характару (праглядальнае/пошукавае чытанне);
- ацэньваць важнасць і навізну выбранай інфармацыі і выказваць свае адносіны да яе.

Тэксты, прызначаныя для разумення асноўнага зместу (азнаямленчае чытанне), могуць уключаць да 3—4 % незнаёмых слоў, пра значэнне якіх можна здагадацца. Аб'ём тэксту — прыкладна 2600—3500 друкаваных знакаў з прабеламі.

Тэксты для вывучальнага чытання могуць уключаць да 2—3 % незнаёмых слоў, раскрыццё значэння якіх магчыма пры выкарыстанні двухмоўнага слоўніка. Аб'ём тэксту — прыкладна 2100—3000 друкаваных знакаў з прабеламі.

Віды тэкстаў: артыкул у маладзёжным часопісе, навукова-папулярны артыкул, буклет музея, пісьмо, электроннае паведамленне, афіша.

### Пісьмовае маўленне

Вучні павінны ўмець прадуцыраваць нескладаныя віды пісьмовых тэкстаў у адпаведнасці з нормамі краіны вывучаемай мовы:
- пісаць віншаванні, запрашэнні, асабістыя пісьмы;
- пісаць кароткую аўтабіяграфію;
- коратка расказваць змест праслуханага/прачытанага тэксту;
- пісаць міні-сачыненне па прапанаванай тэме.

Аб'ём тэксту — не менш за 90—130 слоў.

## МОЎНЫ МАТЭРЫЯЛ

### АНГЛІЙСКАЯ МОВА

**Фанетыка**

Націск у вытворных словах. Выкарыстанне інтанацыі для выказвання пачуццяў і эмоцый.

**Лексіка**

*Прадуктыўны мінімум:* 230—280 лексічных адзінак.

*Рэцэптыўны мінімум:* 200—280 лексічных адзінак.

*Агульны аб’ём прадуктыўнай лексікі:* 1510—1740 лексічных адзінак.

*Агульны аб’ём рэцэптыўнай лексікі:* 910—1360 лексічных адзінак.

*Словаўтварэнне:* суфіксы назоўнікаў *-ty, -ist, -ship*; прыстаўкі *un-, in-*.

**Граматыка**

***Граматычны матэрыял для прадуктыўнага засваення***

***М а р ф а л о г і я***

*Артыкль:* артыкль перад уласнымі імёнамі (назвы тэатраў, музеяў, кінатэатраў); артыкль перад назвамі сродкаў камунікацыі (тэлебачанне, тэлефон, камп’ютар); артыкль перад абстрактнымі назоўнікамі *(love, care, friendship, responsibility).*

*Прыметнік:* прыметнікі і прыслоўі, якія цяжка распазнаць *(hard—hardly, good—well, late—lately, bad—badly).*

*Займеннік:* абсалютныя прыналежныя займеннікі *(mine)*; адносныя займеннікі *(what, where, why, when)*; неазначальныя займеннікі *(other, another).*

*Дзеяслоў:* спосабы выражэння дзеянняў у будучым *(Present Simple, Present Continuous, Future Simple).*

*Прыслоўе:* вышэйшая і найвышэйшая ступені параўнання прыслоўяў.

*Прыназоўнік:* прыназоўнікі з назоўнікамі.

***С і н т а к с і с***

Параўнальныя сказы *the more…the better.*

Складаназалежныя сказы з рознымі даданымі.

***Граматычны матэрыял для рэцэптыўнага засваення***

*Словаўтварэнне:* прыстаўкі *dis-, mis-, over-*.

*М а д а л ь н ы д з е я с л о ў: can’t, could, may, might, must* з рознымі відамі інфінітыва для выражэння меркавання аб магчымасці/немагчымасці выканання дзеянняў.

*І н ф і н і т ы ў:* віды інфінітыва *(Indefinite, Continuous, Perfect, Perfect Continuous).*

*Злучнік: for, since*.

*Ускосная мова.

**Фанетыка**

Рытм у сказе (націскныя і ненаціскныя словы ў складаных сказах).

Інтанацыя сказаў з аднароднымі членамі. Інтанацыя сказаў з інфінітывам з часціцай *zu*.

**Лексіка**

*Прадуктыўны мінімум:* 230—280 лексічных адзінак.

*Рэцэптыўны мінімум:* 200—280 лексічных адзінак.

*Агульны аб'ём прадуктыўнай лексікі:* 1510—1740 лексічных адзінак.

*Агульны аб'ём рэцэптыўнай лексікі:* 910—1360 лексічных адзінак.

*Словаўтварэнне:* суфіксы прыметнікаў *-sam, -los.*

**Граматыка**

***Граматычны матэрыял для прадуктыўнага засваення***

***Марфалогія***

*Назоўнік:* род назоўнікаў (сістэматызацыя). Множны лік назоўнікаў (сістэматызацыя). Пяць спосабаў утварэння множнага ліку назоўнікаў: *-e, -ё; -er, -ёr; -en, -n; -s; -Ø, ⁻̈Ø.* Асобы від скланення назоўнікаў. Скланенне назоўнікаў (сістэматызацыя).

*Артыкль:* азначальны артыкль, калі пасля назоўнікаў стаіць назоўнік у родным склоне або назоўнік з прыназоўнікам. Азначальны, неазначальны артыклі, адсутнасць артыкля (сістэматызацыя).

*Прыметнік:* скланенне прыметнікаў, перад якімі адсутнічае суправаджальнае слова: артыкль, указальны займеннік, адмоўны займеннік *kein,* прыналежны займеннік, лічэбнік. Скланенне прыметнікаў пасля неазначальных займеннікаў *viele, einige*, а таксама колькасных лічэбнікаў у назоўным і вінавальным склонах.

*Дзеяслоў:* часавыя формы дзеяслова ў незалежным стане (сістэматызацыя). Часавыя формы дзеяслова ў залежным стане *(Präsens Passiv* і *Präteritum Passiv).*

*Інфінітыў:* інфінітыў без часціцы *zu* пасля мадальных дзеясловаў; дзеясловаў успрымання *sehen, hören*; дзеясловаў, якія абазначаюць рух (у функцыі акалічнасці); дзеясловаў *werden, bleiben.* Інфінітыў з часціцай *zu* пасля групы дзеясловаў: *anfangen, beginnen, beschließen, brauchen, bitten, einladen, erlauben, erinnern, eglingen,*

*empfehlen, raten, glauben, hoffen, planen, vergessen, versprechen*, *versuchen, verbieten*; пасля звароту *es gibt*; пасля прыслоўяў і прыметнікаў: *es ist gesund/schlecht/höflich/interessant/leicht/schwer/(un) möglich/erlaubt/verboten/gewohnt/überzeugt;* абстрактных назоўнікаў: *haben + Absicht/Angst/Grund/Lust/Möglichkeit/Problem/Schwierigkei/Zeit;* пасля *machen + + Freude, Spaß.*

*Прыназоўнік:* прыназоўнікі, якія патрабуюць давальнага склону (сістэматызацыя).

***Сінтаксіс***

Складаназалежны сказ. Даданыя сказы мэты са злучнікам *damit.*

***Граматычны матэрыял для рэцэптыўнага засваення***

*Дзеяслоў:* структуры са знамянальнымі дзеясловамі ў *Infinitiv Passiv*; канструкцыя *haben/sein + zu + Infinitiv.* Інфінітыўныя звароты *statt/ohne…zu + Infinitiv.*

*Мадальны дзеяслоў:* у *Präsens* і *Präteritum Aktiv* для выражэння: *können* — дазволу, жадання; *dürfen* — права, паўнамоцтва; *müssen* — даручэння, задання, абавязку; *sollen* — загаду трэцяй асобе (парады, рэкамендацыі ў форме *sollte*).

*Прыназоўнік:* прыназоўнікі *wegen, trotz, unweit, infolge*, якія патрабуюць роднага склону.

Прыназоўнік *von* для ўказання на носьбіта дзеяння ў пасіўных сказах.

Складаназлучаныя сказы са злучнікам *sowohl…als auch.*

## ФРАНЦУЗСКАЯ МОВА

**Фанетыка**

Інтанацыя асноўных тыпаў простага, складаназлучанага і складаназалежнага сказаў.

**Лексіка**

*Прадуктыўны мінімум:* 230—280 лексічных адзінак.

*Рэцэптыўны мінімум:* 200—280 лексічных адзінак.

*Агульны аб'ём прадуктыўнай лексікі:* 1510—1740 лексічных адзінак.

*Агульны аб'ём рэцэптыўнай лексікі:* 910—1360 лексічных адзінак.

*Словаўтварэнне:* спосабы ўтварэння назоўнікаў.

**Граматыка**

***Граматычны матэрыял для прадуктыўнага засваення***

***М а р ф а л о г і я***

*Назоўнік:* назоўнікі жаночага роду, якія абазначаюць прафесіі.

*Артыкль:* абагульняючае значэнне азначальнага і неазначальнага артыкляў; адсутнасць артыкля.

*Дзеяслоў:* умоўны лад *le conditionnel présent*; часы абвеснага ладу; дапасаванне часоў (план цяперашняга часу).

*Прыслоўе:* асобыя формы ўтварэння ступеней параўнання.

***С і н т а к с і с***

Сістэматызацыя асноўных тыпаў простага і складаназлучанага сказаў. Ужыванне часоў у даданым умовы пасля злучніка *si.*

***Граматычны матэрыял для рэцэптыўнага засваення***

*Дзеяслоў:* безасабовая форма дзеяслова *le participe passé*.

Даўно прошлы час *le plus-que-parfait*. Ускоснае пытанне, ускосная мова.

## ІСПАНСКАЯ МОВА

**Фанетыка**

Удасканаленне слыха-вымаўленчых навыкаў вучняў на аснове вывучаемага лексіка-граматычнага матэрыялу.

**Лексіка**

*Прадуктыўны мінімум:* 230—280 лексічных адзінак.

*Рэцэптыўны мінімум:* 200—280 лексічных адзінак.

*Агульны аб’ём прадуктыўнай лексікі:* 1510—1740 лексічных адзінак.

*Агульны аб’ём рэцэптыўнай лексікі:* 910—1360 лексічных адзінак.

*Словаўтварэнне:* суфіксы назоўнікаў *-icia*, *-icio*; прыметнікаў *-al*; прыслоўяў *-mente.*

**Граматыка**

***Граматычны матэрыял для прадуктыўнага засваення***

***М а р ф а л о г і я***

*Дзеяслоў:* формы, значэнне і ўжыванне дзеясловаў у *Pretérito Imperfecto de Subjuntivo.*

*Дзеепрыметнік: Participio Pasado* ў функцыі азначэння, канструкцыя *estar + Participio Pasado.*

*Прыслоўе:* прыслоўе спосабу дзеяння.

***Сінтаксіс***

Дапасаванне часоў пры замене простай мовы на ўскосную.

Складаназалежныя сказы з даданымі ўмовы II тыпу.

***Граматычны матэрыял для рэцэптыўнага засваення***

*Дзеяслоў:* формы і значэнне дзеясловаў у *Pretérito Perfecto de Subjuntivo.*

*Potencial Simple* ў мадальным значэнні.

## КІТАЙСКАЯ МОВА

### ПАТРАБАВАННІ ДА ПРАКТЫЧНАГА ВАЛОДАННЯ ВІДАМІ МАЎЛЕНЧАЙ ДЗЕЙНАСЦІ

#### Успрыманне і разуменне маўлення на слых

Вучні павінны разумець на слых іншамоўныя тэксты дыялагічнага і маналагічнага характару ў прад'яўленні настаўніка, у гука- або відэазапісе, у тэмпе, набліжаным да натуральнага, з рознай паўнатой і дакладнасцю пранікнення ў іх змест:

- вылучаць асноўную інфармацыю ў тэкстах, якія змяшчаюць 2—3 % незнаёмых слоў, значэнне якіх можна зразумець з дапамогай моўнай або кантэкстуальнай здагадкі;
- адносна поўна разумець тэксты, якія змяшчаюць 1—2 % незнаёмых слоў, аб значэнні якіх можна здагадацца.

Віды тэкстаў: апавяданне, інтэрв'ю, аб'ява, размова па тэлефоне, радыёпраграма, відэафільм, песня.

Працягласць гучання тэксту — 2—2,5 мін.

#### Гаварэнне

***Дыялагічнае маўленне***

Вучні павінны ўмець:

- запытваць і паведамляць інфармацыю, вызначаную прадметна-тэматычным зместам зносін;

- выказваць сваё меркаванне і даведвацца пра адносіны субяседніка да атрыманай інфармацыі;
- падтрымліваць або абвяргаць меркаванне субяседніка і аргументаваць свой пункт гледжання.

Віды дыялогу: дыялог-распытванне, дыялог — абмен думкамі, інтэрв'ю, дыялог — пабуджэнне да дзеяння.

Колькасць рэплік на кожнага субяседніка — 6—7.

***Маналагічнае маўленне***

Вучні павінны ўмець:

- рабіць падрыхтаваныя і невялікія непадрыхтаваныя паведамленні па тэме/праблеме/сітуацыі;
- апісваць і параўноўваць прадметы, факты і з'явы;
- расказваць пра пачутае/прачытанае/убачанае;
- спалучаць апісанне і апавяданне з элементамі разважання і выказваннем уласнай ацэнкі.

Віды маналагічнага выказвання: апісанне, расказ, разважанне, ацэначнае меркаванне.

Аб'ём выказвання — 10—14 фраз.

**Чытанне**

Вучні павінны разумець тэксты, напісаныя з дапамогай іерогліфаў, з рознай паўнатой і дакладнасцю пранікнення ў іх змест у залежнасці ад віду чытання:

- разумець асноўны змест адаптаваных мастацкіх і навукова-папулярных тэкстаў (азнаямленчае чытанне);
- поўна і дакладна разумець змест адаптаваных мастацкіх і навукова-папулярных тэкстаў (вывучальнае чытанне);
- знаходзіць неабходную/цікавую інфармацыю ў тэкстах публіцыстычнага і прагматычнага характару (праглядальнае/пошукавае чытанне);
- ацэньваць важнасць і навізну выбранай інфармацыі і выказваць свае адносіны да яе.

Тэксты, прызначаныя для разумення асноўнага зместу (азнаямленчае чытанне), могуць уключаць да 3—4 % незнаёмых слоў, пра значэнне якіх можна здагадацца. Аб'ём тэксту — 0,5—0,75 старонкі.

Тэксты для вывучальнага чытання могуць уключаць да 2—3 % незнаёмых слоў, раскрыццё значэння якіх магчыма пры выкарыстанні двухмоўнага слоўніка. Аб'ём тэксту — 0,5 старонкі.

Віды тэкстаў: артыкул у маладзёжным часопісе, навукова-папулярны артыкул, буклет музея, пісьмо.

Вучні п а в і н н ы ў м е ц ь чытаць іерогліфы (250—1000).

### Пісьмовае маўленне

Вучні п а в і н н ы ў м е ц ь прадуцыраваць нескладаныя віды пісьмовых тэкстаў, якія напісаны з дапамогай іерогліфаў, у адпаведнасці з нормамі краіны вывучаемай мовы:

- пісаць віншаванні, запрашэнні, асабістыя пісьмы, кароткую аўтабіяграфію;
- коратка расказваць змест праслуханага/прачытанага тэксту;
- пісаць міні-сачыненне па прапанаванай тэме.

Аб'ём тэксту — 90—130 слоў (да 0,5 старонкі).

Вучні п а в і н н ы ў м е ц ь пісаць іерогліфы (200—750).

## МОЎНЫ МАТЭРЫЯЛ

**Фанетыка**

Інтанацыя бяззлучнікавых сказаў.

**Лексіка**

*Прадуктыўны мінімум:* 230—280 лексічных адзінак.
*Рэцэптыўны мінімум:* 200—280 лексічных адзінак.
*Агульны аб'ём прадуктыўнай лексікі:* 1510—1740 лексічных адзінак.
*Агульны аб'ём рэцэптыўнай лексікі:* 910—1360 лексічных адзінак.

**Граматыка**

***Граматычны матэрыял для прадуктыўнага засваення***

***М а р ф а л о г і я***

*Лічэбнік:* колькасныя лічэбнікі ад 10 000.
*Дзеяслоў:* пасіўны стан.
*Прыслоўе:* 像, 不过, 差不多, 曾经, 将要, 将来.
*Прыназоўнік:* 根据, 对于, 关于.
*Выніковае дапаўненне:* 上, 开, 出来, 起来, 下去.

*Дапаўненне стану* (3).
*Дапаўненне патэнцыяльнасці.*
*Злучнік:* 并, 并且, 而, 而且, 不仅, 免得.

***С і н т а к с і с***

Бяззлучнікавыя сказы.
Складаныя дапаўненні напрамку.
Сказы з 把 (4).
Ускоснае маўленне.
Канструкцыі 既…又…; 跟…有关系; …什么的; 还没有…呢!; 是…的; …有, …米高; …, 包括…; 最好; 一会儿…一会儿…; 如果…那么…; 不是…就…; 从…以来; 从…开始.

* * *

Па заканчэнні вывучэння замежнай мовы на другой ступені агульнай сярэдняй адукацыі вучні п а в і н н ы:

***в е д а ц ь:***

- асаблівасці вымаўлення і рытміка-меладычнай арганізацыі іншамоўнага маўлення;
- значэнні вывучаных лексічных адзінак, уключаючы ацэначную лексіку, устойлівыя словазлучэнні, асноўныя спосабы словаўтварэння (словаскладанне, афіксацыя, канверсія);
- значэнні рэалій, фразеалагічных спалучэнняў, характэрных для культуры краін вывучаемай мовы ў рамках прадметна-тэматычнага зместу праграмы;
- значэнні вывучаных граматычных з'яў прадуктыўнага і рэцэптыўнага мінімумаў і іх месца ў сістэме вывучаемай замежнай мовы;

***в а л о д а ц ь н а в ы к а м і:***

- выбару і камбінавання лексічных адзінак з улікам сітуацый зносін у адпаведнасці з камунікатыўнымі намерамі таго, хто гаворыць і піша;
- распазнання значэнняў мнагазначных і складаных слоў у рамках прадметна-тэматычнага зместу праграмы;
- граматычна правільнага афармлення іншамоўнага маўлення ў розных сітуацыях зносін у адпаведнасці з камунікатыўнымі намерамі таго, хто гаворыць і піша;
- разумення граматычных з'яў вывучаемай мовы ў працэсе чытання і ўспрымання мовы на слых.

Вучні п а в і н н ы в а л о д а ц ь **сацыякультурнымі ведамі і ўменнямі**:

- ведаць асаблівасці правядзення вольнага часу замежнымі равеснікамі;
- ведаць традыцыі, звязаныя з нацыянальнай кухняй і культурай харчавання Рэспублікі Беларусь і краін вывучаемай мовы;
- валодаць уменнямі маўленчага і немаўленчага этыкету (дома, у гасцях у замежнага равесніка);
- умець арыентавацца ў надпісах, знаках, аб'явах; карыстацца картамі, планамі мясцовасці ў краінах вывучаемай мовы;
- умець уступаць у зносіны з равеснікамі, у тым ліку ў інтэрнэце.

Вучні п а в і н н ы в а л о д а ц ь **кампенсаторнымі ўменнямі** ва ўсіх відах маўленчай дзейнасці:

***успрыманне і разуменне маўлення на слых***

- прагназаваць змест аўдыётэксту па загалоўку, пачатку і канцоўцы тэксту, па апорных словах;
- абапірацца на сродкі зрокавай нагляднасці (малюнкі, фатаграфіі, табліцы);
- выкарыстоўваць моўную і кантэкстуальную здагадку для аднаўлення прабелаў у змесце аўдыётэксту/выказвання;
- удакладняць змест выказвання субяседніка з дапамогай мімікі і жэстаў, пытанняў, перапытвання;

***чытанне***

- прагназаваць змест па загалоўку, падзагалоўку тэксту, апорных словах, сродках зрокавай нагляднасці;
- выкарыстоўваць тэкставыя апоры розных відаў (табліцы, графікі, шрыфтавыя выдзяленні);
- выкарыстоўваць моўную і кантэкстуальную здагадку;
- выкарыстоўваць двухмоўныя слоўнікі;
- выкарыстоўваць розныя каментарыі;

***гаварэнне***

- звяртацца за дапамогай да субяседніка, выкарыстоўваючы перапытванне і сродкі зрокавай нагляднасці (карта, схема, расклад і інш.);
- удакладняць змест выказвання з дапамогай мімікі і жэстаў;

- выкарыстоўваць сінанімічныя сродкі з мэтай удакладнення, тлумачэння;

***пісьмовае маўленне***

- выкарыстоўваць элементы тэксту ў якасці зместавых і моўных апор.

Вучні павінны валодаць **вучэбна-пазнавальнымі ўменнямі**:

- складаць план, фармуляваць тэзісы выказвання;
- знаходзіць і абагульняць неабходную інфармацыю на замежнай мове;
- выконваць самастойныя заданні рэпрадуктыўна-прадуктыўнага характару з выкарыстаннем друкаваных матэрыялаў і тэхнічных сродкаў навучання;
- ажыццяўляць самакантроль і ўзаемакантроль у працэсе ўзаемадзеяння;
- выкарыстоўваць даведачны апарат вучэбнага дапаможніка, іншых вучэбных матэрыялаў і двухмоўныя слоўнікі.

Вучні павінны выкарыстоўваць набыты **моўны, маўленчы і сацыякультурны вопыт** для:

- зносін з прадстаўнікамі іншых краін;
- атрымання звестак, неабходных у адукацыйных і самаадукацыйных мэтах, з іншамоўных крыніц інфармацыі (у тым ліку праз інтэрнэт);
- развіцця добразычлівых і паважлівых адносін да прадстаўнікоў іншых краін;
- удзелу ў вучэбных праектах, у тым ліку з прадстаўнікамі іншых краін.

# X КЛАС

## 105/175[1]/140[2] гадзін

## ПРАДМЕТНА-ТЭМАТЫЧНЫ ЗМЕСТ МОЎНЫХ ЗНОСІН

| Сфера зносін | Прадметна-тэматычны змест | Камунікатыўныя задачы |
|---|---|---|
| | | У канцы года вучань павінен умець |
| Сацыяльна-бытавая | Віды жылля | • Расказаць і распытаць аб відах жылля ў Рэспубліцы Беларусь і краіне вывучаемай мовы<br>• Апісаць дом/кватэру сваёй мары<br>• *Абмеркаваць праблемы культуры быту ў Рэспубліцы Беларусь і краіне вывучаемай мовы* |
| Вучэбна-працоўная | Адукацыя | • Расказаць і распытаць аб сістэме адукацыі ў Рэспубліцы Беларусь і краіне вывучаемай мовы<br>• Параўнаць і абмеркаваць сістэмы адукацыі ў роднай краіне і краіне вывучаемай мовы<br>• *Абмеркаваць экзамены ў сістэме адукацыі сваёй краіны і краіны вывучаемай мовы* |
| Сацыяльна-культурная | Сродкі масавай інфармацыі | • Расказаць і распытаць аб любімых газетах/часопісах<br>• Парэкамендаваць прачытаць цікавы артыкул / паглядзець тэлеперадачу<br>• Зрабіць кароткі агляд асноўных навін<br>• *Расказаць аб вядомых замежных і беларускіх газетах і часопісах* |
| | Мастацтва | • Расказать аб любімым мастаку/скульптары/фатографе і яго творах |

[1] Колькасць вучэбных гадзін для гімназій, ліцэяў (філалагічны напрамак).

[2] Колькасць вучэбных гадзін для гімназій, ліцэяў (фізіка-матэматычны, хіміка-біялагічны, грамадазнаўчы напрамкі).

| Сфера зносін | Прадметна-тэматычны змест | Камунікатыўныя задачы<br>У канцы года вучань павінен умець |
|---|---|---|
| | | • Парэкамендаваць наведаць выставу<br>• Абмяняцца ўражаннямі аб выставе<br>• *Расказаць і распытаць аб падзеях культурнага жыцця ў Рэспубліцы Беларусь і краіне вывучаемай мовы* |
| | Моладзь і грамадства | • Расказаць і распытаць аб маладзёжных арганізацыях у Рэспубліцы Беларусь і краіне вывучаемай мовы<br>• Расказаць аб удзеле ў рабоце маладзёжных арганізацый/саюзаў/аб'яднанняў<br>• *Даказаць неабходнасць і карысць удзелу моладзі ў грамадскім жыцці* |
| Сацыяльна-пазнавальная | Навука і тэхніка | • Расказаць і распытаць аб сучасных навуковых дасягненнях/адкрыццях<br>• Абмеркаваць перспектывы развіцця навукі і тэхнікі ў сваёй краіне і ў свеце<br>• *Абмеркаваць станоўчыя і адмоўныя бакі навуковага прагрэсу* |
| | Знакамітыя людзі Рэспублікі Беларусь і краін вывучаемай мовы | • Расказаць і распытаць аб знакамітых людзях Рэспублікі Беларусь і краін вывучаемай мовы<br>• Ацаніць уклад знакамітай асобы ў развіццё навукі/культуры<br>• *Выказаць і аргументаваць сваё меркаванне наконт выказванняў знакамітых людзей* |

## ПАТРАБАВАННІ ДА ПРАКТЫЧНАГА ВАЛОДАННЯ ВІДАМІ МАЎЛЕНЧАЙ ДЗЕЙНАСЦІ

### Успрыманне і разуменне маўлення на слых

Вучні павінны разумець на слых пры непасрэдных зносінах і ў гуказапісе/відэазапісе:

• асноўны змест аўдыё- і відэатэкстаў, якія пабудаваны на вывучаным матэрыяле і змяшчаюць 3—4 % незнаёмых слоў, зна-

чэнне якіх можна зразумець з дапамогай моўнай або кантэкстуальнай здагадкі;
- адносна поўна разумець змест тэкстаў, якія пабудаваны на вывучаным матэрыяле і змяшчаюць 2—3 % незнаёмых слоў, пра значэнне якіх можна здагадацца.

Віды тэкстаў: апавяданне, біяграфія, інтэрв'ю, аб'ява, размова па тэлефоне, фрагмент радыёпраграмы, відэафільма, тэленавіны.

Працягласць гучання тэксту — 2—2,5 мін.

### Гаварэнне

***Дыялагічнае маўленне***

Вучні павінны ўмець:
- запытваць і паведамляць інфармацыю, вызначаную прадметна-тэматычным зместам зносін;
- выказваць свае адносіны і даведвацца пра меркаванне субяседніка наконт атрыманай інфармацыі, даваць эмацыянальную ацэнку;
- аргументаваць сваё меркаванне ў дыскусіі.

Віды дыялогу: дыялог-распытванне, дыялог — абмен думкамі, інтэрв'ю, дыялог-разважанне.

Колькасць рэплік на кожнага субяседніка — 7—8.

***Маналагічнае маўленне***

Вучні павінны ўмець рабіць падрыхтаваныя і непадрыхтаваныя паведамленні па тэме/праблеме/сітуацыі:
- апісваць і параўноўваць прадметы, факты, з'явы;
- расказваць аб пачутым/прачытаным/убачаным з выкарыстаннем эмацыянальна-ацэначных меркаванняў;
- спалучаць апісанне і расказ з разважаннем і выказваннем асабістай ацэнкі.

Віды маналагічнага выказвання: апісанне, параўнанне, расказ, разважанне, ацэначнае меркаванне.

Аб'ём выказвання — 12—16 фраз.

## Чытанне

Вучні павінны разумець тэксты з рознай паўнатой, дакладнасцю і глыбінёй пранікнення ў іх змест у залежнасці ад віду чытання:

- разумець асноўны змест нескладаных аўтэнтычных мастацкіх, навукова-папулярных і публіцыстычных тэкстаў (азнаямленчае чытанне);
- поўна і дакладна разумець змест нескладаных аўтэнтычных мастацкіх і навукова-папулярных тэкстаў (вывучальнае чытанне);
- знаходзіць неабходную/значную інфармацыю ў тэкстах публіцыстычнага і прагматычнага характару (праглядальнае/пошукавае чытанне);
- ацэньваць важнасць і навізну выбранай інфармацыі і выказваць свае адносіны да яе;
- вызначаць галоўную ідэю і задуму аўтара.

Тэксты, прызначаныя для азнаямленчага чытання, могуць уключаць да 4—5 % незнаёмых слоў, пра значэнне якіх можна здагадацца. Аб'ём тэксту — прыкладна 3000—4000 друкаваных знакаў з прабеламі.

Тэксты для вывучальнага чытання могуць уключаць да 3—4 % незнаёмых слоў, раскрыццё значэння якіх магчыма пры выкарыстанні двухмоўнага слоўніка. Аб'ём тэксту — прыкладна 2500—3500 друкаваных знакаў з прабеламі.

Для навучання праглядальнаму/пошукаваму чытанню мэтазгодна выкарыстоўваць адзін або некалькі разнажанравых тэкстаў.

Віды тэкстаў: апавяданне, артыкул у газеце/часопісе, праграма спектакля, аб'ява, рэклама.

## Пісьмовае маўленне

Вучні павінны ўмець прадуцыраваць нескладаныя віды пісьмовых тэкстаў у адпаведнасці з нормамі, прынятымі ў краіне вывучаемай мовы:

- пісаць віншаванні, запрашэнні, асабістыя пісьмы;

• пісаць кароткую аўтабіяграфію, запаўняць анкету;
• коратка выкладаць змест праслуханага/прачытанага тэксту;
• пісаць міні-сачыненне па прапанаванай тэме/праблеме.

Аб'ём тэксту — 100—150 слоў.

## МОЎНЫ МАТЭРЫЯЛ

### АНГЛІЙСКАЯ МОВА

**Фанетыка**

Удасканаленне слыха-вымаўленчых і рытміка-інтанацыйных навыкаў вучняў на аснове вывучаемага моўнага і маўленчага матэрыялу.

**Лексіка**

*Прадуктыўны мінімум:* 230—280 лексічных адзінак.

*Рэцэптыўны мінімум:* 200—280 лексічных адзінак.

*Агульны аб'ём прадуктыўнай лексікі:* 1740—2020 лексічных адзінак.

*Агульны аб'ём рэцэптыўнай лексікі:* 1110—1640 лексічных адзінак.

*Словаўтварэнне:* суфіксы назоўнікаў *-ment, -ist*; прыметнікаў -*(ic)al*, *-ive*; дзеясловаў *-en, -fy*; прыстаўкі *ir-, im-, il-*; складаныя прыметнікі і назоўнікі.

**Граматыка**

***Граматычны матэрыял для прадуктыўнага засваення***

***М а р ф а л о г і я***

*Назоўнік:* сістэматызацыя ўтварэння множнага ліку.

*Артыкль:* ужыванне артыкля перад назвамі газет, часопісаў, маладзёжных арганізацый; ужыванне/адсутнасць артыкля ва ўстойлівых словазлучэннях.

*Дзеяслоў:* спосабы выражэння дзеянняў у прошлым *(Past Simple, Past Continuous, Past Perfect).*

*Г е р у н д ы й:* ужыванне пасля дзеясловаў з прыназоўнікамі.

*І н ф і н і т ы ў:* аб'ектны інфінітыўны зварот *Complex Object.*

***С і н т а к с і с***

Простая і ўскосная мова.

***Граматычны матэрыял для рэцэптыўнага засваення***

Адваротны парадак слоў у сказе з *hardly/scarcely…when, no sooner …than.*

Сцвярджальныя, адмоўныя і пытальныя формы *Future Continuous, Past Perfect Continuous, Present Continuous Passive.*

*Умоўны лад.

## НЯМЕЦКАЯ МОВА

**Фанетыка**

Дзяленне сказаў на сэнсавыя групы. Інтанацыя складаназлучаных сказаў, у якія ўваходзіць некалькі меладычных груп.

**Лексіка**

*Прадуктыўны мінімум:* 230—280 лексічных адзінак.

*Рэцэптыўны мінімум:* 200—280 лексічных адзінак.

*Агульны аб'ём прадуктыўнай лексікі:* 1740—2020 лексічных адзінак.

*Агульны аб'ём рэцэптыўнай лексікі:* 1110—1640 лексічных адзінак.

**Граматыка**

***Граматычны матэрыял для прадуктыўнага засваення***

***М а р ф а л о г і я***

*Назоўнік:* скланенне субстантываваных прыметнікаў і інфінітыва. Скланенне ўласных імёнаў. Скланенне геаграфічных назваў. Асобыя выпадкі ўтварэння множнага ліку назоўнікаў (сістэматызацыя): назоўнікі на *-um, -ion*: *das Datum — die Daten; das Zentrum — die Zentren; das Museum — die Museen; das Stadion — die Stadien, das Studium — die Studien*; змяненне слова: *der Kaufmann — die Kaufleute, der Rat — die Ratschläge, der Seemann — die Seeleute, das Unglück — die Unglücks fälle*; множны лік для размежавання назоўнікаў, розных па значэнні: *der Band (кніжны том) — die Bände, das Band (стужка) — die Bänder, die Bank (лаўка) — die Bänke; die Bank (банк) — die Banken; der Strauß (букет) — die Sträuße, der Strauß (страус) — die Strauße, das Wort (слова* як звязнае маўленне) *— die Worte; das Wort (слова) — die Wörter.*

Назоўнікі без формы множнага ліку: субстантываваныя інфінітывы; рэчыўныя невылічальныя, абстрактныя, зборныя назоўнікі; назоўнікі меры і вагі (выключэнне складаюць назоўнікі жаночага роду). Назоўнікі без формы адзіночнага ліку: некаторыя групы асоб: *die Leute, die Eltern, die Geschwister*; назоўнікі: *die Finanzen, die*

*Ferien, die Kosten, die Makkaroni, die Möbel, die Papiere (дакументы), die Shorts, die Spagetti.*

*Займеннік:* адносныя займеннкі *der, die, das.*

***С і н т а к с і с***

Складаназалежныя сказы. Даданыя часу са злучнікамі *wenn, als, nachdem.* Даданыя азначальныя з адноснымі займеннікамі *der, die, das.*

***Граматычны матэрыял для рэцэптыўнага засваення***

*Дзеяслоў:* часавыя формы дзеясловаў прошлага часу *Perfekt / Plusquamperfekt Passiv.* Часавая форма дзеясловаў будучага часу *Futurum I Passiv*. *Infinitiv Passiv. Zustandspassiv.*

*Злучнік:* састаўны злучнік *je…desto*.

Складаназлучаныя сказы. Даданыя часу са злучнікамі *während, bevor.*

## ФРАНЦУЗСКАЯ МОВА

**Фанетыка**

Удасканаленне слыха-вымаўленчых і рытміка-інтанацыйных навыкаў вучняў на аснове вывучаемага моўнага і маўленчага матэрыялу.

**Лексіка**

*Прадуктыўны мінімум:* 230—280 лексічных адзінак.

*Рэцэптыўны мінімум:* 200—280 лексічных адзінак.

*Агульны аб'ём прадуктыўнай лексікі:* 1740—2020 лексічных адзінак.

*Агульны аб'ём рэцэптыўнай лексікі:* 1110—1640 лексічных адзінак.

*Словаўтварэнне:* суфіксы прыметнікаў *-ard, -arde*; прыстаўкі *in-, im-, il-, ir-*. Сістэматызацыя спосабаў словаўтварэння.

**Граматыка**

***Граматычны матэрыял для прадуктыўнага засваення***

***М а р ф а л о г і я***

Сістэматызацыя ўжывання артыкля (неазначальнага, азначальнага, частковага); назоўнікаў і прыметнікаў мужчынскага і жаночага роду ў адзіночным і множным ліку; асабовых займеннікаў.

*Дзеяслоў*: умоўны лад *le subjonctif présent* у простым і даданым дапаўняльным сказах; дапасаванне часоў (план прошлага часу).

***С і н т а к с і с***

Складаназалежныя сказы з даданымі прычыны і мэты.

***Граматычны матэрыял для рэцэптыўнага засваення***

Неасабовыя формы дзеясловаў *l'infinitif présent, l'infinitif passé.*

Прыметнік, утвораны ад дзеяслова, *l'adjectif verbal. Le participe présent, le participe passé.*

## ІСПАНСКАЯ МОВА

**Фанетыка**

Удасканаленне слыха-вымаўленчых і рытміка-інтанацыйных навыкаў вучняў на аснове вывучаемага моўнага і маўленчага матэрыялу.

**Лексіка**

*Прадуктыўны мінімум:* 230—280 лексічных адзінак.

*Рэцэптыўны мінімум:* 200—280 лексічных адзінак.

*Агульны аб'ём прадуктыўнай лексікі:* 1740—2020 лексічных адзінак.

*Агульны аб'ём рэцэптыўнай лексікі:* 1110—1640 лексічных адзінак.

*Словаўтварэнне:* суфіксы дзеясловаў *-ificar, -ecer*; прыстаўка *pre-*.

**Граматыка**

***Граматычны матэрыял для прадуктыўнага засваення***

***М а р ф а л о г і я***

*Займеннік:* прыналежныя займеннікі (поўная форма) у ролі прыметнікаў і назоўнікаў.

*Дзеяслоў*: сістэматызацыя ўсіх вывучаных трывальна-часавых форм *Modo Indicativo (Pretérito Perfecto, Pretérito Indefinido, Pretérito Imperfecto, Pretérito Pluscuamperfecto, Futuro Simple), Modo Subjuntivo (Presente de Subjuntivo, Imperfecto de Subjuntivo)* і *Modo Potencial (Simple)*. Дапасаванне часоў у *Modo Indicativo*. Простая і ўскосная мова.

*Прыназоўнік:* прыназоўнікавае кіраванне дзеясловаў.

***С і н т а к с і с***

Складаназалежныя сказы з даданымі ўмовы I і II тыпаў.

***Граматычны матэрыял для рэцэптыўнага засваення***

*Дзеяслоў:* асаблівасці і ўжыванне дзеясловаў у *Futuro Compuesto de Indicativo, Potencial Compuesto.*

Мадальная функцыя *Futuro Simple*.

## КІТАЙСКАЯ МОВА

### ПАТРАБАВАННІ ДА ПРАКТЫЧНАГА ВАЛОДАННЯ ВІДАМІ МАЎЛЕНЧАЙ ДЗЕЙНАСЦІ

#### Успрыманне і разуменне маўлення на слых

Вучні п а в і н н ы р а з у м е ц ь на слых пры непасрэдных зносінах і ў гуказапісе:

- асноўны змест аўдыё- і відэатэкстаў, якія пабудаваны на вывучаным матэрыяле і змяшчаюць 3—4 % незнаёмых слоў, значэнне якіх можна зразумець з дапамогай моўнай або кантэкстуальнай здагадкі;
- адносна поўна разумець змест тэкстаў, якія пабудаваны на вывучаным матэрыяле і змяшчаюць 2—3 % незнаёмых слоў, пра значэнне якіх можна здагадацца.

Віды тэкстаў: апавяданне, інтэрв’ю, аб’ява, размова па тэлефоне, радыёпраграма, відэафільм, тэленавіны.

Працягласць гучання тэксту — 2—2,5 мін.

#### Гаварэнне

***Дыялагічнае маўленне***

Вучні п а в і н н ы ў м е ц ь:

- запытваць і паведамляць інфармацыю, вызначаную прадметна-тэматычным зместам зносін;
- выказваць свае адносіны і даведвацца пра меркаванне субяседніка наконт атрыманай інфармацыі;
- даваць эмацыянальную ацэнку атрыманай інфармацыі;
- аргументаваць сваё меркаванне ў дыскусіі.

Віды дыялогу: дыялог-распытванне, дыялог — абмен думкамі, інтэрв’ю, дыялог-палеміка.

Колькасць рэплік на кожнага субяседніка — 7—8.

***Маналагічнае маўленне***

Вучні п а в і н н ы ў м е ц ь рабіць падрыхтаваныя і непадрыхтаваныя паведамленні па тэме/праблеме/сітуацыі:

- апісваць і параўноўваць прадметы, факты, з’явы;

- расказваць аб пачутым/прачытаным/убачаным з выкарыстаннем эмацыянальна-ацэначных меркаванняў;
- спалучаць апісанне і апавяданне з разважаннем і выказваннем асабістай ацэнкі.

Віды маналагічнага выказвання: апісанне, параўнанне, разважанне.

Аб'ём выказвання — 12—16 фраз.

### Чытанне

Вучні п а в і н н ы р а з у м е ц ь тэксты, якія напісаны з дапамогай іерогліфаў, з рознай паўнатой, дакладнасцю і глыбінёй пранікнення ў іх змест у залежнасці ад віду чытання:

- разумець асноўны змест нескладаных аўтэнтычных мастацкіх, навукова-папулярных і публіцыстычных тэкстаў (азнаямленчае чытанне);
- поўна і дакладна разумець змест нескладаных аўтэнтычных мастацкіх і навукова-папулярных тэкстаў (вывучальнае чытанне);
- знаходзіць неабходную/значную інфармацыю ў тэкстах публіцыстычнага і прагматычнага характару (праглядальнае/пошукавае чытанне);
- ацэньваць важнасць і навізну выбранай інфармацыі і выказваць свае адносіны да яе;
- вызначаць галоўную ідэю і задуму аўтара.

Тэксты, прызначаныя для азнаямленчага чытання, могуць уключаць да 4—5 % незнаёмых слоў, пра значэнне якіх можна здагадацца. Аб'ём тэксту — 0,5—0,75 старонкі.

Тэксты для вывучальнага чытання могуць уключаць да 3—4 % незнаёмых слоў, раскрыццё значэння якіх магчыма пры выкарыстанні двухмоўнага слоўніка. Аб'ём тэксту — да 0,75 старонкі.

Для навучання праглядальнаму/пошукаваму чытанню мэтазгодна выкарыстоўваць адзін або некалькі разнажанравых тэкстаў.

Віды тэкстаў: апавяданне, артыкул у газеце/часопісе, навуковы артыкул, праграма спектакля, аб'ява.

Вучні п а в і н н ы ў м е ц ь чытаць іерогліфы (250—1250).

### Пісьмовае маўленне

Вучні п а в і н н ы ў м е ц ь прадуцыраваць нескладаныя віды пісьмовых тэкстаў, якія напісаны з дапамогай іерогліфаў, у адпаведнасці з нормамі, прынятымі ў краіне вывучаемай мовы:

- пісаць віншаванні, запрашэнні, асабістыя пісьмы;
- пісаць кароткую аўтабіяграфію, запаўняць анкету;
- коратка выкладаць змест праслуханага/прачытанага тэксту;
- пісаць міні-сачыненне па прапанаванай тэме/праблеме.

Аб'ём тэксту — 100—150 слоў (да 0,75 старонкі).

Вучні п а в і н н ы ў м е ц ь пісаць іерогліфы (250—1250).

## МОЎНЫ МАТЭРЫЯЛ

**Фанетыка**

Інтанацыя складаназлучаных сказаў.

Інтанацыя складаназалежных сказаў.

Удасканаленне слыха-вымаўленчых і рытміка-інтанацыйных навыкаў вучняў на аснове вывучаемага моўнага і маўленчага матэрыялу.

**Лексіка**

*Прадуктыўны мінімум*: 230—280 лексічных адзінак.

*Рэцэптыўны мінімум:* 200—280 лексічных адзінак.

*Агульны аб'ём прадуктыўнай лексікі:* 1740—2020 лексічных адзінак.

*Агульны аб'ём рэцэптыўнай лексікі:* 1110—1640 лексічных адзінак.

*Словаўтварэнне:* складаныя прыметнікі і назоўнікі.

**Граматыка**

***Граматычны матэрыял для прадуктыўнага засваення***

***М а р ф а л о г і я***

*Лічэбнік:* дробы, працэнты, разрады.

*Займеннік:* пытальныя займеннікі з неазначальным значэннем; пытальныя займеннікі з агульным значэннем.

*М а д а л ь н ы д з е я с л о ў:* сістэматызацыя.

*Дапаўненне патэнцыяльнасці:* 下, 了, 动.

*Выніковае дапаўненне:* 着, 住.

***Сінтаксіс***

Складаназлучаныя сказы.

Складаназалежныя сказы.

Сказы, якія выражаюць існаванне або з'яўленне.

Сказы з састаўным дзеяслоўным выказнікам …有…要做.

Канструкцыі 尽管…但/也…; 即使…也…; 哪怕…也…; 既然…就…; 不管…都/也; 无论…都/也; 只要…; 才…; 多(么)…啊; 够…了; 连…也/都; 也/都…没/不; 就是…也; 等…就/在/才; 一…就…; …了…就…; 一…才…; 越…越…; 或者…或者…; …得很; 先…接着…; 按…; 由… .

* * *

Вучні павінны валодаць **сацыякультурнымі ведамі і ўменнямі**:

- ведаць асаблівасці сістэмы адукацыі ў Рэспубліцы Беларусь і краінах вывучаемай мовы;
- ведаць асноўныя сродкі масавай інфармацыі Рэспублікі Беларусь і краін вывучаемай мовы;
- ацэньваць уклад сваёй краіны і краін вывучаемай мовы ў развіццё сусветнай культуры, навукі і тэхнікі;
- умець расказаць замежнаму равесніку пра жыццё моладзі ў Рэспубліцы Беларусь;
- умець выкарыстоўваць клішэ і ўстойлівыя словазлучэнні, якія адлюстроўваюць асаблівасці культуры краін вывучаемай мовы, у межах вывучанай тэматыкі.

Вучні павінны валодаць **кампенсаторнымі ўменнямі** ва ўсіх відах маўленчай дзейнасці:

***успрыманне і разуменне маўлення на слых***

- выкарыстоўваць атрыманую перад праслухоўваннем аўдыётэксту інфармацыю (уводзіны ў сітуацыю, тлумачэнне, папярэднія пытанні і інш.);
- прагназаваць змест аўдыётэксту па загалоўку, пачатку і канцоўцы тэксту, па апорных словах;
- выкарыстоўваць моўную і кантэкстуальную здагадку для аднаўлення прабелаў у змесце аўдыётэксту/выказвання;

- ігнараваць незнаёмыя словы, якія не ўплываюць на разуменне асноўнага зместу;
- удакладняць змест выказвання субяседніка з дапамогай мімікі і жэстаў, пытанняў, перапытвання;
- удакладняць змест выказвання субяседніка з дапамогай пытанняў;

***чытанне***

- прагназаваць змест па загалоўку, падзагалоўку тэксту, апорных словах, па сродках зрокавай нагляднасці;
- выкарыстоўваць тэкставыя апоры розных відаў (табліцы, графікі, шрыфтавыя выдзяленні);
- выкарыстоўваць моўную і кантэкстуальную здагадку;
- ігнараваць незнаёмыя словы, якія не ўплываюць на разуменне асноўнага зместу тэксту;
- выкарыстоўваць двухмоўныя слоўнікі;
- выкарыстоўваць розныя каментарыі;
- ***гаварэнне***
- звяртацца за дапамогай да субяседніка, выкарыстоўваючы перапытванне і сродкі зрокавай нагляднасці (карта, схема, расклад і інш.);
- удакладняць змест выказвання з дапамогай мімікі і жэстаў;
- выкарыстоўваць сінанімічныя сродкі з мэтай удакладнення і тлумачэння;

***пісьмовае маўленне***

- выкарыстоўваць элементы тэксту ў якасці зместавых і моўных апор;
- выкарыстоўваць сінанімічныя сродкі для выказвання думкі.

Вучні павінны валодаць **вучэбна-пазнавальнымі ўменнямі**:

- складаць план, фармуляваць тэзісы выказвання;
- знаходзіць і абагульняць неабходную інфармацыю на замежнай мове;
- выконваць самастойныя заданні рэпрадуктыўна-прадуктыўнага характару з выкарыстаннем друкаваных матэрыялаў і тэхнічных сродкаў навучання;

- ажыццяўляць самакантроль і ўзаемакантроль у працэсе ўзаемадзеяння;
- супастаўляць моўныя з'явы ў роднай і замежнай мовах;
- выкарыстоўваць даведачны апарат вучэбнага дапаможніка, другіх вучэбных матэрыялаў і слоўнікі.

Вучні павінны выкарыстоўваць набыты **моўны, маўленчы і сацыякультурны вопыт** для:

- зносін з прадстаўнікамі іншых краін, арыентацыі ў сучасным полікультурным свеце;
- атрымання звестак, неабходных у адукацыйных і самаадукацыйных мэтах, з іншамоўных крыніц інфармацыі (у тым ліку праз інтэрнэт);
- развіцця добразычлівых і паважлівых адносін да прадстаўнікоў іншых краін;
- вывучэння каштоўнасцей сусветнай культуры, культурнай спадчыны і дасягненняў іншых краін і азнаямлення прадстаўнікоў замежных краін з культурай і дасягненнямі Рэспублікі Беларусь;
- аказання дапамогі замежным гасцям у сітуацыях штодзённых зносін.

# XI КЛАС

## 105/175/140 гадзін

## ПРАДМЕТНА-ТЭМАТЫЧНЫ ЗМЕСТ МОЎНЫХ ЗНОСІН

| Сфера зносін | Прадметна-тэматычны змест | Камунікатыўныя задачы |
|---|---|---|
| | | У канцы года вучань павінен умець |
| Сацыяльна-бытавая | Сям'я | • Абмеркаваць ролю сям'і ў жыцці грамадства<br>• Расказаць і распытаць аб сямейных святах, традыцыях<br>• *Абмеркаваць праблемы выхавання дзяцей у сям'і* |
| Вучэбна-працоўная | Выбар прафесіі | • Расказаць і распытаць аб будучай прафесіі<br>• Абгрунтаваць свой выбар прафесіі<br>• Абмеркаваць вартасці і недахопы розных прафесій<br>• *Расказаць і распытаць аб ролі замежнай мовы ў прафесійнай дзейнасці чалавека* |
| Сацыяльна-культурная | Нацыянальны характар | • Апісаць асаблівасці нацыянальнага характару беларусаў<br>• Абмеркаваць асаблівасці нацыянальнага характару прадстаўнікоў краіны вывучаемай мовы<br>• *Выказаць і абгрунтаваць сваё меркаванне наконт якога-небудзь стэрэатыпнага меркавання ў адносінах да беларусаў і прадстаўнікоў краіны вывучаемай мовы* |
| | Міжнароднае супрацоўніцтва | • Расказаць і распытаць аб кантактах з замежнымі равеснікамі<br>• Расказаць аб культурных сувязях Рэспублікі Беларусь і краін вывучаемай мовы<br>• *Абмеркаваць ролю міжнароднага супрацоўніцтва ў розных сферах дзейнасці* |

| Сфера зносін | Прадметна-тэматычны змест | Камунікатыўныя задачы<br>У канцы года вучань павінен умець |
|---|---|---|
| Сацыяльна-пазнавальная | Турызм | • Расказаць і распытаць аб правядзенні вольнага часу ў Рэспубліцы Беларусь і краіне вывучаемай мовы<br>• Абмяняцца меркаваннямі аб розных відах турызму<br>• Запытаць і атрымаць неабходную інфармацыю ў турыстычным агенцтве<br>• *Абмеркаваць цяжкасці, якія ўзнікаюць у час падарожжа, і шляхі іх пераадолення* |
| | Экалогія | • Расказаць і распытаць аб асноўных экалагічных праблемах сваёй краіны і краіны вывучаемай мовы<br>• Выказаць меркаванне наконт вырашэння экалагічнай праблемы і аргументаваць яго<br>• *Абмеркаваць розныя шляхі вырашэння праблем аховы навакольнага асяроддзя* |
| | Сацыякультурны партрэт краіны | • Прадставіць сацыякультурны партрэт краін вывучаемай мовы<br>• Прадставіць сацыякультурны партрэт Рэспублікі Беларусь<br>• *Абмеркаваць сучаснае культурнае жыццё ў Рэспубліцы Беларусь і краінах вывучаемай мовы* |

## ПАТРАБАВАННІ ДА ПРАКТЫЧНАГА ВАЛОДАННЯ ВІДАМІ МАЎЛЕНЧАЙ ДЗЕЙНАСЦІ

### Успрыманне і разуменне маўлення на слых

Вучні павінны разумець на слых пры непасрэдных зносінах, у гуказапісе/відэазапісе:

- асноўны змест аўдыё- і відэатэкстаў, якія пабудаваны на вывучаным матэрыяле і змяшчаюць 3—4 % незнаёмых слоў;

- адносна поўна разумець змест тэкстаў, якія пабудаваны на вывучаным матэрыяле і змяшчаюць 2—3 % незнаёмых слоў, аб значэнні якіх можна здагадацца.

Віды тэкстаў: апавяданне, інтэрв'ю, аб'ява, размова па тэлефоне, фрагмент радыёпраграмы, відэафільм, тэленавіны.

Працягласць гучання тэксту — 2—3 мін.

### Гаварэнне

***Дыялагічнае маўленне***

Вучні п а в і н н ы ў м е ц ь:

- удзельнічаць у абмеркаванні тэм і праблем, вызначаных прадметна-тэматычным зместам маўлення;
- абгрунтаваць сваё меркаванне;
- абмяняцца фактычнай і ацэначнай інфармацыяй з некалькімі ўдзельнікамі маўленчых зносін.

Віды дыялогу: дыялог-распытванне, дыялог — абмен думкамі, інтэрв'ю, дыялог-разважанне, палілог.

Колькасць рэплік на кожнага субяседніка — 7—8.

***Маналагічнае маўленне***

Вучні п а в і н н ы ў м е ц ь:

- апісваць і параўноўваць прадметы, факты, з'явы;
- расказваць аб пачутым/прачытаным/убачаным;
- спалучаць апісанне і апавяданне з разважаннем і выказваннем асабістай ацэнкі;
- разважаць аб фактах, падзеях, аргументаваць свой пункт гледжання, рабіць вывады.

Віды маналагічнага выказвання: апісанне, параўнанне, расказ, разважанне, ацэначнае меркаванне.

Аб'ём выказвання — не менш за 15—20 фраз.

### Чытанне

Вучні п а в і н н ы р а з у м е ц ь тэксты з рознай паўнатой, дакладнасцю і глыбінёй пранікнення ў іх змест у залежнасці ад віду чытання:

- разумець асноўны змест аўтэнтычных мастацкіх, навукова-папулярных і публіцыстычных тэкстаў (азнаямленчае чытанне);

- поўна і дакладна разумець змест аўтэнтычных мастацкіх і навукова-папулярных тэкстаў (вывучальнае чытанне);
- знаходзіць неабходную/значную інфармацыю ў тэкстах розных жанраў (праглядальнае/пошукавае чытанне);
- вызначаць галоўную ідэю і задуму аўтара, у тым ліку якія паказаны імпліцытна.

Тэксты, прызначаныя для азнаямленчага чытання, могуць уключаць 4—6 % незнаёмых слоў, пра значэнне якіх можна здагадацца. Аб'ём тэксту — прыкладна 3000—4000 друкаваных знакаў з прабеламі.

Тэксты для вывучальнага чытання могуць уключаць да 3—5 % незнаёмых слоў, раскрыццё значэння якіх магчыма пры выкарыстанні двухмоўнага слоўніка. Аб'ём тэксту — прыкладна 2500—3500 друкаваных знакаў з прабеламі.

Для навучання праглядальнаму/пошукаваму чытанню мэтазгодна выкарыстоўваць адзін або некалькі тэкстаў прагматычнага характару.

Віды тэкстаў: апавяданне, артыкул у газеце/часопісе, дзелавое пісьмо, асабістае пісьмо, анкета, рэзюме, справаздача, вэб-старонка, электроннае паведамленне, турыстычны буклет/брашура, рэклама.

### Пісьмовае маўленне

Вучні павінны ўмець прадуцыраваць нескладаныя віды пісьмовых тэкстаў у адпаведнасці з нормамі, прынятымі ў краіне вывучаемай мовы:
- пісаць віншаванні, запрашэнні, асабістыя пісьмы;
- пісаць нескладаныя дзелавыя пісьмы;
- пісаць аўтабіяграфію, запаўняць анкету;
- стаўляць рэзюмэ па змесце праслуханага/прачытанага тэксту;
- пісаць сачыненне па прапанаванай тэме.

Аб'ём тэксту — не менш за 110—170 слоў.

## МОЎНЫ МАТЭРЫЯЛ

### АНГЛІЙСКАЯ МОВА

**Фанетыка**

Удасканаленне слыха-вымаўленчых і рытміка-інтанацыйных навыкаў вучняў на аснове вывучаемага моўнага і маўленчага матэрыялу.

**Лексіка**

*Прадуктыўны мінімум:* 230—280 лексічных адзінак.

*Рэцэптыўны мінімум:* 200—280 лексічных адзінак.

*Агульны аб'ём прадуктыўнай лексікі:* 1970—2300 лексічных адзінак.

*Агульны аб'ём рэцэптыўнай лексікі:* 1310—1920 лексічных адзінак.

*Сродкі міжфразавай сувязі: however, nevertheless, etc.*

*Словаўтварэнне:* суфіксы прыметнікаў *-ian, -an*; прыстаўка дзеясловаў *en-*.

**Граматыка**

***Граматычны матэрыял для прадуктыўнага засваення***

***Марфалогія***

*Артыкль:* сістэматызацыя правіл ужывання.

*Займеннік:* сістэматызацыя асноўных тыпаў.

*Дзеяслоў:* сістэматызацыя часавых форм.

*Мадальны дзеяслоў:* сістэматызацыя па значэнні.

*Прыназоўнік:* прыназоўнікі з дзеясловамі.

*Злучнік:* сістэматызацыя злучнікаў і злучальных слоў.

***Сінтаксіс***

Умоўны лад у складаназалежных сказах нерэальнай умовы, якія адносяцца да цяперашняга, будучага, прошлага часу.

***Граматычны матэрыял для рэцэптыўнага засваення***

*Словаўтварэнне:* суфіксы назоўнікаў *-dom, -hood, -ism, -ese*.

*Дзеяслоў:* сцвярджальныя, адмоўныя і пытальныя формы дзеясловаў у *Present Perfect Passive, Past Perfect Passive, Future Perfect Continuous.*

Герундыяльныя і дзеепрыметнікавыя звароты.

Звароты з фармальным дзейнікам.

Суб'екны інфінітыўны зварот *Complex Subject.*

*Дапасаванне дзейніка да выказніка.

## НЯМЕЦКАЯ МОВА

**Фанетыка**

Інтанацыя сказаў са словамі, якія ўводзяць простую мову.

**Лексіка**

*Прадуктыўны мінімум:* 230—280 лексічных адзінак.

*Рэцэптыўны мінімум:* 200—280 лексічных адзінак.

*Агульны аб’ём прадуктыўнай лексікі:* 1970—2300 лексічных адзінак.
*Агульны аб’ём рэцэптыўнай лексікі:* 1310—1920 лексічных адзінак.

**Граматыка**

***Граматычны матэрыял для прадуктыўнага засваення***

***М а р ф а л о г і я***

*Дзеяслоў:* умоўны лад. *Die würde-Form…Infinitiv* для выказвання ветлівай прапановы, просьбы, парады, рэкамендацыі, жадання, магчымасці. *Präteritum Konjunktiv* для выражэння нерэальнага дзеяння ў цяперашнім часе; *Plusquamperfekt Konjunktiv* для выражэння нерэальнага дзеяння ў прошлым часе.

***С і н т а к с і с***

Складаназалежныя сказы. Даданыя ўступальныя са злучнікам *obwohl/obgleich.* Складаназалежныя сказы (сістэматызацыя).

***Граматычны матэрыял для рэцэптыўнага засваення***

Ускосная мова. *Partizip I* і *Partizip II* у якасці азначэння. Субстантываваныя дзеепрыметнікі. Развітае азначэнне.

## ФРАНЦУЗСКАЯ МОВА

**Фанетыка**

Удасканаленне слыха-вымаўленчых і рытміка-інтанацыйных навыкаў вучняў на аснове вывучаемага моўнага і маўленчага матэрыялу.

**Лексіка**

*Прадуктыўны мінімум:* 230—280 лексічных адзінак.
*Рэцэптыўны мінімум:* 200—280 лексічных адзінак.
*Агульны аб’ём прадуктыўнай лексікі:* 1970—2300 лексічных адзінак.
*Агульны аб’ём рэцэптыўнай лексікі:* 1310—1920 лексічных адзінак.
*Словаўтварэнне:* сістэматызацыя спосабаў словаўтварэння.

**Граматыка**

***Граматычны матэрыял для прадуктыўнага засваення***

***М а р ф а л о г і я***

Сістэматызацыя ўжывання назоўнікаў; прыметнікаў у звычайнай, вышэйшай і найвышэйшай ступенях параўнання; прыслоўяў; прыназоўнікаў; злучнікаў; трывальна-часавых форм дзеяслова.

***С і н т а к с і с***

Дапасаванне часоў. Сістэматызацыя ўжывання розных тыпаў складаназлучанага і складаназалежнага сказаў.

***Граматычны матэрыял для рэцэптыўнага засваення***

*Дзеяслоў:* неасабовая форма дзеяслова *le gérondif. Le conditionnel passé. Le subjonctif passé.*

## ІСПАНСКАЯ МОВА

**Фанетыка**

Удасканаленне слыха-вымаўленчых і рытміка-інтанацыйных навыкаў вучняў на аснове вывучаемага лексіка-граматычнага матэрыялу.

**Лексіка**

*Прадуктыўны мінімум:* 230—280 лексічных адзінак.

*Рэцэптыўны мінімум:* 200—280 лексічных адзінак.

*Агульны аб'ём прадуктыўнай лексікі:* 1970—2300 лексічных адзінак.

*Агульны аб'ём рэцэптыўнай лексікі:* 1310—1920 лексічных адзінак.

*Словаўтварэнне:* суфіксы назоўнікаў *-ador, -edor, -idor, -ario, -aje, -miento, -ura, -idad, -anza, -ez, -eza*; дзеясловаў *-izar*; прыстаўкі *en(m)-, ante-, entre-, ex-, ultra-, extra-, sobre-, sub-, pro-, trans-*. Сістэматызацыя спосабаў словаўтварэння.

**Граматыка**

***Граматычны матэрыял для прадуктыўнага засваення***

***М а р ф а л о г і я***

*Артыкль:* сістэматызацыя ўжывання артыкля і яго адсутнасць.

*Займеннік:* прыназоўнікавая і беспрыназоўнікавая формы асабовых займеннікаў у якасці прамых і ўскосных дапаўненняў; адносныя займеннікі *que, quien/es; cual/cuales, el cual, la cual, los cuales, las cuales, lo cual; cuyo/a, cuyos/as*.

*Дзеяслоў: Modo Subjuntivo* ў самастойных сказах.

***С і н т а к с і с***

Дапасаванне часоў. Простая і ўскосная мова. Замена простай мовы на ўскосную.

Складаназалежныя сказы з даданымі ўмовы I і II тыпаў.

***Граматычны матэрыял для рэцэптыўнага засваення***

Азнаямленне з асаблівасцямі і ўжываннем дзеясловаў у *Pluscuamperfecto de Subjuntivo.*

Азнаямленне з канструкцыяй *Ac. + Inf.* і канструкцыямі з герундыем *ir, andar, llevar, seguir, continuar + Gerundio.*

Дадзеныя ўмовы III і змешанага тыпаў.

## КІТАЙСКАЯ МОВА

### ПАТРАБАВАННІ ДА ПРАКТЫЧНАГА ВАЛОДАННЯ ВІДАМІ МАЎЛЕНЧАЙ ДЗЕЙНАСЦІ

#### Успрыманне і разуменне маўлення на слых

Вучні павінны разумець на слых пры непасрэдных зносінах, у гуказапісе:

- асноўны змест аўдыё- і відэатэкстаў, якія пабудаваны на вывучаным матэрыяле і змяшчаюць 3—4 % незнаёмых слоў;
- адносна поўна разумець змест тэкстаў, якія пабудаваны на вывучаным матэрыяле і змяшчаюць 2—3 % незнаёмых слоў, аб значэнні якіх можна здагадацца.

Віды тэкстаў: апавяданне, інтэрв’ю, аб’ява, размова па тэлефоне, радыёпраграма, відэафільм, тэленавіны.

Працягласць гучання тэксту — 2—3 мін.

#### Гаварэнне

***Дыялагічнае маўленне***

Вучні павінны ўмець:

- удзельнічаць у абмеркаванні тэм і праблем, вызначаных прадметна-тэматычным зместам маўлення;
- абгрунтоўваць сваё меркаванне;
- абменьвацца фактычнай і ацэначнай інфармацыяй з некалькімі ўдзельнікамі маўленчых зносін.

Віды дыялогу: дыялог-распытванне, дыялог — абмен думкамі, інтэрв’ю, дыялог-разважанне, палілог.

Колькасць рэплік на кожнага субяседніка — 7—8.

***Маналагічнае маўленне***

Вучні павінны ўмець:

- апісваць і параўноўваць прадметы, факты, з’явы;
- расказваць аб пачутым/прачытаным/убачаным;
- спалучаць апісанне і апавяданне з разважаннем і выказваннем асабістай ацэнкі;
- разважаць аб фактах, падзеях, аргументаваць свой пункт гледжання, рабіць вывады.

Віды маналагічнага выказвання: апісанне, параўнанне, расказ, разважанне.

Аб’ём выказвання — 12—16 фраз.

## Чытанне

Вучні павінны разумець тэксты, якія напісаны з дапамогай іерогліфаў, з рознай паўнатой, дакладнасцю і глыбінёй пранікнення ў іх змест у залежнасці ад віду чытання:

- разумець асноўны змест аўтэнтычных мастацкіх, навукова-папулярных і публіцыстычных тэкстаў (азнаямленчае чытанне);
- поўна і дакладна разумець змест аўтэнтычных мастацкіх і навукова-папулярных тэкстаў (вывучальнае чытанне);
- знаходзіць неабходную/значную інфармацыю ў тэкстах розных жанраў (праглядальнае/пошукавае чытанне);
- вызначаць галоўную ідэю і задуму аўтара, у тым ліку якія паказаны імпліцытна.

Тэксты, прызначаныя для азнаямленчага чытання, могуць уключаць 4—6 % незнаёмых слоў, пра значэнне якіх можна здагадацца. Аб’ём тэксту — 0,75—1 старонка.

Тэксты для вывучальнага чытання могуць уключаць да 3—5 % незнаёмых слоў, раскрыццё значэння якіх магчыма пры выкарыстанні двухмоўнага слоўніка. Аб’ём тэксту — 0,5—0,75 старонкі.

Для навучання праглядальнаму/пошукаваму чытанню мэтазгодна выкарыстоўваць адзін або некалькі тэкстаў прагматычнага характару.

Віды тэкстаў: апавяданне, артыкул у газеце/часопісе, дзелавое пісьмо, асабістае пісьмо, анкета, рэзюмэ, справаздача, вэб-старонка, электроннае паведамленне, турыстычны буклет/брашура, рэклама.

Вучні павінны ўмець чытаць іерогліфы (250—1500).

### Пісьмовае маўленне

Вучні п а в і н н ы ў м е ц ь прадуцыраваць нескладаныя віды пісьмовых тэкстаў, якія напісаны з дапамогай іерогліфаў, у адпаведнасці з нормамі, прынятымі ў краіне вывучаемай мовы:

- пісаць віншаванні, запрашэнні, асабістыя пісьмы;
- пісаць нескладаныя дзелавыя пісьмы;
- пісаць аўтабіяграфію, запаўняць анкету;
- састаўляць рэзюмэ па змесце праслуханага/прачытанага тэксту;
- пісаць сачыненне па прапанаванай тэме.

Аб'ём тэксту — 110—170 слоў (да 1 старонкі).

Вучні п а в і н н ы ў м е ц ь пісаць іерогліфы (250—1250).

## МОЎНЫ МАТЭРЫЯЛ

**Фанетыка**

Удасканаленне слыха-вымаўленчых і рытміка-інтанацыйных навыкаў вучняў на аснове вывучаемага моўнага і маўленчага матэрыялу.

**Лексіка**

*Прадуктыўны мінімум:* 230—280 лексічных адзінак.

*Рэцэптыўны мінімум:* 200—280 лексічных адзінак.

*Агульны аб'ём прадуктыўнай лексікі:* 1970—2300 лексічных адзінак.

*Агульны аб'ём рэцэптыўнай лексікі:* 1310—1920 лексічных адзінак.

**Граматыка**

***Граматычны матэрыял для прадуктыўнага засваення***

***М а р ф а л о г і я***

Сістэматызацыя ўжывання прыслоўяў, прыназоўнікаў; ужывання 的, 地, 得, 了, фразавых мадальных часціц, катэгорый выражэння часу, розных тыпаў апавядальных і пытальных сказаў, складаназлучаных і складаназалежных сказаў, сказаў з інверсійным парадкам слоў, тыпаў дзеяслоўнага дапаўнення.

* * *

Па заканчэнні вывучэння замежнай мовы на трэцяй ступені агульнай сярэдняй адукацыі вучні п а в і н н ы:

***в е д а ц ь:***

- асаблівасці вымаўлення і рытміка-меладычнай арганізацыі іншамоўнага маўлення;

- значэнні вывучаных лексічных адзінак, уключаючы ацэначную лексіку, устойлівыя словазлучэнні, асноўныя спосабы словаўтварэння (словаскладанне, афіксацыя, канверсія);
- значэнні рэалій, фразеалагічных спалучэнняў і ідыём, характэрных для культуры краін вывучаемай мовы ў рамках прадметна-тэматычнага зместу праграмы;
- спосабы перадачы значэнняў безэквівалентнай лексікі на вывучаемай мове;
- значэнні вывучаных граматычных з'яў прадуктыўнага і рэцэптыўнага мінімумаў і іх месца ў сістэме вывучаемай замежнай мовы;

***валодаць навыкамі:***

- вымаўлення і рытміка-інтанацыйнага афармлення розных камунікатыўных тыпаў сказаў; выказвання розных маўленчых намераў і эмоцый;
- выбару і камбінавання лексічных адзінак з улікам сітуацый зносін у адпаведнасці з камунікатыўнымі намерамі таго, хто гаворыць і піша;
- распазнання значэнняў мнагазначных і складаных слоў, сінонімаў, антонімаў у рамках прадметна-тэматычнага зместу праграмы;
- граматычна правільнага афармлення іншамоўнага маўлення ў розных сітуацыях зносін у адпаведнасці з камунікатыўнымі намерамі таго, хто гаворыць і піша;
- разумення граматычных з'яў вывучаемай мовы ў працэсе чытання і ўспрымання мовы на слых;
- распазнання і самакарэкцыі лексічных/граматычных памылак у працэсе вуснага і пісьмовага маўлення.

Вучні павінны валодаць **сацыякультурнымі ведамі і ўменнямі**:

- мець уяўленне аб асноўных праблемах экалогіі і аховы навакольнага асяроддзя ў Рэспубліцы Беларусь і краінах вывучаемай мовы;
- умець абмяркоўваць з замежным равеснікам праблемы выбару прафесіі;

- умець запрасіць і атрымаць неабходную інфармацыю ў час знаходжання ў краіне вывучаемай мовы;
- умець расказаць замежнаму равесніку пра культурныя сувязі Рэспублікі Беларусь з краінамі вывучаемай мовы;
- умець перадаваць сродкамі замежнай мовы рэаліі сваёй культуры.

Вучні павінны валодаць **кампенсаторнымі ўменнямі** ва ўсіх відах маўленчай дзейнасці:

***успрыманне і разуменне маўлення на слых***

- выкарыстоўваць моўную і кантэкстуальную здагадку;
- абапірацца на фонавыя веды;
- ігнараваць незнаёмыя словы, якія не ўплываюць на разуменне асноўнага зместу;
- удакладняць дэталі з дапамогай мімікі, жэстаў, пытанняў, перапытвання;

***чытанне***

- прагназаваць змест цэлага тэксту і яго асобных сэнсавых частак на аснове фонавых ведаў, ведання рэалій, геаграфічных назваў, уласных імёнаў і інш.;
- выкарыстоўваць зрокавыя і вербальныя апоры (зноскі, каментарыі да тэксту, схемы, табліцы, графікі і інш.);
- выкарыстоўваць моўную і кантэкстуальную здагадку;
- ігнараваць незнаёмыя словы, якія не ўплываюць на разуменне асноўнага зместу;
- выкарыстоўваць двухмоўныя і аднамоўныя слоўнікі і іншую даведачную літаратуру;

***гаварэнне***

- звяртацца за дапамогай да субяседніка, выкарыстоўваючы перапытванне, удакладненне;
- вар'іраваць спосабы перадачы думкі для лепшага разумення яе субяседнікам;

***пісьмовае маўленне***

- выкарыстоўваць перыфраз;
- выкарыстоўваць тэкст у якасці апоры;
- выкарыстоўваць сінанімічныя сродкі перадачы думкі.

Вучні павінны валодаць **вучэбна-пазнавальнымі ўменнямі**:

- знаходзіць неабходную інфармацыю ў розных іншамоўных крыніцах і абагульняць яе;
- выкарыстоўваць рэфератыўныя і даведачныя матэрыялы;
- складаць план, фармуляваць тэзісы выказвання;
- структурыраваць і сістэматызаваць інфармацыю ў адпаведнасці з вырашаемай камунікатыўнай або вучэбнай задачай;
- супастаўляць моўныя з'явы ў роднай і замежнай мовах;
- аналізаваць і карэкціраваць пісьмовыя работы;
- праводзіць рэфлексію, самааналіз і самаацэнку сваёй вучэбна-пазнавальнай дзейнасці.

Вучні павінны выкарыстоўваць набыты **моўны, маўленчы і сацыякультурны вопыт** у практычнай дзейнасці і штодзённым жыцці для:

- зносін з прадстаўнікамі іншых краін, арыентацыі ў сучасным полікультурным свеце;
- паспяховага ўзаемадзеяння ў розных сітуацыях моўных зносін;
- атрымання звестак з іншамоўных крыніц інфармацыі (у тым ліку праз інтэрнэт), неабходных для далейшай самаадукацыі ў розных галінах ведаў;
- вывучэння каштоўнасцей сусветнай культуры, культурнай спадчыны і дасягненняў іншых краін;
- азнаямлення прадстаўнікоў іншых краін з культурай і дасягненнямі Рэспублікі Беларусь;
- аказання дапамогі замежным гасцям у сітуацыі штодзённых зносін.

**Праграмна-метадычныя матэрыялы**

1. Концепция обучения иностранным языкам в системе непрерывного образования Республики Беларусь // Замежныя мовы ў Рэспубліцы Беларусь. — 2002. — № 3. — С. 21—28.

2. Концепция учебного предмета «Иностранный язык» // Замежныя мовы ў Рэспубліцы Беларусь. — 2007. — № 4. — С. 3—11.

3. Программы средней общеобразовательной школы. Иностранные языки (английский, немецкий, французский, испанский). Подготовительный, I—XI классы. Утверждено Министерством образования Республики Беларусь. — Минск : НМЦентр, 1999. — 109 с.

4. Программы для учреждений, обеспечивающих получение общего среднего образования с углубленным изучением иностранного языка с 12-летним сроком обучения. Иностранные языки. Английский, немецкий, французский, испанский. Подготовительный — XI класс. Утверждено Министерством образования Республики Беларусь. — Минск : Национальный институт образования, 2003. — 64 с.

5. Цели обучения иностранным языкам : учеб. пособие / под ред. Е. И. Пассова, Е. С. Кузнецовой. — Воронеж : НОУ «Интерлингва», 2002. — 40 с.

6. Федеральный компонент государственного стандарта общего образования / Проект. М-во образования РФ // Учительская газета. — 2004. — 27 янв. — № 3 (9980). — С. 17, 23.

7. Федеральный компонент государственного стандарта общего образования / Проект. М-во образования РФ // Учительская газета. — 2004. — 3 февр. — № 4 (9981). — С. 16—18.

8. *Бим, И. Л.* Немецкий язык. Базовый курс. Концепция, программа / И. Л. Бим. — М. : Новая школа, 1995. — 128 с.

9. Единый государственный экзамен 2002 : контрол. измерит. материалы : английский язык / М-во образования РФ ; Е. Ф. Прохорова [и др.]. — М. : Просвещение, 2003. — 93 с.

10. Образовательный стандарт по английскому языку / Комитет по образованию Администрации Санкт-Петербурга, The British Council St. Petersburg, Санкт-Петербургский государственный университет педагогического мастерства ; под ред. Е. Ф. Прохоровой. — Спб., 2001. — Ч. 1. — 47 с.

11. *Биболетова, М. З.* Авторская программа к курсу для 2—9 классов общеобразоват. учреждений. Ч. 2. Основная школа (5—9) классы / М. З. Биболетова, Н. Н. Трубанаева // Английский язык в школе. — 2003. — № 2. — С. 31 — 44.

12. *Сафонова, В. В.* Английский язык : 5—9 классы школ с углубленным изучением иностранных языков. Программы для общеобразовательных учреждений / В. В. Сафонова, Е. Н. Соловова. — М. : Просвещение, 1997. — 62 с.

13. *Сафонова, В. В.* Английский язык : 10—11 классы. Школа с углубленным изучением иностранных языков. Программы общеобразоват. учреждений / В. В. Сафонова. — М. : Просвещение, 2000. — 144 с.

14. Программно-методические материалы. Иностранные языки для школ и классов с углубленным изучением английского, немецкого, французского, испанского языков. Начальная школа. — 3-е изд., стереотип. — М. : Дрофа, 2000. — 128 с.

15. Программно-методические материалы. Иностранные языки для общеобразовательных учебных заведений. Начальная школа. — 4-е изд., стереотип. — М. : Дрофа, 2001. — 160 с.

# ЗМЕСТ

